Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№9 (4553) 5 сакавіка 2010 г.





# Таямнічая кветка — талент...

У Вашым голасе квітнеюць астры,
Якіх не бачыў я раней.
Мне зразумела ўсё і ўсё не ясна…
У Вашым голасе квітнеюць астры,
І кожнай кветцы Бог сказаў: квітней.

Мне зразумела ўсё і ўсё не ясна —
Ці варты музыкі такой?!
Ці варты я хвіліны гэтай шчаснай,
Калі гучаць арфічна Вашы астры
Па-над пустой канцэртнай асакой.

Ці варты я хвіліны гэтай шчаснай,
Не ведаю і ведаць не хачу.
Запамінаю голас Ваш прыязны;
Нібыта верш, запамінаю астры —
Па-школьнаму, на памяць іх вучу.

Запамінаю голас Ваш прыязны…
Пакінь, пакінь, глыбокая струна,
Шум глыбіні і неспакой рамансны,
Каб у крыві маёй квітнелі астры…
Кроў — гэта ваза, што не мае дна.

Леанід Дранько-Майсюк



Працягам натхнёных радкоў паэта, на што яшчэ ў пазамінулым стагоддзі звярнуў увагу класік, можа быць толькі музыка. Альбо (дазволю сабе такое дапаўненне) мроіва тонкіх асацыяцый, абуджаных то экспрэсіўна хвалюючым, то загадкава кранальным гучаннем жывапісу — вось такога жыццярадаснага і рамантычнага жывапісу, які расквеціў утульную выставачную прастору сталічнай мастацкай галерэі "ЛаСандр-арт". Аўтар гэтых палотнаў — Ганна Гоманава. Нават строгі крытык, уражаны сакавітай свежасцю яе работ, напэўна, дадаў бы да крылатых паэтавых фраз і сваё захопленае слова, накшталт: "У вашай творчасці квітнее талент...".

А ў кожным таленце, як вядома, квітнее таямніца — таму і растлумачыць яго немажліва. Праўда, зразумець умовы яго выспявання ды раскрыцця часам удаецца. Ужо сама назва выстаўкі "Дэбют у трэцім пакаленні" кажа пра невыпадковасць з'яўлення Ганны Гоманавай у мастацкім асяроддзі. Так, яна працягвае знаную беларускую творчую дынастыю. Заснавальнік дынастыі Гоманавых Уладзімір Кірылавіч — вядомы жывапісец савецкай эпохі, увайшоў у гісторыю айчыннага мастацтва сюжэтнымі кампазіцыямі, партрэтамі, нацюрмортамі, натурнымі пейзажамі. Яго самаадданае захапленне мастацтвам пераняў сын Леанід — асоба адметная ў сучасным беларускім жывапісе. Унучка Ганна, шчодра адораная прыродай і таксама захопленая творчасцю, прысвяціла незабыўнаму дзядулю сваю першую персанальную выстаўку.

"Захоўваць традыцыі і не быць падобным да сваіх папярэднікаў — задача складаная, але пры яркай індывідуальнасці з нестандартным светаўспрыманнем гэта магчыма, — разважае мастацтвазнаўца, дырэктар галерэі "ЛаСандр-арт" Ларыса Бортнік. — Дзякуючы асацыятыўнаму мысленню, Ганна з уражлівай смеласцю пераўтварае рэальныя прадметы ў мудрагелістыя колеравыя кампазіцыі, пры гэтым лёгка прачытваюцца не толькі тэма, але і эмацыйны стан аўтара. Радаснае, па-жаночы тонкае ўспрыманне свету ўносіць у яе карціны мажорнасць, надае палітры чысціню і сакавітасць".

Варта падзівіцца на дэбют Ганны Гоманавай і пераняць ад яе кветак, маляўнічых нацюрмортаў, пейзажаў асаблівы настрой, што гэтак адпавядае вясноваму святу — Дню жанчын! Выстаўка працуе да 13 сакавіка.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: Ганна Гоманава і яе палотны "Кубкі", "Макі", "Водар" (2009 год).

Фота Кастуся Дробава







## Пункцірам

• Як паведамілі ў прэс-службе Кіраўніка дзяржавы, Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі за асаблівыя дасягненні ў сацыяльна-культурным развіцці, падрыхтоўку высокакваліфікаваных кадраў і ў сувязі з 70-годдзем з дня заснавання Гродзенскаму дзяржаўнаму ўніверсітэту імя Янкі Купалы прысуджаны Ганаровы дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь.

• Беларускі сцэнарыст Андрэй Курэйчык заключыў кантракт на напісанне сцэнарыя са студыяй "Базілеўс" Цімура Бекмамбетава. Андрэй Курэйчык прыме ўдзел у праекце "Новы год крочыць па краіне" — галоўнай расійскай навагодняй прэм'еры 2011 года. У фільма незвычайны фармат. Ён будзе здымацца некалькімі рэжысёрамі, але стане не традыцыйным ужо альманахам, а адзінай гісторыяй з рознымі лініямі, якія пераплятаюцца. Мяркуецца, што ў здымках прымуць таксама ўдзел прадзюсер праекта Цімур Бекмамбетаў і рэжысёры Аляксандр Вайцінскі і Дзмітрый Кісялёў.

• Міністэрства культуры Беларусі распаўсюдзіла прэс-рэліз, у якім пералічвае мерапрыемствы, што рыхтуюцца да 80-годдзя Уладзіміра Караткевіча. Плануецца мемарыялізаваць і добраўпарадкаваць мясціны, звязаныя з яго жыццём і дзейнасцю. У Кіеве, дзе пісьменнік вучыўся, паўстане яму помнік. Прадугледжана выданне твораў Караткевіча на замежных мовах. На кінастудыі "Беларусьфільм" распачалі працу над стварэннем 4-серыйнага тэлевізійнага мастацкага фільма паводле кнігі "Каласы пад сярпом тваім". Акрамя гэтага запланавана правядзенне мастацкіх выстаў, канферэнцый.

• Памятная шыльда ў гонар Францішка Багушэвіча з'явіцца сёлета ў Вільні. Пра гэта паведаміў Юрась Юркевіч, старшыня Таварыства беларускай мовы Віленскага краю. У літоўскай сталіцы Францішак Багушэвіч працаваў адвакатам. 21 сакавіка будзе адзначацца яго 170-гадовы юбілей. "Ужо адліта форма шыльды, я бачыў фотаздымкі. Адзінае, у чым я не ўпэўнены, што мы паспеем да 21 сакавіка, але тое, што шыльда будзе адкрыта ў гэтым годзе, гэта дакладна. Бо на тое ёсць воля беларускай дзяржавы і воля беларускай супольнасці ў замежжы", — сказаў Юрась Юркевіч.

• Свет пабачыла факсімільнае перавыданне першага паэтычнага зборніка народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна "Маладзік над стэпам". Упершыню кніга з'явілася ў 1959 годзе. Факсіміле зроблена з асобніка, які паэт падпісаў сваёй маці Акуліне Андрэеўне, і ўтрымлівае два аўтографы аўтара: "Дарагой маёй матулі шчыра дзякую і долу кланяюся, што нарадзіла, узгадавала, на правільны шлях наставіла. Твой сын Рыгор Барадулін. 30.VII.59 г." і "Мой першы блін... Рыгор Барадулін". Перавыданне стала магчымым дзякуючы рупнасці журналіста Глеба Лабадзенкі.

• У Інтэрнеце з'явіўся сайт для настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры — www.belkabinet.ucoz.ru. Тут размешчаны нарматыўная база, метадычныя рэкамендацыі. Але карысныя матэрыялы на ім могуць знайсці таксама і вучні. Так, на сайце ёсць невялікі "Слоўнік цяжкіх для напісання слоў", "Памятка для напісання сачынення", "Літаратуразнаўчы аналіз мастацкага твора". У "Бібліятэцы" размешчаны творы беларускіх пісьменнікаў, якія вывучаюцца па школьнай праграме. Творы можна праслухаць, бо размешчаны яны ў аўдыёфармаце.

Падрыхтаваў Павел РАДЫНА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Плён — адчувальны

**Віцебскае абласное аддзяленне СПБ арганізавала вечарыну, прысвечаную творчасці пісьменніка Барыса Бележэнкі.**

Больш як паўвека Барыс Паўлавіч прысвячае сябе служэнню літаратуры. Яго энергіі і працаздольнасці могуць пазайздросціць маладыя творцы. Пісьменніку падуладныя паэзія і проза, а гумар і сатыра — нязменныя спадарожнікі яго жыцця. Складаючы афарызмы і прыдумваючы казкі для дзяцей, Барыс Бележэнка знаходзіцца ў няспынным творчым пошуку. За зусім кароткі прамежак часу з-пад пяра земляка выйшлі пяць новых кніг, і цяпер у яго літаратурный скарбонцы іх адзінаццаць. Сёмай па ліку была кніга паэзіі "Тайна иволги" (2007). За кнігу сатыры і гумару "Успаміны пра майго асла" (2008) Барыс Паўлавіч атрымаў званне лаўрэата рэспубліканскага конкурсу ў намінацыі "Гумар і сатыра", а за кнігі "Сны и дороги" (проза, 2008) і "Волшебная мельница" (казкі, 2008) аўтара ўзнагародзілі абласной літаратурнай прэміяй імя У. Караткевіча. І зусім нядаўна пабачыла свет кніга прозы "Круги земные".

На сустрэчу, якая адбылася ў Віцебскай абласной бібліятэцы імя У. Леніна, завіталі сябры, калегі па паэтычнай дзейнасці, шчырыя прыхільнікі мастацкага слова Барыса Бележэнкі. Старшыня Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Тамара Красنова-Гусачэнка падкрэсліла, што творчасць Б. Бележэнкі пранізана высокай маральнасцю і невычэрпнай цеплынёй. Паэты Мікалай Наменнікаў, Алена Крыклівец, Маіна Бабарыка і Валерый Строкін успаміналі абставіны свайго знаёмства з Барысам Паўлавічам і адзначалі ўплыў яго асобы на іх уласнае светаўспрыманне.

На вечарыне ўзгадвалася пра супрацоўніцтва паэта з мастакамі і музыкантамі. Так, альбомы віцебскіх майстроў пэндзля Анатоля Кавалёва і Юрыя Зуева насычаны лірычнымі радкамі Барыса Паўлавіча, якія гарманічна дапаўняюць рэпрадукцыі карцін, дапамагаюць больш поўна раскрыць сэнс задуманага жывапісцамі.

Многія вершы Бележэнкі пакладзены на музыку. Маэстра Прыдзвіння Віталь Раўза і Надзея Несцярэнка паспрыялі пераўтварэнню паэтычных твораў у песні.

Наталля ФЕНЧАНКА,
загадчыца аддзела беларускай літаратуры Віцебскай абласной бібліятэкі імя У. Леніна

# Пра кнігу і... падарожжы

**Значнае месца ў дзейнасці Гомельскага абласнога аддзялення СПБ займае праца з літаратурнымі аб'яднаннямі.**

Так, нядаўна ў Гомельскім раённым Доме культуры адбылася сустрэча ўдзельнікаў літаб'яднання "Пралеска" з вядомым гомельскім празаікам і драматургам Васілём Ткачовым.

Кіраўнік літаратурнай суполкі Ева Дударга расказала пра творчы шлях В. Ткачова. Размова ішла не толькі пра кнігу "Снукер", што нядаўна з'явілася ў друку, але і пра іншыя, у тым ліку і драматычныя, творы аўтара. Шчыра і нязмушана В. Ткачоў адказваў на пытанні. Падчас гутаркі ён адзначыў ролю літаратурнага аб'яднання "Пралеска" не толькі як арганізацыйнага цэнтра творчых людзей, ураджэнцаў Гомельскага раёна, але і як школы прафесійнага росту. За 11 гадоў існавання "Пралескі" 12 яе ўдзельнікаў сталі членамі Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Многія пралескаўцы асабіста знаёмы з Васілём Юр'евічам, што стварыла ў зале даверлівую сяброўскую атмасферу. Добрыя словы пра яго творчасць сказалі Эма Усціновіч, Ніна Шклярава, Аляксандр Атрушкевіч. Лідзія Возісава і Генадзь Говар прыгадалі найват сумесныя падарожжы з ім. Як заўважыў Міхась Болсун, найбольш значныя выказванні і выпадкі не застаюцца па-за ўвагай В. Ткачова і абавязкова працягваюць жыць у яго творах. Аляксандр Джад адзначыў, што Васіль Юр'евіч — вельмі патрабавальны і ў той жа час надзвычай тактоўны настаўнік для пачынаючых аўтараў.

Загадчык аддзела маркетынгу раённай бібліятэкі Таццяна Мачалава паведаміла, што па выніках апытання больш як 50 працэнтаў чытачоў беларускай літаратуры ведаюць і любяць кнігі В. Ткачова. "Гэта для мяне самая высокая ўзнагарода", — сказаў пісьменнік.

Галіна РАГАВАЯ

## Памяць

# З удзячнасцю, прачула



У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа беларускія літаратары ўспаміналі народнага пісьменніка, акадэміка шмат дый проста незвычайнага чалавека Івана Якаўлевіча Навуменку, якому сёлета споўнілася б 85 гадоў.

Постаць Івана Навуменкі асабліва дарагая для Коласаўскага музея: хлопчык з палескай глыбінкі з самага дзяцінства рос з Коласам у сэрцы, стаўшы потым і глыбокім даследчыкам яго творчасці, і частым госцем музея Песняра. Пра тое, што імя Івана Навуменкі шануецца, сведчыла людная і прадстаўнічая аўдыторыя коласавай гасцёўні.

Дырэктар музея Зінаіда Камароўская падкрэсліла, наколькі для ўстановы дарагі быў Іван Навуменка не толькі сваімі ўдумлівымі працамі пра творчасць Якуба Коласа, але і звычайным чалавечым словам на розных музейных імпрэзах.

Менавіта ўсё чалавечае (У. Калеснік) стала прадметам згадак прысутных пра Івана Навуменку. На жаль, гэта ўсё прамаўлялася ўжо не ў прысутнасці юбіляра, які, відавочна, пакінуў пасля сябе добрую змену. Яе прадстаўнікі — Генрых Далідовіч і Сцяпан Лаўшук, колішнія студэнты Івана Якаўлевіча — былі асабліва расчуленыя падчас сваіх прамоў-згадак. Апошні да таго ж — зямляк свайго Настаўніка. Не дзіўна, што цесныя стасункі з такім чалавекам сталі трывалым падмуркам для пісьменніцкага росту Г. Далідовіча і даследчыка С. Лаўшука.

Пра Івана Навуменку як сем'яніна распавяла яго дачка Валерыя Іванаўна. Супрацоўнікі музея былі вельмі ўдзячны за прадстаўленыя ёю для музейнай выставы асабістыя рэчы, фота і рукапісы Івана Якаўлевіча.

Мастацкім фонам вечарыны сталі музычныя нумары навучэнцаў музычнай школы № 15 г. Мінска: маладыя школьнікі прадэманстравалі свае ўменні ігры на цымбалах, скрыпцы, акардэоне і мемарыяльным раялі, які з часоў жыцця Якуба Коласа ўпрыгожвае сваімі чароўнымі гукамі літаратурныя сустрэчы ў гасцёўні.

Анатоль ТРАФІМЧЫК,
старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа

На здымку: прамаўляе Міхась Мушынскі.

Фота Кастуся Дробава

## Імпрэзы

# У хрысціянскім святле



У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылося свяккаванне 70-годдзя паэта і публіцыста Алега Бембеля (Зніча). Паслушнік Жыровіцкага манастыра інак Мікалай (так гучыць яго царкоўнае імя) дэкламаваў вершы, напоўненыя хрысціянскімі ідэямі і духоўнымі настаўленнямі, са сваёй новай кніжкі "Мне не цябе шкада, а тваю маці…".

Ужо больш як 14 гадоў "за мурам" Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра паэт Зніч не стрымлівае сваё паэтычнае гарэнне. "Паслушніцтва вельмі добра паўплывала на яго як на творцу, менавіта ў манастыры зборнікі ў яго сталі з'яўляцца адзін за адным, — лічыць сябра паэта, навуковец і публіцыст Анатоль Астапенка, — друкуюцца творы і ў "Жыровіцкім лістку", які ён выдае пры манастыры з 1998 года".

Дачка паэта, мастацтвазнаўца, дырэктар Гарадской мастацкай галерэі твораў Л. Шчамялёва Таццяна Бембель, якую віноўнік імпрэзы прадставіў як "мой хатні Галоўліт", шчыра распавяла пра складаны характар бацькі: "Ён просіць называць яго "брат Мікалай", толькі я часам не ведаю: старэйшы ён брат, ці малодшы? Бо столькі ў яго нейкага абсалютна мірскога маладога запалу, столькі жадання спрачацца".

Літаратуразнаўца Ірына Багдановіч згадала свае першыя ўражанні ад знаёмства з творчасцю і асобай Алега Бембеля, якое адбылося яшчэ ў 1980-я: "Як уражвалі яго́ныя вершы! Бо традыцыя духоўнай паэзіі тады была практычна абарваная".

Дапоўнілі хрысціянскую скіраванасць імпрэзы песні гурта "Сустрэча" на словы беларускіх паэтаў.

Саша ДОРСКАЯ

Фота Святланы Палікарпавай

## З нагоды

# У гонар мовы

У Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў адзначылі Міжнародны дзень роднай мовы. У свяце прынялі ўдзел міністр культуры Беларусі Павел Латушка і рэктар гэтай ВНУ Барыс Святлоў.

У рамках свята ва ўніверсітэце прайшла цырымонія ўзнагароджвання тых, хто папулярызуе беларускую мову ў сваёй прафесійнай дзейнасці. Гэта не толькі творчыя прафесіі — журналісты, пісьменнікі, выкладчыкі роднай мовы і літаратуры. Сёння да іх усё часцей і часцей далучаюцца людзі з тэхнічнай адукацыяй альбо гуманітарыі, хто распрацоўвае прафесійную лексіку ў сферах дзейнасці, якія раней цалкам з'яўляліся рускамоўнымі. Граматы атрымалі выкладчык матэматыкі БДУ Аляксандр Самадураў, стаматолаг Алесь Людчык, выкладчык логікі і філасофіі БДУ культуры і мастацтваў, аўтар першага падручніка па логіцы на беларускай мове Аркадзь Бабко, інак Мікалай (Алег Бембель, паэт Зніч). Узнагароды ўручалі старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў і лідэр гурта "Палац" Алег Хаменка. Гэтыя людзі з'яўляюцца не толькі выкладчыкамі БДУКіМ, але і аддanымі папулярызатарамі роднай мовы.

Гучалі вершы, сваімі спевамі прысутных радавалі выканаўцы аўтарскай песні Радмір Веліч, Таццяна Беланогая, ансамблі "Талака", "Небасхіл", гурт "Джамбібум".

Міжнародны дзень роднай мовы быў абвешчаны на трыццатай сесіі ЮНЕСКА па прапанове Бангладэш у 1999 годзе. Яго мэта — спрыянне ўсведамленню моўных і культурных традыцый, якія грунтуюцца на ўзаемаразуменні, талерантнасці і дыялогу. Дзень святкавання — 21 лютага быў абраны таму, што ў гэты дзень у 1952 годзе загінулі пяць студэнтаў, якія змагаліся за наданне мове бангла статуса дзяржаўнай у тагачасным Пакістане, усходняя частка якога пазней стала незалежнай дзяржавай Бангладэш.

Дзмітрый БЕРАЖНЫ

## Літ-абсягі

Не бяднее на таленты гэты дзівосны куток Бацькаўшчыны. Пра гэта сведчыць хаця б той факт, што толькі на працягу апошніх месяцаў выдалі свае кнігі трое мясцовых аўтараў.

Найперш — паэт Мікола Ляшчун. Сам родам з-пад Хойнікаў, ён даўно ўжо стаў лагайчанінам, настаўнічае ў райцэнтры. Мае грунтоўную лінгвістычную падрыхтоўку, свабодна валодае англійскай і нямецкай мовамі. Літаратурную працу пачаў у студэнцкія гады з мастацкага перакладу. Вершы М. Лешчуна змяшчаліся у часопісах "Полымя", "Маладосць", газетах "Мінская праўда", "Культура", "Настаўніцкай газеце". У 2007 годзе пабачыў свет яго зборнік "Палескія сны", лейтматыў якога — любоў да Радзімы і маці, матчынай мовы. Пад канец мінулага года ў выдавецтве "Адукацыя і выхаванне" выйшаў другі зборнік М. Лешчуна пад назвай "Белая завея", дзе сабраны вершы апошніх гадоў.

Значнай падзеяй у літаратурным жыцці Лагойшчыны стаў выхад у свет першага зборніка Уладзіміра Палупанава "Час збіраць камяні". Аўтар — чалавек з багатай біяграфіяй. Ён, як і М. Ляшчун, скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў, працаваў перакладчыкам у Алжыры і на Мадагаскары, у беларускім пасольстве ў Парыжы. Па поклічы сэрца колькі год таму вярнуўся ў бацькоўскі кут, жыве ў вёсцы Корань, дзе працягвае займацца літаратурнай творчасцю. У названым зборніку У. Палупанава змешчаны апавяданні, незавершаны гістарычны раман, які маецца выйсці ў поўным аб'ёме, і вершы розных гадоў, многія з якіх напісаны ўдалечыні ад Радзімы і праsякнуты настальгічнымі пачуццямі. Прэзентацыя кнігі прайшла нядаўна ў Кораньскім сельскім Доме культуры і выклікала жывую зацікаўленасць вяскоўцаў.

# Тут зямля такая…



Зямля Янкі Купалы і Змітрака Бядулі, Ядвігіна Ш. і Леапольда Родзевіча, Івана Пташнікава, Ніла Гілевіча ды Сяргея Давідовіча — так можна ахарактарызаваць Лагойшчыну літаратурную. Невыпадкова сюды, у знакамітыя Акопы, перыядычна прыязджаюць на сустрэчу-семінар маладыя паэты Міншчыны.

А ў памяшканні Лагойскага цэнтра культуры напрыканцы мінулага года была наладжана прэзентацыя другога па ліку зборніка мясцовага паэта Яўгена Ганчарэнкі "Світанак над Гайнай". Увазе чытачоў прапанаваны вершы, што выйшлі з-пад пяра загартаванага жыццём чалавека, душой і сэрцам адданага сваёй зямлі і людзям. Выказвае Яўген Савельевіч цікавасць да мінуўшчыны Лагойшчыны, што адлюстравалася ў запісаных ім легендах, змешчаных у зборніку.

Чакаецца выхад у свет зборніка яшчэ аднаго нашага земляка — празаіка і паэта Міколы Захаранкі, які мае багаты творчы набытак. Апавяданні яго шматразова друкаваліся на старонках "Полымя" і "Маладосці", падборкі вершаў — у штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", камедыя "Паехалі!" ставілася на сцэне Купалаўскага тэатра.

Яднае многіх, хто спрабуе свае сілы на ніве прыгожага пісьменства, творчая суполка "Рунь", якая мае сталую "прапіску" пры раённай бібліятэцы. Тут рэгулярна за кубачкам гарбаты збіраюцца мясцовыя аўтары, каб вынесці на таварыскі суд свае творы, пачуць заўвагі і парады. На апошняй такой сустрэчы ў цэнтры ўвагі былі не толькі аўтары згаданых зборнікаў. Аб'ектыўную, увогуле станоўчую ацэнку атрымалі вершы настаўніцы Надзеі Мядзелец, студэнткі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў Марыны Паўлюкавец і рабочага Івана Барысевіча з вёскі Казлеўшчына.

Віктар НЕСЦЯРОВІЧ

На здымку: падчас прэзентацыі кнігі Яўгена Ганчарэнкі "Світанак над Гайнай".

## З-пад пяра

65-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне была прысвечана міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Узаемадзеянне дзяржаўных устаноў і прыватных калекцыянераў у справе патрыятычнага выхавання моладзі", якую ў музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны правялі міністэрствы адукацыі і культуры краіны, а таксама гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Прывітальным словам канферэнцыю адкрыў намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэуш Стружэцкі. У дыскусіях айчынных вучоных па самых розных аспектах ваеннай гісторыі Беларусі бралі ўдзел навукоўцы і калекцыянеры з Расіі, Украіны, Латвіі, Літвы. У выступленнях і дакладах гучала тэма пашырэння прыватнай калекцыйнай прасторы на музейных плошчах, ролі прыватных збораў у галіне філакартыі, фалерыстыкі, банікстыкі, нумізматыкі і нават філуменістыкі ў выхаванні любові да роднай старонкі, у гістарычных і краязнаўчых вышуках.

Дар'я ШОЦІК

Як паведамілі з Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, там працягваецца выстаўка "Кветкавы баль" знанага фларыста нашай краіны Дзіны Шымук, якая працуе ў японскай тэхніцы ашыбана: жывапіс засушанымі кветкамі, раслінамі, лісцем і іншымі прыроднымі матэрыяламі. Мастачка першай у свеце выйшла за межы пейзажнай тэматыкі ў фларыстыцы і стварае адметныя вобразы, якія перадаюць прыгажосць не толькі прыроды, але і чалавека. Творы Дзіны Шымук захоўваюцца ў музеях і прыватных калекцыях як у Беларусі, так і за яе межамі.

Ул інф.

Жыццёваму і творчаму шляху паэта Івана Лагвіновіча прысвячалася вечарына, якая адбылася ў Баранавіцкай гарадской цэнтральнай бібліятэцы імя Валянціна Таўлая. Сярод прысутных былі пісьменнікі, аматары творчых згуртаванняў, сябры, настаўнікі і вучні. Гучалі вершы паэта, беларускія народныя песні, словы ўдзячнасці і пажаданні плёну ў творчасці. На фоне разгорнутай і прадуманай выставы "Жыццё маё здаецца песняю…" з дэкламацыяй уласных вершаў і ўспамінамі некаторых момантаў свайго жыцця выступіў і сам Іван Лагвіновіч.

Міхась МАЛІНОЎСКІ

Са студзеня гэтага года ў Беларусі пачаў выходзіць новы штомесячны часопіс для старшакласнікаў, іх бацькоў і педагогаў "Кем быть?". Выдаецца ён пры садзейнічанні Рэспубліканскага цэнтра прафесійнай арыентацыі моладзі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі і з'яўляецца своеасаблівым компасам у свеце прафесій. На старонках выдання чытачы пазнаёмяцца з навучальнымі ўстановамі рэспублікі і спецыяльнасцямі, якія ў іх можна набыць, даведаюцца пра ўмовы паступлення, прачытаюць парады, неабходныя для падрыхтоўкі да цэнтралізаванага тэсціравання і прафесійна-псіхалагічнага субяседавання.

Не засталіся па-за ўвагай журналістаў і літаратура, мастацтва, пра што сведчаць часопісныя рубрыкі "Музыкальная гасціная" і "Літаратурны сшытак". Зрэшты, вядучы апошняй — паэт, лаўрэат прэміі імя Васіля Віткі Анатоль Зэкаў. Першы выпуск "Літаратурнага сшытка" цалкам адведзены пад творчасць членаў літаратурнага клуба "Купалінка", які аб'ядноўвае 18 літгурткоў школ Мінскага раёна і якім кіруе вядомы беларускі паэт Мікола Чарняўскі.

Лізавета ШЫЛАЙ

## Арт-лінія

**7 сакавіка ў нашай сталіцы ўрачыста адкрыецца фестываль "Мінская вясна-2010". Традыцыйная музычная падзея прысвячаецца творчасці вялікіх кампазітараў-рамантыкаў, з дня нараджэння якіх сёлета адзначаецца 200 гадоў: Фрыдэрыка Шапэна і Роберта Шумана.**



# Шапэн і Шуман: музыка вясны

Разам з каляндарнай вясной уваходзіць у наша жыццё і вясна музычная. Сёлета яна завітае ў беларускую сталіцу на месяц раней, чым у мінулыя гады, і працягнецца да канца красавіка. Праграма першага фестывальнага канцэрта, які адбудзецца нядзельным вечарам у Беларускай дзяржаўнай філармоніі, вабіць суквеццем імёнаў. Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі выступіць пад кіраўніцтвам дырыжора з Ірландыі Бары Дугласа (ён вядомы і як піяніст, пераможца Міжнароднага конкурсу імя П. Чайкоўскага, і, дарэчы, учора граў з нашым аркестрам ды маэстра А. Анісімавым Канцэрт № 2 С. Пракоф'ева). За раялем — лаўрэат міжнародных конкурсаў, госця з Расіі Юліяна Аўдзеева. Прагучаць уверцюра Ф. Мендэльсона "Казка пра прыгожую Мелузіну", Сімфонія № 1 Я. Брамса і Першы канцэрт Ф. Шапэна для фартэпіяна з аркестрам.

2010 год абвешчаны ЮНЕСКА Годам Шапэна, і яго музыка (арыгінальныя творы ў традыцыйным выкананні, у розных выканальніцкіх інтэрпрэтацыях ды інструментальных пералажэннях) упрыгожыць ці не кожны фестывальны вечар. Напрыклад, камерны аркестр з Польшчы "Aukso" прапануе мінчанам джазавыя версіі твораў свайго геніяльнага суайчынніка. Сусветна вядомы малады маскоўскі піяніст Дзяніс Кажухін разам з Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам Яўгена Бушкова выканае Другі фартэпіянны канцэрт польскага класіка і прэм'еру "Сярод зімы абрыс Шапэна" беларускага кампазітара Ларысы Сімаковіч для струннага аркестра, фартэпіяна і клавесіна. Багатыя на сюрпрызы будуць праграмы, падрыхтаваныя Ансамблем салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава: "Ліцьвінская мелодыя Шапэна", "Прынашэнне Шапэну"...

Вясновы мінскі фэст збярэ выканаўцаў з 9 краін і падорыць меламанам свежы букет самай рознай музыкі. Будуць у ім і шэдэўры Роберта Шумана: наш піяніст-віртуоз Ігар Алоўнікаў парадуе публіку праграмай "Творы Роберта і Клары Шуман"; госці з Бельгіі, Літвы, ЗША, Расіі, Францыі "перачытаюць" старонкі камерна-інструментальнай і сімфанічнай спадчыны выдатнага прадстаўніка нямецкага музычнага рамантызму...

Пра сустрэчы з добра знаёмымі творамі і музычныя прэм'еры, пра выступленні славутых майстроў і маладых перспектыўных выканаўцаў падрабязна гаварылі ўдзельнікі прэс-канферэнцыі, што адбылася ў філармоніі. А колькі скажа сам фестываль! Настроімся ж на хвалю яго падзей.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: намеснік генеральнага дырэктара Беларускай дзяржаўнай філармоніі Андрэй Лапцёнак, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь заслужаны артыст Расійскай Федэрацыі Яўген Бушкоў і мастацкі кіраўнік БДФ заслужаны артыст Беларусі прафесар Юрый Гільдзюк падчас сустрэчы са сталічнымі журналістамі напярэдадні фестывалю.

Фота Віктара Кавалёва

## Повязі

# Агульнаславянскія прыярытэты

**Х Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Славянскі свет: духоўнасць, культура, самасвядомасць" ладзілася нядаўна ў сталічным будынку БРСМ.**



Мэта гэтай маштабнай канферэнцыі — развіццё канцэпцыі грамадскай бяспекі славянскіх народаў на аснове традыцыйнага славянскага светапогляду і сучаснай навукі. А сярод асноўных задач міжнароднага форуму — збліжэнне дзяржаўных і грамадскіх ініцыятыў Беларусі, Расіі, Украіны ў адраджэнні агульнаславянскай асноў традыцыйнай духоўнасці і здаровага ладу жыцця.

У канферэнцыі бралі ўдзел больш як сто вядомых дзеячаў культуры, навукі, гісторыкаў і лідэраў грамадскіх арганізацый Беларусі, Украіны, Расіі і прадстаўнікоў славян з іншых дзяржаў. На абмеркаванне выносіліся аспекты культурнай разнастайнасці і ўзаемадзеяння славянскай культуры ў сучасным свеце, яе фундаментальных падмуркаў у культурнай спадчыне. Даклады і дыскусіі былі прызваны асвятліць падыходы да вырашэння грамадска значных праблем культурнай прасторы і ўзаемадзеяння людзей з розным светапоглядам і каштоўнасцямі, моўнай, этнічнай, культурнай і рэлігійнай ідэнтычнасцю.

Адкрыў канферэнцыю прафесар, старшыня Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Славянскі парламенцкі саюз" і Беларускага славянскага камітэта Сяргей Касцян. Сяргей Іванавіч падкрэсліў: адметна, што дзесятая канферэнцыя праходзіць у Мінску, як і ў першы раз, на базе БРСМ. Тады яна мела назву "Здаровы лад жыцця і цвярозасць — стратэгія будучыні Рэспублікі Беларусь".

Таксама прысутных віталі першы сакратар ЦК БРСМ Ігар Бузоўскі, гісторык, публіцыст, член выканкама Славянскага камітэта Расіі Павел Тулаеў, прафесар, прэзідэнт Паўночна-заходняга аддзялення Міжнароднай славянскай акадэміі Барыс Пратасаў і іншыя.

На міжнародным форуме прапаноўваліся наступныя тэматычныя пасяджэнні: вытокі славянскай культуры; карані славянскага пісьменства; самасвядомасць, культура, традыцыі славян; дэмаграфічная бяспека славянскага свету. А праца секцый ладзілася па такіх кірунках, як гісторыя, археалогія, крыніцазнаўства; фальклор, этнаграфія, этналогія, філасофія; славянскія святы, абрады, традыцыі.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: адзін з момантаў канферэнцыі.

Фота Кастуся Дробава

Імклівыя змены ў літаратурным працэсе патрабуюць рэфлексіі, а грунтоўны аналіз, як заўжды, спазняецца. Прапануем вандроўку на літаратурным экспрэсе — усю беларускую літаратуру вокам ахопім і яшчэ гарбаты з праваднікам пап'ём. Тым больш праваднік сёння адмысловы — літаратар, крытык, загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта, улюбёны казачнік студэнтаў Інстытута журналістыкі Белдзяржуніверсітэта Пятро Васючэнка.




# Ад манускрыпта да блога — і назад

## Платформа XVII ст., барочныя ліхтары

— Спадар Пятро, вы чытаеце курс даўняй беларускай літаратуры. Гэты прадмет няпросты, асабліва для першакурснікаў.

— Так. Ёсць крыху несправядлівасці ў тым, што студэнты пачынаюць знаёмства з сусветнай літаратурай ад старажытнасці. Бо старажытная літаратура — адна з самых складаных. Хаця ў стыхіі старажытнай літаратуры было ўсё, чытачы былі жывыя людзі, як і мы сёння, хацелі рознай чытанкі. Але і мову гэтай літаратуры, і каноны, паводле якіх яна ствараецца, складана ўспрымаць студэнтам. Таму, калі выкладаю, прымяняю розныя спосабы мадэрацыі. Прыкладам, працую з будучымі журналістамі — і аказваецца, што старажытная літаратура вельмі публіцыстычная. Тыя са студэнтаў, якіх лічу сваёй удачай, пранікаюцца своеасаблівым шармам старажытнай літаратуры, старой кнігі, старадруку, мовы, праз якую даводзіцца прадзірацца, нават дызайнам выданняў па даўняй літаратуры. Прасякаюцца тым эрасам тэксту, які можна знайсці передусім у літаратуры старажытнай, прывабнасцю старых кніг, якія ўяўляюцца манускрыптамі з пажаўцелым пергаментам…

— Якому тэксту старажытнай літаратуры варта было б надаваць сёння больш увагі і аўдыторнага часу?

— Тут адкрыццё цяжка зрабіць. Вартыя пільнай увагі і "Слова пра паход Ігаравы", і "Аповесць мінулых гадоў". Фрагменты Полацкага летапісу, якія растварыліся ў іншых зводах, прадмовы і пасляслоўі Францыска Скарыны, лацінамоўныя паэмы Яна Вісліцкага "Пруская вайна" і Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра" ды іншыя. Наноў адкрытыя творы беларускіх аўтараў, якія пісаліся і па-польску, і на лаціне; вернутыя з забыцця, скажам, "Авантуры майго жыцця" Саламеі Пільштыновай, "Камедыя" Каэтана Марашэўскага і г.д. Можна больш увагі надзяліць перакладной літаратуры XII—XIII стст. — там ёсць усё, ад прыгодніцкай прозы да філасофскіх трактатаў, прытым гэта творы, ад якіх адарвацца цяжка. Студэнты часам цікава расчытваюць творы старажытнай літаратуры, прыкладам, адна з маіх студэнтак не ўхваліла вандроўкі Саламеі Пільштыновай — чаго, маўляў, ездзіла, сядзела б дома, дзяцей гадавала ды мужу капусту варыла.

— Якім чынам выкладчык літаратуры можа актуалізаваць забытыя творы ў нацыянальным дыскурсе?

— Першы шлях — герменеўтыка, уважлівае прачытанне тэксту. Люты вораг студэнтаў тут кароткія пераказы.

— Людміла Рублеўская зафіксавала новы павеў — пераказ класікі праз Твітэр, у 140 сімвалах. Сяргей Балахонаў жартам прымяніў такі скарот да "Слова пра паход Ігаравы": "Князь Ігар пайшоў у паход на полаўцаў без увагі на благія прыкметы. Мусіў уцякаць. І гэта на тле цёмных месяцаў і згадак Усяслава Чарадзея".

— Дайджэсты даўно існуюць. Амерыканскія школьнікі Шэкспіра ў дайджэстах вывучаюць, што вельмі сумна, між іншым. Але вернемся да актуалізацыі забытага. Другі шлях — інтэрпрэтацыя і мадэрнізацыя тэкстаў, пошук аналогій у сучаснасці.

— Прадэманструйце, калі ласка, гэту мадэрнізацыю на асобным тэксце.

— Возьмем, напрыклад, "Прамову Мялешкі". Там вельмі шмат таго, што актуальна і сёння. Патрыятызм сапраўдны і местачковы, ксенафобія, безагаворачная ідэалізацыя мінулага — усё гэта ў творы ёсць, а праблемы вельмі сучасныя. Нарэшце, спалучэнне высокага і нізкага, вульгарнага і вытанчанага. У гэтым плане тэкст "Прамовы Мялешкі" нават постмадэрнісцкі, там і алюзіяў шмат, і нечаканых паралеляў — барока ёсць барока.

— Вы, пэўна, невыпадкова запаралелілі барока і постмадэрнізм?

— І там, і там у аснове тэксту ляжыць гульня. Homo eudens ёсць носьбітам і постмадэрніцкай літаратуры, і барочнай.

## Стоп-кран, скокі праз нацыянальнае

— Сумніўнае, як для мяне, гэта раздзяленне на масавую літаратуру і якасную. А на ваш погляд, масавая літаратура можа быць якаснай і цікавай?

— Яна можа быць якаснай — тады, калі ператвараецца ў літаратуру сур'ёзную. Мне пра гэта не раз даводзілася пісаць. Сур'ёзная літаратура пазычае метады ў літаратуры масавай, і наадварот. Не зраблю адкрыцця, калі прывяду такія прыклады, як "Злачынства і пакаранне" Фёдара Дастаеўскага, што можна назваць дэтэктывам, альбо шматпластовыя творы Умберта Эка, дзе элементы трылера спалучаны з філасофскай прозай, ці "Лабірынты" Вацлава Ластоўскага. Вядома, гэта сур'ёзная літаратура. Ведаеце, спрактыкаванае вока заўсёды ўбачыць розніцу паміж маслітам і сапраўднай рэччу, паміж эрзацам і жывым творам. Добра, калі ад дыфузіі метадаў павышаецца агульны ўзровень літаратуры. Я за гэты працэс, збліжэнне масавай літаратуры і сур'ёзнай, толькі ў тым выпадку, калі будзем бачыць рост эстэтыкі, духоўнасці, інтэлектуалізму. А калі адбываецца дэградацыя, трэба штосьці мяняць.

— Як мяркуеце, у які з акрэсленых вамі бакоў рушыць беларускамоўная літаратура?

— Беларускамоўная літаратура сама па сабе мае адценне элітарнасці. Ёю займаюцца творцы, якія свядома аддзяляюць сябе ад масавага густу. Таму што масавага чытача на беларускай мове няма. Хаця пісаць на роднай мове — яшчэ не гарантыя поспеху. Напісаць твор на беларускай мове для масавай публікі цяжка. Каб твор меў вялікія тыражы, стаў бестселерам, яго трэба перакладаць. На мову рускую, англійскую, нямецкую.

— А як жа Караткевіч, які меў шалёную папулярнасць і высокія тыражы на беларускай мове?

— Мы набліжаемся з вамі да пытання шляху да Універсума. Пакуль што ён ляжыць праз нацыянальнае. Не ведаю ніводнага універсальнага пісьменніка, які ішоў бы іншым шляхам. Ментальнасць Шэкспіра наскрозь англійская, Фолкнера — наскрозь амерыканская…

— Ментальнасць Міцкевіча …ліцьвінская?

— Слушна. Ментальнасць Гарсіа Маркеса — лацінаамерыканская, калумбійская, калі хочаце. Спробаў пераскочыць праз нацыянальнае колькі заўгодна, нават у тых аўтараў, якім беларускасць забяспечыла першы лёгкі поспех, але плёну такія скокі не даюць.

## Пяты вагон

— Томас Эліёт гаварыў пра тое, што іерархія ў культуры мусіць выбудоўвацца наноў кожны раз, калі да ўжо існуючых твораў далучаецца новы ("адначасовы парадак культуры" ў эсэ "Традыцыя ды індывідуальны талент", 1922). Мяркуеце, дзеля каго з новых творцаў нашым класікам давядзецца пасунуцца ва ўмоўным літаратурным музеі?

— Добры вобраз у Эліёта, але мне больш падабаецца параўноўваць літаратуру з чымсьці жывым. Скажам, з тэатрам. Тое, што набывае статус застылай класікі, ператвараецца ў літаратурныя помнікі — не рухаецца, робіцца музейным экспанатам. Літаратурны працэс — гэта не радоўка, дзе сталыя аўтары каля галавы, а маладыя каля хваста. Самая вялікая небяспека ў гэтым жывым працэсе — забранзавець. Маладым творцам яна пагражае нават у большай ступені. Ранняя хуткая слава кружыць галаву. Перспектыўных сёння многа, баюся кагосьці пакрыўдзіць, таму назаву тых, у чыёй будучыні перакананы, бо пільна сачу за іх літаратурным ростам ці нават прыклаў да яго руку: Юлія Новік, Маша Дуброўская, Валярына і Вольга Куставы, Алена Мальчэўская, Наста Кухарэнка, Наста Грышчук, Вольга Гапеева, Віка Трэнас, Арцём Кавалеўскі.

## На вакзале WiFi. Сто мегабайт адзіноты

— Калялітаратурнае жыццё віруе ў віртуальнай прасторы: больш як 90 беларускіх пісьменнікаў, крытыкаў, журналістаў вядуць блогі, дзе абмяркоўваюць новыя кнігі, публікацыі ў літаратурным друку, а часам і асобы творцаў. Стыль гэтых абмеркаванняў розніцца ад акадэмічнага да лаянкава-зневажальнага. Як прапануеце ацэньваць гэтую частку літпрацэсу?

— Да Інтэрнэту ў мяне складаныя адносіны. Гэта вельмі карысная рэч, вынаходніцтва цывілізацыі, змучанай ад адзіноты. Асабліва гэтую адзіноту цывілізацыя адчула ў сярэдзіне ХХ ст., калі з'явіліся п'есы абсурду: адзінота ў мегаполісе — адна з іх асноўных тэм. З'яўленне інтэрнет-прасторы дало магчымасць людзям з розных краін быць у сумоўі, у супольнасці. З іншага боку, у якія б сферы чалавек ні ўрываўся, ён пачынае з засмечвання стэрыльнай прасторы. Паглядзіце на калязямную арбіту — колькі там смецця. Ці прастора электрамагнітных хваляў — радыё, тэлевізія, мабільныя тэлефоны, страшна ўявіць, як засмечана вакол нас паветра. Колькі ні было спробаў падвесці Інтэрнет пад цэнзуру, не атрымліваецца. А гэтая прастора не для таго створана, каб па ёй хадзіў міліцыянер і штрафаваў за мат і хуліганскія выбрыкі. Адчуванне ўнутранага разняволення, калі цябе не стрымлівае ўнутраны цэнзар, прыводзіць да таго, што засмечваецца і гэта прастора. Таму вельмі радуюся, калі там з'яўляюцца творы эстэтычныя, прыкладам, смс-п'еска Алеся Анціпенкі і Аксаны Спрынчан. Што нясуць у гэтую прастору літаратары, крытыкі? Як беларусы з верша Янкі Купалы, яны нясуць сваю крыўду. Свой боль. Крызіс няпоўнай самарэалізацыі. Гэтыя маленькія і вялікія літаратурныя драмы расчытваю ў палеміках у Інтэрнэце. Такога не прачытаеш на старонках часопісаў-газет. Але, на маю думку, гэтай крыўды зашмат у інтэрнэт-спрэчках. Не кажучы ўжо пра нецэнзуршчыну. Маладыя аўтары могуць знайсці ў Інтэрнэце і больш карысныя рэчы. Ім бы чытаць Арыстоцеля, Гегеля, Лесінга, найноўшую крытыку — Інтэрнет гэтаму можа паспрыяць, не трэба ісці ў бібліятэку, каб знайсці Пропа "Марфалогію чарадзейнай казкі". Чыннасць Інтэрнэта для самаўдасканалення і развіцця літаратуры далёка не вычарпаная.

## Станцыя "Крытыка". Hic sunt leones, або Б'юць без папярэджання

— Ірына Шаўлякова калісьці раіла ўсім крытыкам беларускай літаратуры начапіць шыльду з надпісам "САДАМАЗАХІСТ" і так крочыць па цёмных літаратурных завулках. На вашу думку, у якіх стасунках сёння літаратура і крытыка?

— Калі праводзіць градацыю літаратурных заняткаў паводле складанасці, самай лёгкай прафесіяй назваў бы паэзію, для валодання якой часам не трэба і рамяство, калі душа паэтычная, ёсць талент — можна самарэалізавацца і ў 14 гадоў, як Аркадзь Куляшоў. Другой па ступені складанасці будзе проза. Невыпадкова не давалі веры, што Шолахаў у 26 гадоў раман напісаў. Ніхто не мог паверыць, што юнак можа быць такім дасведчаным. Затым ідзе драматургія, дзе трэба ведаць не толькі жыццё, але і законы сцэны. Нарэшце, крытыка. Крытык — гэта той, хто шмат чытае. Моладзь чытае сёння ўсё менш, а сапраўдная крытыка — гэта пэўная ступень начытанасці. Крытык передусім — прафесіянальны чытач. Яго майстэрства — гэта майстэрства прафесіянальнага чытання. Таму мне не зразумелая крыўда на крытыкаў. Крыўдаваць на крытыка значыць крыўдаваць на чытача, што не так цябе прачытаў.

— Пэўны час вы вялі на журфаку спецкурс "Літаратурны крытык". Наколькі важная для крытыка адмысловая адукацыя? Ці можна навучыць быць крытыкам, выхаваць эстэтычны густ?

— За той час, што курс існаваў, саспелі як літаратурныя работнікі Аліса Бізяева, якая вызначылася ў жанры вэб-крытыкі, Ганна Шэйнман, Таццяна Заміроўская, Кастусь Лашкевіч, таленавіты журналіст, які можа адгукнуцца на літаратурны твор, Кацярына Марголь, паэтка і крытык, Андрусь Белавокі, паэт і крытык, які заўчасна пайшоў з жыцця, але на якога не забываюцца, працягваюць пра яго пісаць. Мо не згадаў каго… Калі будзе магчымасць, набяру новую групу.

— Падчас майстар-класа для маладых крытыкаў Міхась Тычына падзяліўся меркаваннем, што на адно пакаленне літаратараў можа прыходзіцца ўсяго адзін-два крытыкі, але гэта крытыкі з вялікай літары. Як Вісарыён Бялінскі ці Рыгор Бярозкін. Але бываюць і пакаленні, якія не маюць свайго крытыка — бедныя пакаленні…

— Вядома, гэтых аўтараў варта прызнаць вялікімі, але ў якой ступені яны маглі ўплываць на бягучы літаратурны працэс? Яшчэ пытанне, ці пашанцавала таму пакаленню з Бялінскім. Некаторыя называюць Бялінскага больш публіцыстам, чым крытыкам. Як крытык ён многіх не задавальняў. Прыкладам, ён не ўбачыў, не расчытаў як след Дастаеўскага — прызнаў толькі творы, напісаныя ў рэчышчы натуральнай школы. Ці, яшчэ, ён ва ўпор не бачыў украінскую літаратуру. Вось вам недальнабачнасць крытыка. Ну а Рыгор Бярозкін вялікі больш як літаратуразнавец. Калі перакінуцца на сённяшнюю сітуацыю, дык так і не назавеш нейкіх лідэраў, якія забяспечылі б усё пакаленне. Рухаемся ў бок мультыкультуралізму, крытыкай многія займаюцца, у рознай ступені.

— Сапраўды. Гаворачы пра знікненне "школы ў літаратуры", Валерый Гапееў у сваім блогу адзначае адсутнасць аўтарытэтаў, якія маглі б "вызначаць якасць літаратуры"..: "Сёння вызначаць якасць літаратуры бярэцца кожны, каму не лянота"… Як лічыце, спадар Пятро, гэта пакаленне пісьменнікаў павінна выпешчваць "свайго" крытыка альбо крытык — вымудраць, накіроўваць і замацоўваць у культурнай прасторы "сваё" пакаленне?

— Крытыка сама па сабе не можа сфарміраваць школу. Працэс фарміравання літаратурнай і літаратуразнаўчай школы — рэч складаная. У сённяшняй літаратурнай і ўвогуле культурнай сітуацыі, у сітуацыі мультыкультуралізму, гэта яшчэ больш цяжка. Таму чакаць, што ў бліжэйшы час аформіцца нейкі мэйнстрым у літаратуры і ў крытыцы, цяжка. Хаця некаторыя прагнозы можна рабіць.

— Крытыкам давядзецца ў прагназаванай вамі пераарыентацыі цывілізацыі быць не апошнімі, задаваць крытэрыі, выбудоўваць наноў сістэму каштоўнасцей?

— Чым мы зараз і займаемся.

— Але дзе браць тыя крытэрыі?

— З папярэдняга досведу чалавецтва. У тым ліку і з даўняй, і з класічнай беларускай літаратуры.

Гутарыла
Маргарыта АЛЯШКЕВІЧ

№ 9 5 сакавіка 2010 г. ЛіМ

## Абмеркаванне

Імя Алены Георгіеўны Паповай — празаіка і драматурга — сёння вядома не толькі ў Беларусі, але і далёка за межамі краіны. Піша А. Папова на рускай мове. Яе творы перакладзены на англійскую, нямецкую, японскую і беларускую мовы, больш як паўтара дзесятка п'ес атрымалі сцэнічнае ўвасабленне ў тэатрах розных краін свету. Наша суайчынніца з'яўляецца пераможцам Першага еўрапейскага конкурсу п'ес у Германіі (Кассель, ФРГ, 1994), яе творчасць прадстаўлена ў анталогіі "Жанчыны-пісьменніцы Цэнтральнай і Усходняй Еўропы" (Лондан, 1999).

Пісьменніцкі почырк А. Паповай — вельмі адметны, пазнавальны. Яе творы не з тых, што чытаюцца "за адзін прысядак". У іх заўжды шмат "рэбусаў", іншасказанняў, яны патрабуюць пільнага "ўчытвання", удумлівага асэнсавання... І — што цікава — фактычна кожны чытач знаходзіць у гэтых творах нейкі "свой" адмысловы сэнс...

Прадметам абмеркавання сёння з'яўляецца новы раман Алены Паповай "Этот сладкий голос Сирены", які быў надрукаваны напрыканцы мінулага года ў часопісе "Нёман" (№№ 11, 12).

Л. А.

# Мастацкія асаблівасці прозы Алены Паповай: раман «Этот сладкий голос Сирены»



Лада Алейнік

Вартасці

У прозы Алены Паповай ёсць невытлумачальная якасць... Ледзьве ні з першай старонкі ты адчуваеш сябе ўцягнутым у нейкую гульню — дынамічную, захапляльную, але рызыкоўную і небяспечную. І так заўсёды: "Восхождение Зенты", "Большое путешествие Малышки", "Пузырёк воздуха в кипящем котле"... Кожны раман — гульня сэнсаў, непазбежнасць асацыяцый і абавязковая экзістэнцыйная "безнадзёга", з якой ты ўрэшце і застаешся. Застаешся прайграўшым.

І вось у руках часопіс з новым раманам А. Паповай — "Этот сладкий голос Сирены"... Ты ўжо прыкладна здагадваешся, чаго чакаць, разумееш, якую рэчаіснасць убачыш, але, насуперак усім прадчуванням, адгортваеш першую старонку...

У агульных рысах сюжэт выглядае наступным чынам... Некалькі сем'яў (Цібайдуліны, Цыплаковы, Вінаградавы, Носікі), знаёмыя між сабою шмат гадоў (у большасці — са студэнцтва), жывуць сабе ціха-мірна, кожная — у сваім маленькім свеце. Іх жыццё — руціна: звыклая "бытавуха", дробязныя мітрэнгі. І вось у гарадку з'яўляецца Гаравой — агульны знаёмы, якога не бачылі амаль дваццаць год (гэтаксама амаль са студэнцтва), і які ў адно імгненне парушае звыклы лад жыцця. Гаравой, як высвятляецца, за гэты час забагацеў. Яго заможнасць робіцца "галаўным болем" для ўсіх, а зайздрасць, у сваю чаргу, не дае спакою і змушае дзейнічаць...

Менавіта "грошы" я б назвала ключавым вобразам твора. А. Папова дэманструе, як яны руйнуюць свет герояў, агаляюць заганы характараў, узбуйняюць тыя праблемы, якія былі прыхаваны ў будзённай аднастайнасці і маглі б ніколі не выявіцца, калі б не грошы... Асаблівa выразна магічная сіла грошай адлюстравана на прыкладзе Цібайдуліных, якія першымі "кантактуюць" з Гаравым. "Наконец, Горовой подошёл к главному, к цели своего визита, и предложил Тибайдуллину сдать одну из комнат. Кроме вопроса «Как живёшь?» Тибайдуллин терпеть не мог ещё две вещи — давать в долг деньги <...> и кого-либо у себя поселять... <...> Стоило только Горовому об этом заговорить, его даже слегка перекосило. Но Горовой сразу всё понял, полез в карман и вынул... вынул оттуда деньги, и в таком количестве, что Тибайдуллин, глядя на них, как-то ослаб, обмяк, в голове закружилось..." Спачатку Цібайдулін селіць Гаравога ў маленькай каморцы, пасля "жылец" незаўважна перабіраецца ў суседні пакой, яшчэ пазней — у самы большы. "Как это, собственно, произошло, Тибайдуллин так и не понял, но последовательность каждой такой метаморфозы можно было отследить. <...> Распахивалась щедрая горсть, на ладони лежали деньги – похрустывающие, новенькие, манящие… И рука Тибайдуллина, существующая в этот момент как бы сама по себе, тянулась и брала". Паступова ўсе лепшыя рэчы, што былі ў сям'і, "перасяліліся" ў пакой Гаравога. "Как-то Горовой протянул совсем уже внушительные деньги. Тяжёлая волна предчувствия прошлась по телу Тибайдуллина, предчувствия до дрожи, спина взмокла и похолодела, но его рука, существующая как бы сама по себе, потянулась и взяла деньги. Ночью, в супружеской постели он не нашёл жену". Урэшце сям'я Цібайдуліна зусім выганяе яго з хаты, ён апынаецца літаральна на сметніку.

Гаравой адкрывае банк. Сваім "сябрам маладосці" ён прапануе зрабіць грашовыя ўклады, абяцаючы шалёныя дывідэнты. Пачынаецца ўсеагульнае вар'яцтва. Цыплаковы прадаюць кватэру, што засталася ім у спадчыну ад жончынай маці, пры гэтым высяляюць на вуліцу цяжарную кватарантку. Вінаградавы тэрмінова прадаюць дачу. Забеліна здае псіхічна хворую маці ў дом састарэлых, прадае ўласнае жыллё і пачынае туляцца па кватэрах знаёмых... Прывіднае патэнцыйнае багацце ўсім тлуміць галовы, пазбаўляе сумлення. А. Папова вельмі дакладна паказвае, як з аднаго маленькага "кампрамісу" з уласным сумленнем, пачынаецца "ланцуговая рэакцыя" — дробнае паскудства імкліва "прагрэсуе" да вялікай подласці.

Пісьменніца даводзіць малюнак да абсурду — стварае мастацкі свет, які адлюстроўвае парадаксальнасць свету рэальнага. Абсурднымі выглядаюць дуэль Гаравога і Цібайдуліна, блуканні па падзямеллі, падрыў банка кавалкам гаспадарчага мыла... Фактычна кожны эпізод выяўляе недарэчнасць паводзінаў герояў, іх адчай, страту жыццёвых арыенціраў, адчуванне тупіковасці становішча. Менавіта абсурд робіцца тым сродкам, які дазваляе найбольш выразна паказаць прыроду заганнага ў чалавеку. Раман змушае, па меншай меры, пачувацца ніякавата, надта ж пазнавальныя вобразы і сітуацыі паўстаюць перад вачыма...

...Адзіны персанаж твора, які знаходзіцца наўзбоч ад "грашовай ліхаманкі" і рэзка кантрастуе з іншымі насельнікамі сюжэта, — Рымуля, дачка Цібайдуліна. Гэтая гераіня, як ненавязліва даводзіць аўтар, даволі абыякава ставіцца да матэрыяльнага боку жыцця. "Адсутнасць грошай" падкрэсліваецца ў дыялогу Рымулі з таксістам, на "незаможнасць" дзяўчыны ўказваюць і некаторыя іншыя дэталі — кшталту "лінялых джынсаў", "бляклай маечкі" і "пустой джынсавай торбачкі" за плячыма. Алена Папова робіць акцэнт на іншым: "...Римуля была не просто красавицей, Римуля была больше, чем красавица, потому что в душе её горел огонь, и те, кто смотрел на неё, видели не только красоту её лица, но и отблеск этого огня".

Раман А. Паповай алегарычны. Двухсэнсоўна "расчытваюцца" эпізоды, сімвалічна выглядаюць падзеі, метафарычнымі бачацца вобразы герояў... Паводле фабулы падзеі дастасоўваюцца фактычна да любой эпохі і культуры. Дыяпазон асацыяцый — ад легенды пра фрыгійскага цара Мідаса да найноўшай гісторыі (прыгадайце адно масавы псіхоз, звязаны з фінансавай пірамідай "МММ"). Менавіта алегарычнасць твора і універсальнасць яго сэнсу дароўніваюць адносна невялікі па аб'ёме тэкст да жанру рамана.

Тыповай для абсурдысцкай літаратуры выглядае сама назва твора, якая не стасуецца са зместам наўпрост. (Тут міжволі згадваецца п'еса аднаго з пачынальнікаў "тэатра абсурду" Эжэна Іянеска "Лысая спявачка", дзе ніякай спявачкі не было). Але назва можа быць "расчытана" і на асацыятыўным узроўні. Як вядома, салодкі голас Сірэн закалыхваў маракоў і вёў на смерць. Так і героі рамана А. Паповай, "закалыханыя" салодкай марай пра вялікія грошы, ідуць за ёй да сваёй духоўнай гібелі…

Мне даводзілася чуць кардынальна розныя ацэнкі твораў А. Паповай. Ад рэзка негатыўных ("гэта — не літаратура!"), да самых захопленых і кампліментарных ("гэта — геніяльна!"). Сябе асабіста хутчэй далучаю да апошніх, але...

### Недахопы

...падаецца, што з кожным новым творам усё больш прадказальнымі робіцца ў А. Паповай разгарнені сюжэтных перыпетый. Зразумела, у кожнага пісьменніка з цягам часу выпрацоўваюцца ўласныя алгарытмы творчасці, аднак яны (паводле майго глыбокага перакнання) не павінныператварацца ў шаблон, у механічнае дзеянне. Статычнасць пісьменніцкай манеры заўжды пагражае дэвальвацыяй папярэдніх аўтарскіх здабыткаў, "майстэрства" пачынае няўхільна сыходзіць да "рамесніцтва"... Гэта, па вялікім рахунку, мая галоўная "прэтэнзія" да пісьменніцы. Але ёсць яшчэ заўвагі больш дробнага характару...

Алена Папова (зусім відавочна) наследуе традыцыі знакамітых абсурдыстаў Франца Кафкі, Сэмюэля Бекета, Эжэна Іянеска, Славаміра Мрожака, Даніїла Хармса і іншых. Гэта ўхвальна. Прыемна ўсведамляць, што наша суайчынніца годна суседзіцца з такімі вядомымі майстрамі пяра. Толькі вось тыя вобразы, эстэтычныя дэталі і мастацкія прыёмы, якія былі арыгінальнымі ў творчасці заканадаўцаў жанру, у Алены Паповай (як і ў шматлікіх іншых сучасных аўтараў) зрабіліся штампамі. Патлумачу, што маю на ўвазе.

Ледзь не ў кожным рамане пісьменніцы мы сустракаем метафарычныя "ўзроўні" — "ніз" і "верх". "Ніз" (гэта можа быць літаральна ніжэйшы паверх альбо падвал, каналізацыйны калодзеж, склеп і д.п.) — увасабляе, як правіла, "дэградацыю", "маральнае падзенне"... "Верх" (вышэйшы паверх, страха, гарышча, неба і інш.) — сімвалізуюць "ачышчэнне", "духоўнае адраджэнне". Паміж "нізам" і "верхам" абавязкова палягае "лесвіца", па якой, зразумела, здзяйсняецца "пераход" альбо "ўзыходжанне". Ну, і яшчэ, знаходзячыся "ўнізе", героі амаль заўсёды бачаць "святло" недзе "ўверсе". Гэтыя вобразы і прыёмы эксплуатуецца сёння так часта, што робіцца ніякавата... Пры гэтым яны зрабіліся "запатрабаванымі" не толькі ў заходніх, але і ў постсавецкіх літаратурах (у гэтай кампаніі і такая знакамітасць, як Уладзімір Маканін з аповесцю "Лаз", і значна менш вядомы азербайджанскі пісьменнік Фіруз Мустафа з п'есай "Подвал на крыше")...

Карацей кажучы, раман А. Паповай не бездакорны. Аднак дробныя хібы не зніжаюць яго агульнай мастацкай вартасці. Нельга не пагадзіцца з меркаваннем Сяргея Юрскага — вядомага прыхільніка эстэтыкі абсурду, які ў адным інтэрв'ю падкрэсліў: "Абсурд — інструмент, лад мыслення, сёння для мяне — найгалоўнейшая магчымасць прабіць сетку абыякавасці, якая шчыльна абцягвае свядомасць сучаснага чалавека. Абсурд — гэта абсалютна нечаканы погляд — погляд, які цвярозіць. Ён можа шакіраваць, здзіўляць, але гэта і ёсць тое, чым можна прабіць душэўную слепату і глухату...".



Ціхан Чарнякевіч

Вартасці

Твор гэты для беларускай літаратуры абсалютна нетыповы, бо не звязаны з нацыянальнай традыцыяй. Хутчэй тут мы маем справу з традыцыямі сучаснай рускай літаратуры. Не будзем праводзіць паралелі і прыводзіць імёны. Сугучным у Беларусі твор А. Паповай з'яўляецца аднаму толькі раману Альгерда Бахарэвіча "Праклятыя госці сталіцы". Не дзіва — твор Бахарэвіча таксама вылузваецца з усяго айчыннага пісьменства, але "Праклятыя госці" хутчэй кпяць з усёй беларускай рэчаіснасці, паказваючы яе ў крывым люстэрку тэатра Назара Мінуса. Раман А. Паповай скіраваны на іншае. Хоць тут герой-спакушальнік таксама аб'ядноўвае разнайтыя сюжэтныя адгалінаванні, але аб'ектам сеансу "разоблачения" становіцца не сацыяльная бахарэвічаўская крытыка, але ўказанне на слабасць асобы чалавечай. Вось жа, раскрываецца чалавечая слабасць якраз для таго, каб падкрэсліць сілу чалавека. Калі ў "стане" разгубленага ворага знаходзіцца, нарэшце, моцны бок — актыўны, а не пасіўны (дачка Цібайдуліна) — таямнічы спакушальнік адразу адступае назад у сваю за-межную вотчыну. Бо супрацьстаяць рэальнай сіле любові ён не можа.

Рэч напісана, як на маё гледзішча, выключна дзеля таго, каб чытач атрымаў бартаўскае "задавальненне ад тэксту". То бок, ніякага "ідэйнага зместу і накіраванасці" (жудасны тэрмін) тут знайсці немагчыма. Сэнс твора ў яго чытанні. "Нерэальна" — такая першая думка пра жыццё-быццё персанажаў.

Калі ж фармальна, то гэта раман(чык)-фантасмагорыя. Месца і час дзеяння дакладна не пазначаюцца апавядальнікам. З развіццём сюжэта нарастаюць адсылкі на сучасную (ці, прынамсі, нядаўнюю) мінскую рэчаіснасць. Аднак тут мы ўжо ўступаем у сферу здагадак і інтэрпрэтацый, бо ўголас аўтар нічога пра гэта не гаворыць.

А дадзеныя нам толькі персанажы. Менавіта — сем'і. Акурат унутры- і звонкусямейныя стасункі — галоўныя сюжэтныя цэнтры. Ад іх разыходзяцца колцы і кругі, і ў гэтым кардынальнае разыходжанне з вышэйпамянёным раманам Бахарэвіча, дзе аўтар якраз і раструшчыў сюжэт на паасобныя фрагменты, абсалютна не ўзаемазвязаныя. У Паповай дзейнічае прынцып "круговой порукі", і таму яе шахматныя фігуры не разбрыліся па дошцы. Мала таго, уласна спакушальнік Гаравой адводзіцца аўтарам у засень, а не наадварот, як чакалася б. Наогул, шмат дзе ў гэтым тэксце спрацоўвае эфект падманутых чаканняў. Гэта і робіць сюжэт новым. Прынамсі, я нічога падобнага не чытаў да таго.

Персанажы аб'ядноўваюцца тым, што ў кожнага з іх ёсць свая, кажучы словамі класіка, "червоточина". Яна і мысліцца мне прычынай "другога пришэсця" Гаравога. Ён, як пасланнік-мсціўца, робіць у сваіх былых сябрах-прыяцелях ператрус "нажытага непасільнай працай", і выяўляецца, што сярод "нажытага" нямала непрывабнага. На непрывабным Гаравой і гуляе — і выйграе. Мала яму, ён яшчэ імкнецца патрывожыць увесь дзяржаўны лад і залазіць у свядомасць адказных чыноўнікаў з постмадэрнова-постіндустрыяльных калодзежаў і лабірынтаў падземнай "вярхушкі", і тут чытач бачыць усю крохкасць і безабароннасць тых, хто ажыццяўляе ў краіне абароназдольнасць. Карацей, шмат над чым можна задумацца.

### Недахопы

Тое, што з нацяжкай можна аднесці да заўваг, можна з такою ж нацяжкай перасунуць і ў вартасці. Адзначу пэўную расплывістасць агульнай задумы, якая часам нібыта высоўваецца з туману, але не ўхопіш — знікла. Ёсць плывуны, ёсць, дык "можа, так яно і трэба?". Такім чынам, адсутнасць сэнсавай дамінанты трохі бянтэжыць успрыманне. Дзе ж "(новы) герой"? — сказалі б літаратуразнаўцы. А яго і няма, і "ці быў хлопчык?" — такая ма пытанне немалаважнае.



Ірына Шаўлякова

## Вартасці

Твор Алены Паповай “Этот сладкий голос Сирены” належыць да ўзораў прыстойнай (тут: якаснай) белетрыстыкі, на якіх айчынныя выдаўцы, што змагаюцца з фінансава-анталагічнай самотай у чаканні рукапісаў — патэнцыяльных бестсэлераў, маглі б мець пэўны прыбытак. Тая частка арыентаванай выключна на рускамоўную кнігу чытацкай аўдыторыі, якая ў сілу адукацыі і выхавання не можа спажываць любоўна-крымінальныя “паўфабрыкаты”, але катэгарычна не гатова кінуцца ў бездань, скажам, “Ісціны і метаду” Гадамера, даўно гатова да сустрэчы з чытэльнай айчыннай прозай. Аднак у сілу вельмі розных прычын наш чытач змушаны спаталяць інтэлектуальную ды эстэтычную прагу, напрыклад, за кошт прыдатных для лёгкага інтэлектуальнага рэлаксу кніг расійска-ізраільскага аўтара Дзіны Рубінай (і аўтару, што характэрна, на карысць).

Між тым публікацыя памянёнага твора А. Паповай у “Нёмане” сведчыць на карысць таго, што не толькі асобныя пісьменнікі, але і асобныя рэдактары ў Беларусі гатовы ісці роднаму чытачу строга насустрач. На мой погляд, “Этот сладкий голос Сирены” пры мінімальных маркетынгавых намаганнях мог бы карыстацца поспехам у “мэтавага” чытача перадусім у сілу сваёй рознааспектнай, узважанай, па-свойму нават “зграбнай” умеркаванасці. Так, выкананы ў тэхніцы “абноўленага рэалізму” аповед умеркавана аплоднены (на ўзроўнях сюжэтабудаўніцтва і сістэмы персанажаў) элементамі “сюррэалізму” ды ўмоўнай “містыкі”. Напрыклад, вобраз Гаравога ўводзіцца ў аповед праз наўмысную лаканічнасць партрэтнага апісання, нібыта абавязковага: “На дороге стоял мужчина, одетый скорее по-молодежному — в светлые джинсы, куртку-ветровку, на ногах — кроссовки… Волосы светлые, коротко остриженные, и глаза светлые, белесые, отливают оловом, на щеках — трехдневная щетина. В целом, вид бывалый”. Але ўжо з самага пачатку аўтар турбуецца пра неабходнасць “інтрыгаваць” чытача з дапамогай недвухсэнсоўных “указанняў” на тое, што далей справу давядзецца мець з персанажам найноўшай “дэманалогіі”: “Утром незнакомца в доме не оказалось. Вещи были нетронуты, а диванчик, на котором он спал, был мокрый. …мокрый на всем протяжении лежавшего тела. Укротительница сняла с дивана покрывало и сушила его у печки, но что странно — оно не высыхало”.

Апавядальнік умеркавана іранічны (напрыклад, у апісаннях сем'яў Цыплаковых, Вінаградавых, Носікаў альбо ў выкрыцці “прыватных” чалавечых заганаў: “…От прилива крови его лицо сделалось красно-багровым, и он так вспотел, что источал сильный и едкий, какой-то лошадиный запах. Наверное, это и был запах алчности”) — і ўмеркавана лірычны, сентыментальны (згадаем успаміны Косці Цібайдуліна пра маці-казачку, пра елку, якую яна ўпрыгожвала штогод). Умеркаваны інтарэс да побытавых, сацыяльных, палітычных фактараў, якія абумоўліваюць разгортванне сюжэта і развіццё (зрэшты, “пункцірна” пазначанае) шэрага персанажаў (Цыплакова і ягонай жонкі, небаракі Забелінай і яе бажавільнай маці, Валянціна Пятровіча, Ліходзькі і інш.), як бы ненаўмысна “высвечвае” сапраўдны аўтарскі інтарэс: ён палягае ў сферы не знешняга, але ўнутранага, асобасна-матывавана, “экзістэнцыйнага” пейзажу (зрэшты, радыкальна адрознага ад таго, што прарастае ў аднайменнай кнізе паэткі В. Трэнас). Відаць, таму псіхалагічны, мастацка-выяўленчы, этычны “цэнтры цяжару” ў творы самі сабою перамяшчаюцца з загадкавага Гаравога (напрыканцы твора эвалюцыянуе ў фантом, здань) на Канстанціна Цібайдуліна: “Он проснул руку под куртку и свитер и долго отогревал собственное сердце своей же рукой. Прошло время, пока он почувствовал, что сердце отогрелось и с ритмичным перестуком пустилось в путь. Тогда Тибайдуллин понял, что смерть гораздо ближе к нему, чем казалось раньше, и он может встретиться с ней, так и проиграв свою жизнь по всем пунктам и статьям…”.

Нягледзячы на тое, што сустрэча гэтага героя са смерцю адбылася раней (і неяк раптоўней), чым на тое можна было спадзявацца, аўтар шчасліва ўнікае адказаў на пытанні, у тым ліку накont “пераможцаў” і “пераможаных”. А. Папова і ў гэтым выпадку ўмеркавана патурае чытачу. Бо мог жа Цібайдулін застацца жыць у якім-небудзь шматкроп'і ці пастсткрыптуме (то бок “вечна”!), гадаваць унукаў, якія маглі б нарадзіць яму дачка Рымуля і патэнцыяльны зяць — італьянскі хлапчына Раланда… Усё, можа, і будзе, але ўжо без героя, без Канстанціна, у пэўным сэнсе — без мяне (чытача). У сістэме каардынат “чытва” — стратэгічны пралік; у сістэме каардынат прозы — тактычная перамога.

## Недахопы

Твор А. Паповай “Этот сладкий голос Сирены” на мой погляд, не проста не адпавядае сваёй назве — яго змест і агульная танальнасць дысануюць з “іменем”, знаходзяцца з ім у адмысловай канфрантацыі.

Гэтаксама канфліктуе твор з жанравым азначэннем, нададзеным яму аўтарам: “Этот сладкий голос Сирены” не ёсць раманам не столькі па фармальных паказчыках (каля шасцідзесяці старонак часопіснага тэксту), колькі па змястоўных. Не будзем браць пад увагу такія няпэўныя паняцці, як “шырыня ахопу” з'яў, што адначасова ўспрымаюцца ў эпічным творы, “населенасць” тэксту вобразамі-характарамі, ступень іх псіхалагічнай напоўненасці і г.д. У герояў гэтага твора А. Паповай проста не было магчымасці (сапраўды раманнага часупрасторы), каб паўстаць перад чытачом у паўнавартасным мастацка-псіхалагічным развіцці. Хто спрачаецца: нават другарадныя персанажы атрымаліся ў А. Паповай “аб'ёмнымі”, але 3D-мадэль чалавека не тоесная чалавеку; па аналогіі, герой (як важнейшы складнік унутранай структуры мастацкага твора) вялікай аповесці не тоесны раманнаму герою (прынамсі, у айчыннай літаратурнай традыцыі).

Публікацыя першай часткі твора А. Паповай у № 11 “Нёмана” за 2009 год падсумоўвалася абзацам: “Продолжение в следующем номере”. У леташнім № 12 часопіса другая частка твора атрыбутавана ўжо як “окончание”. А што калі раманны цымус схаваны якраз у гэтым абзацаным і пакуль непрад'яўленым “працягу”?

Будзем шукаць.



Марыя Шамякіна

У творах сучаснага прыгожага пісьменства вельмі складана адназначна вылучыць вартасці і недахопы. Сёння можна казаць у асноўным пра суб'ектыўнае, а зусім не аб'ектыўнае ўспрыняцце мастацтва ўвогуле. Тое, што адным чытачам (ці гледачам — калі гаворка ідзе пра жывапіс альбо кіно) падасца слабым і няўцямным, для іншых будзе квінтэсенцыяй аўтарскай філасофіі і трапнай знаходкай. Асабліва ж сказанае датычыць сучаснай прафесійнай літаратуры. Пад словамі “прафесійная літаратура” я ў дадзеным выпадку маю на ўвазе тэксты, створаныя людзьмі надзвычай абазнанымі, начытанымі, якія ўмеюць спалучыць натхненне з камерцыйнай ідэяй і “планавым” прымяненнем тых ці іншага прыёму.

Алена Папова — сапраўды сучасны пісьменнік. Пісьменнік прафесійны. Пішучы гэта, я здзяйсняю даволі дзёрзкую авантуру. Спрабую, скажам, пасупернічаць з аўтарам у літаратурнай абазнанасці, веданні мастацкіх прыёмаў і ўменні іх выкарыстоўваць.

Але ўзяўшыся за дадзены праект, я абавязана выказацца ў належным фармаце. Таму і пачынаю адразу з недахопаў.

Мы ведаем А. Папову як выключнага майстра стылю. Яна з тых пісьменніцаў, у якіх кожнае слова на сваім месцы. Але ў рамане я знайшла ўсё ж некалькі выпадкаў мастацкай недакладнасці ці немэтазгоднасці ўжывання таго ці іншага слова. Напрыклад:

“Прошло время, пока он почувствовал, что сердце отогрелось и с ритмичным перестуком пустилось в путь”. Выраз сердце… пустилось в путь гучыць трохі сумніўна.

Другі недахоп — непраяўленасць, непразрыстасць вобразу Гаравога. Але адзначаны недахоп якраз з ліку тых — суб'ектыўных.

Сюжэтная калізія вымагае чытача адчуць пэўную роднасць вобразаў Гаравога і булгакаўскага Воланда. Толькі Гаравой, безумоўна, больш сучасны і неадмысловы ў сваіх метадах. Ён забірае ў даверлівых людзей грошы, а ўзамен дае …абяцанні. Нават не абцяжарвае сябе стварэннем нейкіх ілюзій і спецэфектаў, як рабіў булгакаўскі герой. Побач з прывідам Воланда перад чытачом паўстаюць, як цені Гаравога, яго жыццёвыя прататыпы — стваральнікі разнастайных сумніўных банкаў і фінансавых пірамід. Але аўтар не выкрывае іх, а хутчэй — тых, хто да іх звяртаецца. І толькі здаецца, што, укладўшы грошы ў яўную авантуру, чалавек рызыкуе ўсяго толькі тыя грошы згубіць...

Тым не менш, вобраз Гаравога падаецца залішне цьмяным. Фактычна ён паўстае як носьбіт выключна нечалавечых, нават інфернальных рысаў. З самага пачатку мы разумеем, што перад намі нейкая жахлівая істота, і, дачытаўшы раман да канца, заўважаем, што, у прынцыпе, так і не ўведалі пра гэтую дзеючую асобу нічога новага.

Такая “загадкавасць” асабіста мне падалася трошкі залішняй.

Пры гэтым сама па сабе алюзія з творам Булгакава, як і з шмат якімі іншымі творамі ў асобных сцэнах (сцэна дуэлі, напрыклад, наогул класічная для рускай літаратуры), падаюцца мне ўвасобленымі надзвычай удала. Алюзіямі (як і прамымі запазычаннямі, і псеўдацытаваннем ды іншымі прыкметамі постмадэрнізму) сёння нікога не здзівіш. Мае значэнне тое, якім чынам пісьменнік ажыццяўляе гэты прыём. Алена Папова — вельмі да месца.

Несумненна станоўча варта ацаніць і вобразы астатніх герояў твора. Усе яны пададзеныя з псіхалагічнай дакладнасцю і маюць выразныя адметныя рысы. Даволі цікава тое, што ў творы фактычна няма прамога антаганіста Гаравога, няма і чалавека, які б рашуча адмовіўся ад яго вельмі прывабных, хаця і трохі сумніцельных прапаноў. Атрымліваецца, што людзі рознага сацыяльнага статусу, розных лёсаў і характараў, розных светапоглядаў — аднолькава падкія на лёгкія грошы. Лёгкія, але рызыкоўныя. Як гэта нагадвае сённяшнюю рэчаіснасць з усімі яе фінансавымі пірамідамі, латарэямі і іншым падобным!

Нельга не ўзгадаць і антуражы, на фоне якіх адбываецца дзеянне твора. Змрочны горад, помнік касманаўтам, падзямеллі спецслужбаў, нават кватэры герояў... Ва ўсім адчуваецца нейкая безвыходнасць постсавецкага існавання і безвыходнасць увогуле. Графічная рэзкасць і кантраснасць малюнка толькі падкрэсліваюць гэта.

Асноўную ідэю, нейкі галоўны тэзіс, заключаны ў любым творы, кожны чытач павінен шукаць самастойна. Вельмі добра, калі меркаванні на гэты конт у розных чытачоў не супадаюць, а кожны знаходзіць у творы нешта сваё. Гэта і ёсць сапраўдная шматграннасць і глыбіня. Не імпануюць мне творы, дзе ўсё на паверхні і ўсё пададзена дэкларатыўна.

Думаецца, “Этот сладкий голос Сирены” — адзін з твораў, на які ў кожнага чытача будзе свой погляд. Твор вельмі сучасны, пазначаны не проста прыкметамі, а нейкім кляймом таго гістарычнага перыяду, які перажывае сёння постсавецкая прастора. Тут так проста прывабіцца абяцаннямі (прыметыўнымі абяцаннямі, нават без ілюзій і спецэфектаў) — а згубіць душу. Як і адбылося з адным з галоўных герояў.

## Калонка Алы Брадзіхінай

# Забіць у сабе бонзу



Аповесць “Бонза” А. Паплаўскага (“Маладосць”, 2009, № 6) належыць да тагo кола твораў, якія ў пэўным сэнсе правакуюць чытача. Парадаксальнае спалучэнне формы споведзі (адкрытага паказу прыроды чалавечай грахоўнасці) з глыбіннай, падтэкставай прапаведдзю (сцвярджэннем духоўнасці і неабходнасці ачышчэння), натуральна, выклікаюць розную рэакцыю, прымушаючы сумнявацца ў правільнасці інтэрпрэтацыі аўтарскіх вобразаў. Недарэмна таленавіта напісаная аповесць атрымала палярныя ацэнкі крытыкаў у перыёдыцы, а ў інтэрнэт-прасторы палеміка набыла яшчэ большую экспрэсіўнасць (зрэшты, адмоўная рэклама ў сённяшняй сітуацыі не менш дзейсны PR-ход). Абагульняючы канцэпцыі крытыкаў, зазначым, што аповесць уяўляе сабой гісторыю аднаго прынікэння-дэградацыі-дысацыяцыі / цярплівасці-пакоры-самапазнання асобы (у адпаведнасці з чытацкім вопытам і эстэтычным густам патрэбнае падкрэсліць).

Нягледзячы на свецкі характар аповеда, прыземленыя, бытавыя дэталі, для мяне відавочна, што А. Паплаўскі спрабуе правесці свайго героя Алега па шляху выпрабаванняў да спасціжэння хрысціянскіх (яны ж агульначалавечыя) ісцін: ад пакут і прыніжэння да пераадолення крыўды як паказчыка самалюбства і даравання ворагу свайму; ад страху і недаверу да ўсведамлення ўласнай годнасці; ад нянавісці да варожага, жорсткага і несправядлівага свету да ўсведамлення сусветнай гармоніі і прыгажосці. Трэба сказаць, што ў большасці эпізодаў “перараджэнне” героя выглядае даволі пераканаўча і псіхалагічна матывавана.

Ужо сама назва аповесці прыхавана апелюе да рэлігійнай праблематыкі. Хто такі бонза? Галоўны манах у будыйскім храме (чытай: нехрысціянін). У творы персанаж з такой мянушкай, дадзенай па той прычыне, “быццам бы яго бацька па нацыянальнасці мангол”, становіцца “заклятым сябрам” галоўнага героя, на працягу многіх гадоў атручваючы яму жыццё. Сям'я Бонзы прыехала аднекуль з-пад Пскова, і з'яўленне новага суседа, асоба якога неадольна прыцягвае Алега, паступова і няўхільна мяняе светапогляд і мараль хлопчыка. Разам з тым дзіцячая душа ўжо падрыхтавана да гэтага адзінотай і нелюбоўю бацькоў, што і прыводзіць, па словах самога героя, да працэсу яго дэградацыі. Паслядоўныя вытокі чалавечага падзення (а дзіцячым гадам прысвечана амаль палова аповесці “Бонза”), А. Паплаўскі свядома ці не развівае комплекс матываў аднайменнага апавядання А. Купрына. У апошнім прычынай душэўнай драмы — незаслужанага пакарання — маленькага хлопчыка Таксама становіцца бонза — парцалянавая статуэтка. Ідэя несправядлівасці дарослага свету, чалавечага непаразумення, схраная і ў аповесці беларускага аўтара, узмацняецца агульнай святочнай атмасферай хрысціянскага даравання: падзеі невыпадкова адбываюцца на Вялікдзень.

Дайшоўшы да фіналу і даведаўшыся, што “Бонза — гэта я. А я — гэта Бонза”, чытач пачынае асэнсоўваць твор у ракурсе ментальнай мадэлі рэальнасці. Па сутнасці, А. Паплаўскі ўздымае праблему “дзвюх душ”, заглыбляючыся ў адрозненне ад М. Гарэцкага не ў нацыянальна-сацыяльныя аспекты, а ў маральна-псіхалагічную сферу. Увасабляючы двайнікоў, аўтар абірае ўдалую метафару цяню — адбітку, непарыўна звязанага з арыгіналам, у той час як іншыя традыцыйныя функцыянальна блізкія вобразы ў літаратуры (люстэрка, партрэт, паверхня вады, поўня і г.д.) ствараюць эфект раз'яднанасці. Іншымі словамі, перад намі не антыподы, а люстраная пара, якая арганізоўваецца ў адзін складаны характар. Магчыма, Бонза — гэта няспраўджаныя імкненні героя, яго самапраклён, “мелкий бес” (пекла, як і рай, паводле Біблії, знаходзяцца ўнутры самога чалавека). Разам з тым абодва героі — малапрывабныя асобы. Нават іх палярныя рысы — лёкайская псіхалогія Алега і дэспатызм яго вечнага спадарожніка — у аднолькавай ступені выяўляюць духоўнае ўбоства носьбітаў. А таму фізічнае ці маральнае знішчэнне Бонзы не верне герою страчанай гармоніі з сабой і светам, і ён адмаўляецца ад помсты.

Як прыхаваныя алюзіі-адсылкі да евангельскіх прытчаў, так і шматлікія вобразы-знакі, звязаныя з хрысціянскай культурай, арганічна ўпісваюцца ў агульную структуру тэксту, і канцэнтрацыя іх бліжэй да развязкі ўзрастае. Здаецца, усё зразумела. І усё ж аповесць пакідае неадназначнае ўражанне. У сваім імкненні да духоўнага прасвятлення шляхам спасціжэння біблейскіх ісцін Алегу ўдаецца вярнуць чысціню думак і прагу да жыцця, велікадушна дараваць ворагу, г.зн. забі(-ы)ць у сабе Бонзу, але палюбіць бліжняга свайго ён не здольны. Можа, таму што ісціна, па перакананні аўтара, “у пераважнай большасці адносная”?

№ 9 5 сакавіка 2010 г. ЛіМ

У сучаснай беларускай літпрасторы дагэтуль спрачаюцца наконт правамоцнасці тэрміну "жаночая літаратура". Але, незалежна ад слова, з'ява (паэзія, проза, драматургія) існуе — і не першы дзень. І дзякаваць Богу, бо, хто як не жанчына, уратуе чалавецтва? І хто як не Яна, зберажэ паднебную паэзію, якая ўсё больш зямнее? Кансерватыўная жаночая прырода падсвядома адпрэчвае "зухаватыя ўчынкі" лёгкаважкіх сённяшніх паэтаў. Паэтэса не будзе маніць, не будзе гаварыць пра глупствы, а толькі пра тое, што яе надзвычай хвалюе, што менавіта яе ўразіла і зацікавіла.

Да жаночага свята "ЛіМ" вырашыў пазнаёміць чытачоў з творамі цэлай плеяды беларускіх паэтэс. Яны — розных пакаленняў, з рознымі поглядамі на жыццё, часам вельмі арыгінальнымі.

Мы віншуем усіх беларускіх жанчын са святам і жадаем ім — Вясны. Квітнейце, нашы дарагія суайчынніцы!

Рэдакцыя штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва"



## Таццяна БАРЫСЮК

* * *

У любы момант могуць
Сфатаграфаваць,
Не так зразумець,
Шукаць хібы ў тэкстах.
Даводзіцца штодзень
Сябе абараняць,
Як дысертацыю...

* * *

Стаць абсалютным духам,
Узысці да абсалютных ведаў,
Каб усё зразумець,
Каб знайсці сэнс жыцця,
Каб дасягнуць дасканаласці,
Каб умець выклікаць натхненне
І мужава вечнае каханне,
Каб дзецям даць сакрэт шчасця,
Каб застацца на гэтым свеце
Ў вершах,
дзецях
і рэчах.

### Жывот-акварыум

Калі я была цяжарная Петрыкам,
Я марыла —
Як было б добра,
Каб мой жывот
Быў празрысты,
Як акварыум,
Каб можна было
Любавацца плодам,
Які ён прыгожы!

### Песні цноты і вопыту

Успамінаючы Уільяма Блейка

Калі табе шаснаццаць-дваццаць,
Так хочацца
шмат зор памацаць,
Каханне каб было бяскрайнім,
Каб існаванне было раем.

Калі табе амаль пад сорак,
То не так шмат
патрэбна зорак,
Адну-дзве-тры,
і пару дзетак,
І свой сусвет, сваю планету,
Каб там з'явіць
сваё прызванне,
Каб дзейнічць працу
да адхлання,
Тварыць паэзію задумна
І дзеткам каб было не сумна.



## Вольга САКАЛОВА

М. Цвятаевай

Я свой год пачынаю з чытання,
Мабыць, гэтак душу я лячу.
З кнігай светлай —
страчаю світанне,
З кнігай мудрай — да зорак лячу.
Што ні сповед,
то — успаміны
Пра абраных,
пра сцежку ў Сусвет…
Ды пра веліч
і горыч тых зімаў,
Што пакінулі ў сэрцах
свой след…
Я свой год пачынаю з чытання...

### А мне маці казала

А мне маці казала:
— Наўздагон не жыві.
Вузялок не вязала,
Дык і нітку не рві...

А як сыдзе дарога,
Ты другой не пытай...
Не цурайся й былога,
Сваю долю — спазнай.

Не спяшайся забыцца,
Дзе вытокі твае —
З ручая —
не напіцца,
Калі ён — не пяе...

Не забыла наказы,
Ды ў жыцця свой закон —
Ўсё парвала адразу,
Каб глядзець наўздагон...



## Святлана СІТНІК

* * *

Калі княгіня Ноч на трон ступала,
Сцішалася паціху ўсё жывое,
Яна скупой усмешкаю вітала
Палеткі з пажаўцелаю травою,

Па кроплі луг туманам накрывала
Ды зерне жальбы кінула на поле,
Сцяліла дываны і прасцірадлы,
Распісаныя ніткай залатою

Хавала пад лістамі кветкі-краскі
Ад снегу і зімовых сумных сноў…
Вятры служылі ёй,
шапталі казкі,
У чорны косы месяц уплятаі,
І ў люстры-возеры
між трыснягоў
Блішчалі яе зорныя каралі…

* * *

Са шпаркімі паўночнымі вятрамі
Затанцавалі іскаркі агню,
Кружыліся, кахалі і знікалі —
Трэск вогнішча парушыў цішыню.

У вогнішча замерзлымі рукамі
Ён кідаў,
каб саграць душу сваю,
Лісты паперы
з роўнымі радкамі,
З санетамі,
дзе славіў Вышыню:

"Даруйце, богі, простаму паэту,
Што не складаў
для вас хвалебных гімнаў,
Не бачыў дасканаласці сусвету

У кожным вамі дадзеным імгненні,
Як і ніколі не прасіў я крылаў,
Што называюць
іншыя натхненнем…

* * *

"І недасяжная дагэтуль вышыня
Цябе сустрэне, калі маеш крылы,"
Так Птушка навучала птушаня
І для палёту рыхтавала сілы...

Развітвалася з чарадой зямля,
На доўгі шлях яе благаславіла,
І спевы сумныя, і мітусня —
Усё гэта Паэта захапіла:

"Бывай жа Птушка смелая, бывай
Нязменны спадарожнік маіх сноў!
За зайдрасць чалавека выбачай,

Заўжды лятай высока над зямлёю,
Няхай прастора — дом сівых вятроў —
Тваёй аднойчы стане вышынёю...



## Наталля ЦВІРКА

* * *

Рассыпае вечар зоркі ў паднябессі,
Напявае вецер ледзьве чутна песню,
І вяслуе месяц на дрыготкіх хвалях.
Недзе ля каліны ты мяне чакаеш.

Засцілае вечар сцежкі цішынёю,
Засынае вецер недзе за ракою,
І туман бялюткі сцелецца паволі.
Сцежкай вечаровай крочым мы з табою.

Раскрывае вечар казкі-таямніцы,
І даносіць вецер водар медуніцы.
І ад слоў гарачых сэрца так заб'ецца.
Вось яно каханне — нам не падаецца!



## Эльвіра ЯРЧАК

### На Нёмане

Гамоняць нёманскія хвалі
З пясочкам жоўтым над гарою.
А вы на Нёмане бывалі
Халоднай восеньскай парою?
Як воін у стальной кальчузе,
Такі халодны ён і строгі.
А хвойкі на шырокім лузе
Яму паказваюць дарогу.
Яны пабегчы з ім не супраць, —
На самым беражку пасталі,
А ён сурова твар насупіў —
Падмыў карэнні цёмнай хваляй.
Хістаюцца хваінкі ў скрусе,
Вяршыні цягнуць да аблокаў,
А ён нясе ад Беларусі
Вітанне Балтыцы далёкай.



## Людміла БАНДАРЭНКА

### Мой анёл

Яблыньку дадумаўся нехта пасадзіць,
І яна, прыгожая, пад акном стаіць,
З раніцы да вечара ўсё мілуе свет —
Пахне асалодаю яблыневы цвет...

Я пад гэтай яблынькай з любым пастаю,
Пра каханне светлае думкі прытаю,
Салавей спявае нам песні пра любоў,
А каханы маецца, не знаходзіць слоў...

Вось, аднойчы вечарам, на спатканні зноў
Мілы мой асмеліцца — шэпча пра любоў,
Радасць уздымаецца да вышынь нябёс,
Яблынька прыгожая нам даруе лёс...



Фота Аляксандра Вашчанкі

# Аднойчы ў рэдакцыі

## Пра тое, чаго амаль не будзе

Валерый ГАПЕЕЎ



### Верш

— Ну, што?

У пытанні Рэдактара было больш адчаю, чым надзеі.

— Нармальна, — абыякава адказаў Андрэевіч. — Апавяданне пра даярку на новай ферме ў аграгарадку. Ну, і хроніка. Першыя калгасы, вайна, пасляваенны час.

— Ясна... — працягнуў рэдактар. — Хоць нешта. А ў цябе што? — Рэдактар павярнуўся да Сцяпана.

— Ёсць паэма адна. Радкоў на тысячу. Пра старшыню калгаса. "Волат зямны" Сямёна Громкага. Замаўлялі ўжо пра яе.

— Усё?

— Нізка вершаў нашага постмадэрніста Сыржука Свіслацкага. Ну, і дробязі... Слабыя...

— Самі пішыце! – сарваўся на крык Рэдактар. – Вершы, апавяданні! Пяць гадоў на галодным пайку! – стагнаў ён. – Верш бы адзін добры, ы-ы-ы-ы....

— А ў мяне ёсць... не мой... У звычайным канверце прыслалі. Школьнік нейкі... па почырку відаць, акуратны такі, рукой пісаў. Карот-кі верш... Моцны, – асцярожна перапыніў Рэдактара Сцяпан.

— Моцны? З сабой? А ну, чытай! Паслухаем, — загадаў Рэдактар.

Сцяпан выцягнуў ліст тонкай паперы і з нечаканай ахрыпласцю прачытаў :

Цёплы вечар,
 ціхі вечар, свежы стог
Улажылі спаць
 мяне вы на зямлі.
Не ўстае стаўбом
 пыл светлы ўздоўж дарог,
У небе ціха зоркі расцвілі.
Заварожаны
 вячэрняй цішынёй,
Я не цямлю,
 дзе рука, дзе галава.
Бачу, зліўшыся
 з прыродаю душой,
Як дрыжаць ад ветру
 зоркі нада мной,
Чую, як расце
 ў цішы трава.

Нейкі час у кабінеце стаяла цішыня.

— От гэта так... Чый верш? — ачомаўся Рэдактар.

— Нейкі Максім...

— Ставім! Звяжыся з Максімам гэтым, няхай яшчэ шле хутчэй!

— То Багдановіча Максіма, — сумна уздыхнуў Андрэевіч.

— Якога Багдановіча? Таго? – адчуў прорву пад сабой Рэдактар.

– Таго. А верш у "Вянку" быў. У 1913 годзе выйшаў...

Рэдактар думаў хвіліну.

— Сцяпан, ты гэты верш раней чытаў? — упэўнены ў адказе і радасны ад знойдзенага рашэння спытаў Рэдактар.

— Не, не помню... — пачырванеў Сцяпан.

— Ну, калі ты не помніш... Ставім! – хапнуў далонню па стале Рэдактар. – Аўтару гэтаму, ну... хто там даслаў – ганарар трайны! Хто ён такі, дарэчы?

– Ды так і напісана: Максім Багдановіч. Вільня.

— От і адправім.

— У Вільню? Як ён дойдзе? – спуджана паглядзеў Сцяпан на Рэдактара.

— А да нас жа прыйшло, — ціха, але цвёрда заўважыў Рэдактар.

### Слоўнік

— Ну і пераклад! — Сцяпан адкінуў убок лісток. — Адны калькі: "У пакеце было тры падбярозавікі...". Быццам няма сваёй назвы гэтых грыбоў... "ляжалі тры..."

Сцяпан няўцямна паматляў галавой.

— Э, Андрэевіч, нешта ў мяне вылецела: падбярозавік — як па-нашаму?

— Па нашаму — падспаднічнік! — адарваў вочы ад стала Андрэевіч. — Падбярозавік — смачны грыб. Завецца ён у нас... чорт... Ат, галава сёння забітая, слоўнік вунь вазьмі!

— Трэба кідаць паліць, чуеш, Андрэевіч? — Сцяпан гартаў слоўнік. — От смалю па два пачкі ў дзень — сваё імя забываюся.

— Памяць — у зубах. У мяне ўчора яшчэ адзін выдралі, заразы...

— Подбережник... подберезовик! Ага... падбярозавік... Андрэевіч, адно слова ў перакладзе, — са здзіўленнем ціха прагаварыў Сцяпан.

— Не брашы...

— На, глядзі!

Андрэевіч пасунуў з ілба акуляры на нос.

— Не разумею...

— Я ж добра ведаю, што ёсць іншае слова!

— Дык... павінна быць... А... гэта, пераклад яшчэ... Ну, колодец...

— Зараз... Калодзеж..

— Усё? Не можа быць, гэта яшчэ... як яго... яе... ну, кароткае слова, ёмкае такое... Ну, ты ж помніш?

— Не помню я! — Адчайна выгукнуў Сцяпан. — Помню, што было...

Дзверы адчыніліся, неяк асцярожна зайшоў Рэдактар, трымаючы перад сабой ліст глянцавай паперы.

— Я нічога не зразумеў, прыйшоў ліст... Можа, да вас дойдзе, — ціха прагаварыў ён і зачытаў: — Центр Коллективных Коммуникативных Пользовательских Систем Сообщества (ЦККПСС) сообщает о начале всеобщей оптимизации межличностной коммуникации, что подразумевает изъятие из всех источников слов и выражений неупотребляемых и мало употребляемых.

Рэдактар выдыхнуў.

— Вы што-небудзь зразумелі?

— Мы ўжо і пабачылі, – адказаў Андрэевіч.

### Кніга для падлеткаў

— Нейкія вы няправільныя, — закусваючы казаў Рэдактар. — Загадчык прозы піша вершы, загадчык паэзіі — дэтэктывы для падлеткаў. Ну, налівай, Сцяпан, за тваю першую кніжку.

— У пятніцу з Андрэевічам думаем на маю радзіму пад'ехаць, — ахвотна наліў Сцяпан у чарку Рэдактара. — Дамовіўся з дырэктарамі школ, мо прадамо крыху.

— За такія грошы толькі дурань купіць, — чмыхнуў Рэдактар. — 24 тысячы кніжка...

— Не будуць купляць, — згадзіўся і Андрэевіч. — От жа часы насталі, туды іх маць! Раней бутэлька гарэлкі каштавала столькі, колькі тры добрыя кнігі, а сёння адна кніга — як тры бутэлькі гарэлкі. Толькі дурань будзе выбіраць: піць ці чытаць. Яшчэ большыя дурні пішуць.

— Ціха ты, — нечага азірнуўся на дзверы Рэдактар. — Сцяпан, не будуць купляць...

— Па пяць тысяч будуць, — адмахнуўся Сцяпан. — Усё адно спонсары грошы далі. Мо свае крыху вярну.

— Ну, шчаслівай дарогі.

— У школе райцэнтра, куды назаўтра Андрэевіч са Сцяпанам патрапілі да 12 гадзін дня, іх чакаў сюрпрыз: дырэктарка, немаладая, але пекная яшчэ жанчына, падала спіс прозвішчаў і грошы ў канверце:

— Вось, 37 кніг у вас заказалі. Падпішыце, каб потым час не губляць...

— От гэта маеш! — пляснуў па спіне Сцяпана Андрэевіч. — На чарку мы заробім...

– Заробім, — расцвіў і Сцяпан.

Пасля сустрэчы, жывой, даволі цікавай, ехалі ў наступную, ужо вясковую школу, бы на крылах ляцелі. Праўда, там кніг купілі толькі 23, але ж тут і вучняў было куды меней. Трэцяя школа – яшчэ сустрэча, тут грошы наперад не збіралі, то Сцяпан напачатку перажываў. Расказваў пра сябе, кнігу, пра тое, як сустракалі іх у другіх школах, як добра куплялі... Напрыканцы сустрэчы да Сцяпана выстраілася чарга з жадаючых купіць кнігу з аўтографам.

— Не, ты глядзі, — узбуджана нашэптваў Андрэевіч. — Значыць, ёсць дзеля каго пісаць...

Хлопец у шырокіх джынсах і красоўках са шнуркамі розных — чырвонага і белага — колераў, аддаў за кнігу грошы, вінавацячыся, спытаў:

— А вы ў сваю родную школу паедзеце? Там... сястра мая стрыечная, яна вашы аповесці ў часопісах чытала, хацела кніжку купіць. Калі не, то падпішыце ёй цяпер...

— Паедзем, вось зараз і паедзем! — зухавата адказаў Сцяпан.

У роднай школе сустрэча цягнулася цэлых дзве гадзіны, а потым яшчэ "неафіцыйная частка" ў цеснай, такой знаёмай настаўніцкай. Сцяпан выпіў зусім крышку (ой, нязвычна было — з настаўнікамі сваімі выпіваць), бо Андрэевіч за рулём, не па-сяброўску напівацца аднаму. Ды і дамовіліся, што ў Мінску пагуляюць з такой удачы — гэта ж больш як паўсотню асобнікаў прадалі!

Выехалі з вёскі ўжо па цёмным. Ад'ехаліся кіламетраў пяць, калі на павароце фары высвецілі на дарозе: ляжыць чалавек, літаральна укручаны ў свой веласіпед.

— Збіў нехта, — агаломшана выгукнуў Сцяпан.

Спыніліся, заспяшаліся да веласіпедыста. Той нягегла ляжаў тварам наверх.

– Жывы, — памацаў яго шыю Андрэевіч. — Ногі яму вызвалі...

Сцяпан нахіліўся, стаў асцярожна высоўваць адну нагу з рамы.

У гэты момант ногі мужчыны тарганулія, і адразу пачуўся рэзкі шыпячы гук. Сцяпан узняў галаву, і ў наступны момант струмень з газавага балончыка асляпіў, аглушыў і пазбавіў магчымасці дыхаць, успрымаць навакольны свет. Сцяпан упаў на калені, разрывала грудзі без паветра. Вочы палалі, і агонь не маглі згасіць бягучыя, як з худога крана вада, слёзы.

Прайшло хвіліны тры, ці ўсе пяць, пакуль да Сцяпана вярнулася здольнасць бачыць і дыхаць. На каленях пасярод дарогі, упёршыся рукамі ў зямлю стаяў Андрэевіч, сюды-туды паводзячы галавой.

— Андрэевіч? — падышоў да яго Сцяпан.

Той асцярожна устаў.

— Зараза, думаў — аслепну. Быццам палкай хто па вачах сцёбнуў...

У салоне аўтамабіля валяліся ў беспарадку іх рэчы. Магнітола была выдрана жыўцом. Кашалёк Сцяпана з грашыма знік. Партманет Андрэевіча быў без грошай, але дакументы на месцы.

— Заяўляць будзем? — спытаў Андрэевіч на ўездзе ў горад.

— Ды я і так ведаю, — адгукнуўся Сцяпан. — Помніш, пра сястру адзін пытаўся? Дык у таго, на дарозе, на красоўках адзін шнурок белы, адзін – чырвоны...

— Тады паехалі ў гараж, — прапанаваў Андрэевіч. – Там у мяне НЗ добры ёсць, трэба ж адзначыць наша турнэ. А магнітолай я ўсё адно не карыстаўся...

### Старая

Сярод шэрай вуліцы ў пярэстым натоўпе, прыціснутым да шэрых сценаў будынкаў, старая літаральна свяцілася сваім белым, у вышыванках, адзеннем.

"Што за цырк?", — думаў Сцяпан, набліжаючыся да рэдакцыі. Старая стаяла нерухома ў некалькіх кроках ад уваходу. Нешта разанула Сцяпана так, што ён аж прыцішыў крок.

Старую ён не ведаў. Але яе чысты, напоўнены незразумелай тугой твар быў блізкі яму! Гэтая жанчына нагадвала адразу ўсіх родных яму жанчын: бабуль, маці і нечым нават маладую жонку. Старую Сцяпан раней нідзе не сустракаў. І тым не менш — яна была яму знаёмая.

"Цьфу, навала...", — сплюнуў ён у думках, зайшоў у рэдакцыю.

– Старую бачыў? — быццам без асаблівага інтарэсу спытаў Андрэевіч.

— Ага. Дзіўная нейкая.

— Ёсць такое. Я, як пабачыў, ледзь не аслупянеў — так нечым да мамы-нябожчыцы падобная.

Сцяпан пракаўтнуў.

— І... гэта... на маіх бабуль... І маму...

Старая прастаяла да самага вечара. Моўчкі, гледзячы мяккім позіркам некуды ўдалячынь і адначасова на ўсіх. А потым яна некуды знікла.

Наступным ранкам Сцяпан зноў пабачыў старую. Падпарадкаваўся нечаканаму жаданню — і ён павітаўся з ёй. Старая адказала ўсмешкай у сініх вачах.

"А вочы не выцвілі..." — падумаў Сцяпан.

— Як там наша бабуля? — замест прывітання спытаў Андрэевіч.

— Нармальна, на пасту.

— То і сёння папрацуем! У мяне ўчора так ішло, ледзь паспяваў запісваць. Дома перачытаў — во!

— Ага...

Зайшоў Рэдактар.

— Чыя гэта старая? Сцяпан, высветлі. Трэба, каб яе тут не было.

— Ды няхай стаіць. Не бамжыха ж, акуратная бабулька.

– Што за жывы помнік ля рэдакцыі?! – зазлаваў Рэдактар. – Раздражняе яна мяне.

– Што, да цешчы падобная? – падкалоў Андрэевіч.

– І да цешчы таксама! – адчайна выкрыкнуў Рэдактар. – І на маці, і на маміну маці. Я спаць не мог. Ведаю, што чужая, а здаецца – радня яна мне нейкая. Пайду, міліцыю выклічу...

Хвілін праз дваццаць Сцяпан выйшаў паліць. Два міліцыянты ляніва пераступалі збоку, а двое мужыкоў у белых халатах мяснікоў вялі старую ў "хуткую".

Сцяпан зламаў цыгарэту і пайшоў у кабінет.

— Забралі...

Андрэевіч бессэнсоўна крэмзаў алоўкам па чыстым аркушы. Адкінуў убок, узяў другі. Трэці.

Зайшоў Рэдактар.

— Паперу не псуй! — гыркнуў на Андрэевіча.

— Ды пайшоў ты, — выскаліўся той.

Рэдактар як не пачуў, потым прамовіў, апраўдваючыся:

— Яе ў Навінкі завязуць. Там будзе ў бяспецы.

— Ага, а тут на яе нападалі, — не сцярпеў Сцяпан.

— Чаго вы на мяне ўз'еліся? Ну, бы дзеці малыя — дзівяцца з хворага чалавека.

— А чаго яна хворая? З чаго вы ўзялі? — пачаў Андрэевіч. — От я тут падумаў: што за старая? Хто ж яна такая, што кожны з ёй роднасць адчувае, і пачуццё такое, што ведаеш ты яе. Што сваё гэта. Нешта надта дарагое, роднае...

— Ты пра што, Андрэевіч? — захваляваўся нечакана Сцяпан.

Андрэевіч не адказаў, выйшаў з-за стала, узяў цыгарэту з пачка Сцяпана, запаліў прама ў кабінеце ля форткі.

— Ты ж кінуў, — адно асцярожна заўважыў Рэдактар.

Андрэевіч без смаку зацягнуўся, выдыхнуў дым.

— То, хлопцы, Мова наша беларуская да нас прыходзіла... А мы яе — у Навінкі...

# Хто ў пошуках, а хто ў чаканні...

Вострасюжэтны серыял беларускага кінарэжысёра Аляксандра Яфрэмава "Снайпер. Зброя адплаты" набыты Першым расійскім тэлеканалам, дзе нядаўна адбылася яго, можна сказаць, міжнародная прэм'ера. Гэтая падзея выклікала хвалю аптымістычных каментарыяў у айчынным эфіры і ў друку. Адначасова ў медыяпрасторы распаўсюдзілася інфармацыя пра набыткі Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" за мінулы год і яе намкненне ажыццявіць за 2010 — 2011 гг. нацыянальны праект у мастацкім кіно.

Летась стужкі "Беларусьфільма" ўдзельнічалі ў шэрагу фестываляў і конкурсаў, у тым ліку міжнародных, і атрымалі 9 прызоў ды 14 дыпломаў. Аднак дастаткова некалькіх фактаў, каб зразумець: прызнанне нашых ігравых фільмаў, як правіла, не выходзіць, вобразна кажучы, за межы цесных братэрскіх абдымкаў і паўнавартаснага еўрапейскага ўзроўню не дасягае.

Фільм рэжысёра Аляксандра Колбышава "Ваўкі", які прэтэндаваў на ўдзел у "Берлінале-2010", не быў прадстаўлены ў Берліне з прычыны неадпаведнасці яго тэмы фармату гэтага міжнароднага кінафоруму. "Снайпер..." Аляксандра Яфрэмава адзначаны ў Мінску "Бронзай "Лістапада"" і ў Растове-на-Доне — Ганаровым знакам "За тэлевізійны мастацкі фільм" на VII Міжнародным фестывалі ваеннага кіно імя народнага артыста СССР Юрыя Озерава. Спецыяльным прызам Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы "Вместе" на "Лістападзе-2009" узнагародзілі расійскага акцёра Дзмітрыя Пяўцова за выкананне галоўнай ролі ў "Снайперы...".

Фільм "Інсайт" Рэнаты Грыцковай атрымаў у Мінску на кінафестывалі "Лістапад" прыз Выканаўчага камітэта СНД "Кино без границ", а на XII Бярдзянскім міжнародным кінафестывалі — дыплом "За лепшую жаночую ролю другога плана" (актрыса Вольга Іванова).

"Навагоднія прыгоды ў ліпені" Алены Туравай: стужка мае дыплом "За ўдалае спалучэнне тэхнікі рэальнага кіно, анімацыі ды камп'ютэрнай графікі" Мінскага міжнароднага кінафестывалю "Лістапад-2009", дыплом "За арыгінальнасць ідэі фільма" XVIII Міжнароднага кінафоруму "Залаты Віцязь" у Ліпецку і дыплом журы "За лепшы акцёрскі дуэт" на IX Міжнародным дзіцячым фестывалі мастацтваў "Кинотаврик" у Сочы (адзначаны юныя выканаўцы Маша Забара ды Вася Кубекін).

А вось наша дакументальнае і анімацыйнае кіно па-ранейшаму даюць фору ігравому, пацвярджаючы сваю канкурэнтаздольнасць на міжнародным узроўні. Напрыклад, стужка Галіны Адамовіч "Мама прыйдзе!" удзельнічала ў VII Міжнародным тэлевізійным фестывалі гарадской экалогіі "Urban-TV" (Мадрыд, Іспанія) і атрымала дыплом "За лепшы прафесійны дакументальны фільм"...

Што да нацыянальнага кінапраекта, дык на яго статус ужо ёсць прэтэндэнт: экранізацыя рамана Уладзіміра Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім", якая замоўлена Міністэрствам культуры Беларусі да 80-годдзя з дня нараджэння пісьменніка. Але канчатковае рашэнне будзе прынятае пасля завяршэння працы над сцэнарыем: яго якасць вызначыць, прынамсі, узровень фінансавання новага фільма (плануецца чатыры серыі для тэлебачання і кінаверсія). Паводле слоў галоўнага рэдактара "Беларусьфільма" Наталлі Сцяжко, для ўвасаблення нацыянальнага праекта павінна ўдала сысціся мноства фактараў: сцэнарый, рэжысура, фінансавы складнік, магчымасці кінастудыі. Сцэнарый піша Аляксандр Канановіч, а ставіць фільм, як мяркуецца, будзе тэатральны рэжысёр Мікалай Пінігін...

Той, хто чытаў Караткевічавы "Каласы...", можа сабе ўявіць, якая адказнасць перад нацыянальнай гісторыяй, культурай, літаратурай, перад беларускім народам ускладаецца на ўдзельнікаў гэтага кінапраекта. Зрэшты, не менш адказна будзе зняць мастацкі фільм пра нацыянальнага прарока і трагічную асобу — Янку Купалу: такая чатырохсерыйная стужка ўключана ў бліжэйшыя планы "Беларусьфільма".

Такім чынам, студыя працягвае пошук шляхоў-падыходаў да стварэння карціны, якую можна будзе без паблажлівасці назваць сур'ёзным, сапраўдным нацыянальным, а не сурагатным беларускім кіно. І гледачу, якога вабіць магія экрана, застаецца толькі чакаць ды спадзявацца, што гэтым разам яго не расчаруюць...

С. ВЕТКА

---

Нядаўні сталічны вернісаж Раісы Сіплевіч ладзіўся ў суседстве з персанальнымі выстаўкамі іншых мастакоў. Але прыхільнікі яе творчасці ўжо, што называецца, з парога агромністай залы Палаца мастацтва пазнавалі непаўторны, ярка індывідуальны стыль жывапісных палотнаў, пазначаных кранальна-рамантычным псеўданімам Patsinka. Дарэчы, гэты стыль знаёмы не толькі ў айчынным арт-асяроддзі: Раіса Сіплевіч (Patsinka) выстаўляла свае работы ў Аўстраліі, Германіі, Італіі, Канадзе, Партугаліі, Польшчы, Расіі, Францыі (Цэнтр П'ера Кардэна ў Парыжы), Швейцарыі.





# Проста Patsinka

Дзівасвет мастацтва Раісы Сіплевіч — гэта спалучэнне мажорнага настрою, жыватворнай энергетыкі, эфемернай летуценнасці, недасяжна загадкавай жаночай мудрасці ды па-дзіцячы непрыхаванай безабароннасці. Па-тэатральнаму эмацыйны, прывабны нейкай эстэцкай, памяркоўнай дэкаратыўнасцю дзівосны свет, які стварае Patsinka, насяляюць іраальныя і зямныя, але толькі абаяльныя і прыгожыя персанажы. Маляўнічы і крыху самотны казачны конь ("У пошуках вершніка"); ледзь угледная сярод пяшчотных бэзавых пялёсткаў істота-аблачынка ("Фея кветак"); нібы каранаваная сонцам, у вяночку з раскветнелых дзьмухаўцоў, славітая гірляндамі красак, атуленая майскай зелянінай светлавалосая і яснатварая багіня Вясны ("Ляля")... Між іншым, звяртаеш увагу і на тое, якія гожыя і вабныя назвы дае мастачка сваім візуальным вобразам: "Птушка, якая не ловіцца", "Усё мінае і настае", "Нараджэнне зоркі", "Летні вецер", "Гаспадынька", "Паміж наступным і былым", "Таемная непазбежнасць", "Магія зямлі"..

З тымі, хто характарызуе творы Раісы Сіплевіч як выключна "жаночыя", перакanана палемізаваў падчас вернісажа яе калега, першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца: "Мастацтва — гэта дар Божы: яно або ёсць, або няма. Мастацтва не дзеляць на мужчынскае і жаночае".





Яго развагі падтрымаў заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі прафесар Уладзімір Тоўсцік: "А ўрэшце: што ёсць мастацтва? Яно — паўсюль! — І сапраўды, адзін чалавек з насалодай убірае водар зямлі, другі захапляецца сочыць за палётам птушак, трэці задуменна ўглядаецца ў зоры. — Раіса Паўлаўна — чалавек эмацыянальны і чалавек міфатворчы, ведае фальклор, казку, адчувае дэкор".

Раіса Паўлаўна, "наша Рая" ці проста Patsinka. Так яе называлі прысутныя на выстаўцы калегі ды сябры. І ніхто не спрабаваў абыграць альбо расшыфраваць гэты творчы псеўданім. Бо відавочна, што паходзіць ён ад вядомага слова "пацінка", першароднае значэнне якога з часам пашырылася, набываючы шэраг новых, амаль да процілеглага, сэнсаў. Як відавочна і тое, што Раіса Сіплевіч узбагаціла гэты агульнавядомы тэрмін сваім, і толькі сваім, зместам, а разам з ім унесла свежае адценне ў бязмежнае палатно еўрапейскай выяўленчай культуры.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: творы Раісы Сіплевіч.

Фота Віктара Кавалёва

Нарадзілася Раіса Сіплевіч на Гродзеншчыне. Скончыла Мінскае мастацкае вучылішча, Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (цяпер Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў). Сярод яе настаўнікаў — П. Любамудраў, А. Шэвераў. Працуе ў галіне станковай графікі і жывапісу, аўтар вядомых графічных аркушаў "У лесе нараджаюцца зоркі", трыпціха "Варыяцыі адной тэмы", цыклаў "Гульні", "Тры сонцы", "Каляровыя вятры"; жывапісных палотнаў "Вербніца", "Вялікдзень", "Сёмуха", "Вяртанне да ранейшай сустрэчы", "Крок за небакрай". У выстаўках удзельнічае з 1975 года. Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, фондах Беларускага саюза мастакоў, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, у прыватных айчынных і замежных калекцыях.

---

## Радуемся разам



Упершыню наша краіна будзе прадстаўлена сёлета на конкурсе класічнай музыкі "Еўрабачанне". За гэтае пачэснае права спаборнічалі дзевяць юных талентаў. Рашэннем журы нацыянальнага адборачнага тура, якое ўзначальваў народны артыст Беларусі Міхась Казінец, на 15-м міжнародным конкурсе маладых музыкантаў "Еўрабачанне-2010" Рэспубліку Беларусь будзе прадстаўляць віяланчэліст Іван Карызна. Ён добра вядомы і нашай, і замежнай публіцы яшчэ з таго часу, калі вучыўся ў Рэспубліканскім каледжы пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Лаўрэат міжнародных конкурсаў Іван Карызна займаўся тут у выдатнага педагога Уладзіміра Перліна. Цяпер Іван, якому нядаўна споўнілася 18, вучыцца ў Парыжскай вышэйшай нацыянальнай кансерваторыі музыкі і танца, актыўна канцэртуе за мяжой. Між іншым, таленавіты віяланчэліст гадаваўся ў творчай сям'і: яго бацька — вядомы кампазітар, а дзядуля — паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзімір Карызна. Паўфіналы конкурсу адбудуцца ў Вене 8 і 9 мая, фінальны канцэрт — 14 мая.



Студэнты і выкладчыкі кафедры народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва БДУ культуры і мастацтваў зладкавалі выстаўку керамікі. Іх праект, які атрымаў назву "Традыцыя", ажыццёўлены пад кіраўніцтвам знанай мастачкі Тамары Васюк, за адраджэнне традыцыйнай беларускай керамікі ды падрыхтоўку лаўрэатаў рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў ганараванай спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2004 год). Удзельнікі выстаўкі размясцілі свае работы ў роднай для БДУКіМ мастацкай галерэі "Універсітэт культуры". У экспазіцыю ўвайшлі сапраўдныя рукатворныя цуды майстрых-чарадзеек: Алены Абражэвіч, Галіны Варанчуковай, Веры Каўзановіч, Людмілы Савойкі... Прадстаўлены і творы Т. Васюк, выкананыя ў розных тэхніках традыцыйнай беларускай керамікі.



Разьбяр і чаканшчык у адной асобе? Выключны прыклад у сучаснай беларускай мастацкай культуры! Талент Юрыя Адамовіча выклікае захапленне нават у самага дасведчанага крытыка — старшыні Беларускага саюза майстроў народнай творчасці прафесара Яўгена Сахуты, які звяртае ўвагу на унікальную арганічнасць спалучэння цёплага дрэва ды халоднага металу ў работах, спакроўленых з роднымі вытокамі, з глыбінямі беларускай культуры. Выстаўка Ю. Адамовіча, што адкрылася ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі, так і называецца: "Цёплае дрэва — халодны метал". Аб'ядноўшы два віды мастацтва — разьбу па дрэве і халодную, ручную, прарэзаную, аб'ёмную чаканку, майстар выкарыстоўвае ў апрацоўцы матэрыялаў арыгінальную тэхналогію, што існавала яшчэ ў часы ВКЛ, спалучаючы яе з новымі прыёмамі. Дэкаратыўныя панно, корпусы насценных гадзіннікаў, посуд ды іншыя мастацкія вырабы сведчаць не толькі пра высокі прафесіяналізм іх аўтара, але і пра назіральнасць, і пра тонкае веданне прыроды. Творы Ю. Адамовіча знаходзяцца ў калекцыях больш як 100 краін свету. Ён з'яўляецца лаўрэатам і дыпламантам шматлікіх айчынных і замежных выставак ды конкурсаў.

Лана ІВАНОВА

На здымках: лаўрэат міжнародных конкурсаў Іван Карызна; Тамара Васюк "Еўфрасіння Полацкая" (маёліка); так спалучае дрэва і метал Юрый Адамовіч.

Фота аўтара

# Лёс таленавітай праўнучкі

Сярод нашчадкаў славутага жывапісца Івана Хруцкага, якія, нягледзячы на цяжкія жыццёвыя выпрабаванні, зберагалі памяць пра свайго бацьку, дзеда, прадзеда, вылучаецца Ядвіга Мацiеўская (1916 — 1996). Мастак-жывапісец, грамадскі дзеяч, праўнучка нашага вялікага земляка, Ядвіга Аляксандраўна зрабіла свой унёсак у адраджэнне памяці пра І. Хруцкага. Да таго ж, яна перадала Полацкай мастацкай галерэі вялікую частку ўласных твораў. Некаторыя з іх сёння экспануюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі — у межах праекта, прысвечанага 200-годдзю з дня нараджэння знакамітага продка Я. Мацiеўскай.



Дзяцінства Ядвігі прайшло ў маёнтку Захарнічы на Полаччыне. Маці Алена (дачка Іосіфа — сына Івана Хруцкага) была па прафесіі лекарам-стаматолагам, бацька Аляксандр Мацiеўскі — інжынерам. У 1930-х гэтай інтэлігентнай сям'і не ўдалося пазбегнуць рэпрэсій: бацькоў расстралялі (пасмяротна, праз шмат гадоў, яны былі рэабілітаваныя), дзяцей лёс выпрабоўваў на трывушчасць і загартоўваў.

Ядвіга Мацiеўская вучылася ў Полацку ў польскай школе-сямігодцы. У 1936-м скончыла Ленінградскі гідратэхнічны тэхнікум, затым, да 1941 года, вучылася ў Ленінградскім горным інстытуце. Адначасова займалася ў студыі жывапісу пры Палацы культуры на Васільеўскім востраве (кіраўнік — М. Капейкін). У 1941 годзе выязджала ў геолагаразведвальную экспедыцыю ў Сібір, дзе яе заспела вайна. Сястра Я. Мацiеўскай Алена Аляксандраўна Арлова, геолаг, памерла ў час блакады Ленінграда.

Таленавітую праўнучку Хруцкага прытуліла Украіна. У 1950-м яна скончыла жывапісны факультэт Кіеўскага мастацкага інстытута. Вучылася ў вядомых майстроў украінскай школы рэалізму — народнага мастака УССР Г. Світліцкага і заслужанага дзеяча мастацтваў УССР І. Шцільмана. З 1949 года пачала ўдзельнічаць ва ўкраінскіх вернісажах, праз тры гады ўступіла ў Кіеўскае таварыства мастакоў, пазней — у Саюз мастакоў Украіны, а ў 1989-м — і ў маскоўскае Ясенінскае таварыства "Радуница".

Ядвіга Мацiеўская спраўдзілася як майстар лірычнага ды індустрыяльнага жывапісу другой паловы XX стагоддзя. У "Слоўніку мастакоў Украіны" за 1973 год прыгадваюцца яе творы "На Украине" (1950 — 69), "На Сібіры"(1955 — 69), "На далёкім Усходзе" (1966 — 69), "На Ленінскіх мясцінах" (1963 — 69), "9 мая", "Калгаснае поле"(1970). Цяперашняя выстаўка ў НММ Беларусі сабраная з калекцыі Полацкай мастацкай галерэі, дзе захоўваецца некалькі соцень твораў жывапісу Я. Мацiеўскай (палатно, кардон, алей) і графікі (гуаш, акварэль) у эскізах, замалёўках, накідах. Гэты агромністы матэрыял, назапашаны мастачкай у "палявых" умовах, дэманструе працэсы асваення новых геаграфічных абсягаў — пачынаючы ад краявідаў украінскіх вёсак, помнікаў гісторыі Расіі, Украіны, Беларусі да грандыёзных новабудоўляў і прамысловых цэнтраў Урала, Байкала, Сібіры, Якуціі. Абагульнена-панарамныя, працятыя вострым кампазіцыйным рытмам, паўстаюць перад намі манументальныя забудовы "Акадэмічнага гарадка" ў Новасібірску, сталёвыя плошчы Вілюйскай ГРЭС, алтайская зеляніна і светлыя канструкцыі цуду-горада Камсамольска-на-Амуры.

У жывапісных адносінах гэтыя кампазіцыі характарызуюцца шчырым паказам суровай праўды пра жыццё і працу мужных будаўнікоў ва ўмовах Поўначы. Творы адрозніваюцца стрыманасцю, суладдзем сіняга, срэбнага, жоўта-карычневага таноў і колераў: палаточныя гарадкі пад хвоямі ды піхтамі, вогнішчы на палянах — на фоне горных масіваў альбо туманнай тундры. Відавочна, што мастачка захаплялася дзейнасцю мастака-вандроўніка Ракуэла Кента, жыла ўспамінамі пра свае першыя даваенныя экспедыцыі на Поўнач.

У жанры гістарычнага пейзажу Я. Мацiеўская адкрыла для сябе невычэрпны вобраз даўняга асяроддзя і звязанага з ім пагоркавага краявіду. Пра гэта сведчаць пейзажы Кіева, Баку, Варшавы, Полацка. Замалёўкі Полацкай Сафіі з дрэвамі на высокіх берагах Заходняй Дзвіны, рака Палата ў Полацку, сюжэт з гняздом бусла на доўгім слупе ў цэнтры паселішча Жыхары, што непадалёк ад станцыі Палата, дзе жыла цётка Марыя; маляўнічыя мясціны радзімы любімага паэта — Сяргея Ясеніна... Усе гэтыя краявіды адмыслова спалучыліся з яскравым жыццём, характарам і лёсам Ядвігі Мацiеўскай.

У гэты ж, так бы мовіць, "сямейны альбом" могуць дадацца тэмы "Родзічы ў Польшчы", "Вырыца", "Ленінград", а яшчэ — выява касцёла ў польскім Казімежы Дольным, Кракаў і Торунь на беразе Віслы, акварэлі з выявамі садоў і кветнікаў. Шматлікія эцюды захоўваюць выразнасць жывых уражанняў, нязмушанага і хуткага выканання — на адным подыху. Важная адметнасць яе краязнаўчых твораў — абагульненне колераў, трапная перадача насторою, мяккая жывапісная гама.

У 1990-х мастачка захаплялася планерызмам, пра што сведчыць серыя гуашаў на тэму палётаў дэльтапланаў з высокіх крымскіх узгоркаў. Вандроўнае жыццё Я. Мацiеўскай не перапынялася, працягваліся і яе творчыя пошукі, звязаныя з новымі выяўленчымі сімваламі палёту, імкненнем перадаць неабсяжную перспектыву.

Прыклад роднаснай і творчай сувязі таленавітай праўнучкі з вялікім продкам дапамагае зразумець важнасць сямейных традыцый, моц творчай пераемнасці, якія распаўсюджаны сярод мастацкіх дынастый Беларусі. У гэтым кантэксце сямейства Хруцкага вельмі характэрнае. Ды трэба прызнаць, што за мінулае стагоддзе мы многае страцілі ў сваёй культуры, забылі. Няма сумневу, што мастачка пакінула шмат успамінаў пра свае жыццё і працу, пра род Хруцкіх, але, на жаль, сёння гэтая інфармацыя амаль недаступная. Належным чынам яшчэ не вывучаная і творчая спадчына Я. Мацiеўскай, часткова прадстаўленая ў розных калекцыях Масквы, Кіева, Пецярбурга, Польшчы; большасць яе работ, якія знаходзяцца ў Беларусі, не атрыбутаваная.

Вядома, што менавіта Ядвіга Аляксандраўна шмат зрабіла для таго, каб на радзіме Івана Хруцкага яго імя не было забытае. Прыехаўшы ў 1986 годзе ў Беларусь, дапамагла знайсці магілу прадзеда, склала радаводнае дрэва нашчадкаў мастака. У чэрвені 1997-га, адпаведна яе завяшчанню, урна з прахам Я. Мацiеўскай была пахаваная на вясковых могілках у Захарнічах.

Для нас, беларусаў новага стагоддзя, актуальная задача — ліквідоўваць "белыя плямы" ў гісторыі мастацтва. Прыгадваць, адраджаць, не абмінаючы нічога, што ў гэтую хвіліну можа здацца дробным, неістотным, малазначным. Хай сапраўдную значнасць і выключнасць нашага духоўнага набытку вызначыць будучыня! Тым больш, калі гаворка ідзе пра такую творчую асобу, якая мае права ўвайсці ў мастацтвазнаўчую літаратуру, энцыклапедыі, даведнікі поруч з Іванам Хруцкім.

Людміла НАЛІВАЙКА









На здымках: Ядвіга Мацiеўская і яе творы.



Сямейнае пахаванне Хруцкіх на могілках у Захарнічах (у цэнтры — надмагільны помнік мастаку).



Другі бок надмагільнага помніка Івану Хруцкаму.

# Будзем дакладныя

## У працяг нашых публікацый

Прашу прабачэння ў жыхароў вёскі Захарнічы і палачан, якія руплацца пра ўшанаванне асобы свайго вялікага земляка Івана Хруцкага, за крыўдную для іх недакладнасць.

Падчас працы над артыкулам да 200-годдзя з дня нараджэння мастака (гл. "ЛіМ" за 12 лютага 2010 г., "Хруцкі паедзе ў Парыж!") я звярталася да розных аўтарытэтных крыніц і не знайшла там інфармацыю пра сённяшні стан былой сядзібы Захарнічы. Шукала сярод сталічных спецыялістаў відавочцу, якому б давялося пабываць у той памятнай мясціне, — і зноў дарма. Заставалася надзея, што звесткі пра Захарнічы 20-гадовай даўнасці, узятыя з артыкула І. Паньшынай і А. Рэсінай, мне дапамогуць удакладніць госці з Полацка, якія прыязджалі на ўрачыстае адкрыццё Года І. Хруцкага ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Аднак... Запісы з прэс-канферэнцыі, што папярэднічала святочнай падзеі, пацвярджаюць: на пытанне карэспандэнта "ЛіМа" наконт сённяшніх Захарнічаў і дзейнасці мясцічаў па захаванні памяці пра славутага мастака адказ быў надзіва лаканічны: маўляў, гэта цяпер проста вёска, там ёсць школа, ёсць могілкі, дзе пахаваны Хруцкі і яго праўнучка. Якую выснову можна было зрабіць з такой інфармацыі?

Шкада, што тады ў Мінск не прыехалі энтузіясты з глыбінкі ды тыя прадстаўнікі нашай сёлетняй культурнай сталіцы, якія апякуюцца ўшанаваннем памяці І. Хруцкага непасрэдна ў Захарнічах. Іх удзел у прэс-канферэнцыі, безумоўна, паўплываў бы і на змест згаданага артыкула. Толькі пасля яго публікацыі ўдалося, дзякуючы намесніку дырэктара НММ Беларусі па навуковай рабоце Надзеі Усавай, атрымаць фотаздымкі, зробленыя на могілках у Захарнічах. А ў якасці каментарыя да іх — вынятку з ліста супрацоўніцы Полацкага нацыянальнага гісторыка-культурнага запаведніка Тамары Джумантаевай: "Здымкі зробленыя Лысенка Ларысай Міхайлаўнай, заг. Мастацкай галерэі (філіяла нашага запаведніка) у кастрычніку 2009 г. на могілках у в. Захарнічы. Абеліск на магіле ўстаноўлены ў 2007 г. Выраблены ён на сродкі Фонду міру полацкім прадпрыемствам "Рытуал", а аўтар дызайну і тэксту — начальнік ідэалагічнага аддзела Полацкага раённага выканаўчага камітэта Людміла Георгіеўна Гаўрылава. Непасрэднае дачыненне да ўвекавечвання памяці І. Хруцкага ў Полацкім раёне мае настаўніца Палатоўскай сярэдняй школы і дырэктар школьнага музея Людміла Аляксееўна Хацкевіч".

Як паведаміла шаноўная Надзея Міхайлаўна Усава, Нацыянальны мастацкі музей сёлета актыўна спрычыніцца да спраў мясцовых краязнаўцаў і дапаможа ім у папулярызацыі творчасці І. Хруцкага сярод жыхароў (і перадусім — школьнікаў) Полаччыны.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ




## Слова краязнаўцы



**Аляксандр ВАШЧАНКА**

— Для мяне краязнаўства пачыналася з матулінай калыханкі:

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі гулі.
Селі на варотах
У чырвоных ботах

Гэтымі простымі і пяшчотнымі матулінымі словамі кожнаму немаўляці на генным узроўні выдаецца сакральны беларускі пашпарт. Потым, калі пачынаеш усведамляць сябе асобай, настае час пытанняў. "Тата, а чаму наша вёска называецца Дварэц? Мама, чаму гэту гару завуць Расстралянай? Дзядуля, раскажы, як ты ганяў плыты да Рыгі? Бабуля, а чаму разбілі твае каменныя жорны? Чаму памерла пяцёра тваіх дзетак? А калі вернуцца з вайны дзядзька Алесь і дзядзька Мікола?" І потым усё жыццё ты шукаеш адказы на гэтыя і іншыя пытанні…

Калі мяне маленькага напалохаў сабака і бабуля Марыля, да якой, нягледзячы на забарону ўладаў, везлі лячыць дзяцей з усёй вобласці, вечарам паставіла босага на табурэт і, запаліўшы свечку і назбіраўшы павуціння з чатырох вуглоў, пачала абкурваць зёлкамі і шаптаць замовы, я, вылечыўшыся, праз пэўны час зразумеў, што медыцына — гэта не толькі таблеткі і ўколы, а бабуліна навука ведання лекавых уласцівасцей зёлак дапамагае мне і па сённяшні дзень.

Паскакаўшы праз купальскае вогнішча і пахадзіўшы з дзядзькам па валачобніках, я пачаў усведамляць, што дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі і Першамай не былі святамі нашых продкаў, што ў іх быў свой спрадвечны земляробчы каляндар, прывязаны да руху светлага сонейка і яснага месячка.

Бацька навучыў мяне іграць на гармоніку і балалайцы, а матуля прывіла любоў да роднай песні. Музычная школа, вышэйшая літаратурна-музычная адукацыя, праца загадчыкам кафедры народных інструментаў дапамаглі праз класічную і духоўную музыку дайсці да народных вытокаў, зразумець, што самае лепшае — аўтэнтычнае, першароднае, неапрацаванае.

Праца навуковым кіраўніком педагагічнага праекта "Этнашкола", удзел у міжнародных і рэспубліканскіх семінарах і канферэнцыях спрыялі знаёмству з этнаграфічнай і фальклорнай спадчынай беларусаў, і атрыманне ў 2004 годзе гранта Мінгарвыканкама за праект "Выкарыстанне традыцыйнай культурнай спадчыны беларусаў для развіцця нацыянальнай самасвядомасці вучняў" стала вынікам гэтай працы.

Складанне ўласнага радавода, карані якога цесна пераплятаюцца з тысячамі іншых каранёў, якія сілкуюць магутнае дрэва пад назвай Беларусь, дапамаглі разуменню, што беларусы не бязродныя Іваны і не Янкі, што ў нас свае месца пад сонцам і свой шлях у гісторыі.

Генадзь Васільевіч Кісялёў, з якім я раіўся, збіраючы матэрыялы пра П. Шпілеўскага, навучыў мяне чытаць рукапісную кірыліцу сярэдзіны XIX стагоддзя, паказаў, як працаваць з архіўнымі матэрыяламі, як весці навуковы літаратуразнаўчы пошук.

Зараз сваю мэту бачу ў тым, каб праз адкрыццё сучаснаму чытачу краязнаўчай і этнаграфічнай спадчыны дапамагаць станаўленню самасвядомасці беларускага этнаса.

Спасцігаючы родны край, я спасцігаю сябе.

# Калі адчыніўся тэатр?

Большасць аўтараў, якія пісалі і цяпер пішуць пра мінскі гарадскі тэатр (цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы), датай яго адкрыцця нязменна называюць 5 чэрвеня 1890 года. Адным з першых, хто ўвёў гэтую дату ў навуковы ўжытак, быў вядомы гісторык Я. Карнейчык.

У сваёй кнізе "Гісторыя Мінска", выдадзенай у 1967 годзе, ён пісаў: "Важнай падзеяй у культурным жыцці Мінска з'явілася адкрыццё гарадскога тэатра (цяпер будынак тэатра імя Янкі Купалы), якое адбылося 5 чэрвеня 1890 года". На жаль, Я. Карнейчык не назваў крыніцу, з якой узяў такую дату. Гэта выключае магчымасць праверкі не толькі сапраўднасці архіўнага дакумента, але і пазнаёміцца з яго зместам, каб выключыць яго адвольную інтэрпрэтацыю.

Праўда, гісторык у іншым месцы сваёй працы прыводзіць надзвычай цікавы факт, які адносіцца да гэтай падзеі: "У складзе мінскай трупы некаторы час знаходзіліся выдатныя майстры рускага тэатра М. Савіна і П. Арленеў". Гэтая цытата дазволіла скіраваць пошук у больш пэўнае рэчышча. Але ўспаміны Марыі Савінай нічога новага не ўнеслі, бо яе мемуары заканчваюцца 1877 годам. Заўчасная смерць гэтай таленавітай актрысы ў 1915 годзе перашкодзіла ёй пакінуць яшчэ адну запамінальную старонку, прысвечаную яе другому прыезду ў Мінск.

Што датычыцца аўтабіяграфічных нататак Паўла Арленева, то яны заключаюць у сабе вельмі важнае і вельмі каштоўнае сведчанне. Мяркуйце самі: "1890 год. Мінск. Зіма ў Картавава, — піша Павел Мікалаевіч. — Толькі што выбудавалі ў горадзе новы тэатр. Адкрыццё ўрачыстае. Трупа вельмі добрая: рэжысёр А. Смірноў, старой школы трагік К. Гарын, актрысы Сабліна-Дольская, Строева-Сакольская, Шчарбакова, яе дачка Элер, драматычны каханак-герой Анатоль Апалінар'евіч Агароў. Сезон быў вельмі добры, працы многа, я меў поспех…".

Шкада толькі, што Павел Арленеў не назваў ні дня, ні месяца ўрачыстага адкрыцця тэатра. Але рэдактар выдання ўспамінаў артыста, вядомы гісторык рускага драматычнага тэатра Д. Залатніцкі ў заўвагах да гэтага фрагмента піша: "Мінскі гарадскі тэатр, пабудаваны архітэктарам К. Уваддзенскім, быў урачыста адкрыты 30 жніўня 1890 года. Спектаклі ў ім пачаліся 9 верасня і скончыліся 21 снежня. Арленеў дэбютаваў 11 верасня".

Нягледзячы на тое, што Д. Залатніцкі назваў, здавалася б, дакладную дату адкрыцця тэатра — 30 жніўня, ён таксама, як і Я. Карнейчык, не назваў крыніцы яе паходжання. Хаця крыху ніжэй паважаны гісторык і прыводзіць водгук рэцэнзента на ігру П. Арленева з газеты "Мінскі лісток" за 11 верасня 1890 года. Гэта ў нейкай ступені робіць яго дату адкрыцця тэатра больш верагоднай.

Пра няпэўную сітуацыю я вырашыў расказаць вядомаму беларускаму мастацтвазнаўцу, аўтару больш як 60 навуковых прац па гісторыі музычнай культуры Беларусі прафесару Аляксандру Капілаву. Праз некалькі дзён Аляксандр Львовіч паведаміў, што ў сваім архіве адшукаў выпіску з карэспандэнцыі пад назвай "Да адкрыцця гарадскога тэатра", якая была надрукавана ў газеце "Мінскі лісток" 5 чэрвеня 1890 года. У ёй аўтар, які падпісаўся крыптанімам К-в С. М., паведамляў чытачам, што 5 чэрвеня адбудзецца ўрачыстае мерапрыемства з нагоды завяршэння будаўніцтва мінскага гарадскога тэатра, якое працягвалася два гады і каштавала гараджанам значных матэрыяльных выдаткаў, звыш ста тысяч рублёў.



Далей карэспандэнт газеты дае сцыслае апісанне ўнутранага выгляду тэатра, які ўмяшчае да 550 гледачоў, мае тры ярусы і амфітэатр. Усе ярусы размешчаны па прынцыпе падкоў, што дазваляе гледачу бачыць сцэну з любога месца. Расказаўшы пра памеры сцэны, рэпарцёр заўважыў, што заслона для яе выканана маладымі мастакамі-дэкаратарамі з Пецярбурга Ю. Рэйнбергам і Г. Венігам, якія паспелі праславіцца дзякуючы пастаноўцы "Барыса Гадунова" у Шарамецьеўскім тэатры. Урачыстасці павінны былі завяршыцца набажэнствам і асвячэннем усяго будынка тэатра. "Мабыць, гэтую падзею, — кажа Аляксандр Львовіч, — Я. Карнейчык і прыняў за адкрыццё мінскага гарадскога тэатра. Аднак, відаць, самая каштоўная інфармацыя для вас, — заўважае прафесар, — напрыканцы гэтай карэспандэнцыі. А менавіта: пачатак пастановак спектакляў у тэатры прызначаны на 30 жніўня. Гэта значыць, што Д. Залатніцкі, працуючы над запісамі П. Арленева, грунтоўна пазнаёміўся з падшыўкамі газеты "Мінскі лісток". Значыць, яго сцвярджэнне, што мінскі гарадскі тэатр адкрыў свой першы тэатральны сезон 30 жніўня, не падлягае сумневу. Яно пацвярджаецца дакладнай архіўнай крыніцай, якой вам так не ставала".

Варта адзначыць, што каментарыі прафесара Аляксандра Капілава гэтым не вычэрпваюцца. Яны дапамаглі таксама вызначыць прыналежнасць згаданага ім псеўданіма К-в С. М. Гэтым крыптанімам падпісваў свае матэрыялы ў мінскіх газетах вядомы дарэвалюцыйны журналіст і тэатральны рэпарцёр С. Краеў.

Вячаслаў АФАНАСЬЕЎ

На здымку: Павел Арленеў.

# Ахвяра Мяснікова, Кнорына і Ландэра

Беларуская Савецкая Рэспубліка магла быць абвешчана больш чым на год раней, ужо ў снежні 1917-га…



У студзеньскіх нумарах часопіса "Беларуская думка" надрукавана першая частка ўспамінаў дзеяча беларускага руху пачатку XX стагоддзя Яўсея Канчара "З гісторыі Грамадзянскай вайны ў Беларусі ў 1917 — 1920 гг.".

Яўсей Канчар увосені 1917 года быў старшынёй Беларускага абласнога камітэта пры Усерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў. Ён выступіў адным з ініцыятараў склікання ў снежні 1917-га Усебеларускага з'езда. Свае мемуары Канчар напісаў у 1937-м, выкарыстоўваючы асабістыя ўспаміны, нататкі, гістарычныя крыніцы. Але годам пазней ён быў рэпрэсіраваны, і публікацыя не пабачыла свет.

Галоўны рэдактар часопіса "Беларуская думка" кандыдат гістарычных навук Вадзім Гігін, прэзентуючы перад журналістамі даследчыцкі праект Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь і часопіса "Беларуская думка", адзначыў, што ў часопісным артыкуле прыводзяцца запісы гутарак Канчара з Леніным, Сталіным, Свярдловым, Луначарскім, з якімі ён сустракаўся ў ходзе падрыхтоўкі Усебеларускага з'езда. Дзякуючы гэтым запісам становіцца зразумелым, што з'езд склікаўся пры актыўнай падтрымцы Петраграда. Вельмі падрабязна Канчар расказвае ў сваіх мемуарах і пра яго разгон. Галоўная прычына якога была не ў тым, што бальшавікі не прызнавалі самавызначэння беларусаў і беларускай дзяржаўнасці, а перш-наперш у барацьбе за ўладу, якой Мяснікоў, Кнорын і Ландэр не хацелі дзяліцца з беларускімі нацыянальнымі дзеячамі. З'езд быў разагнаны. А яго паўторнаму скліканню перашкодзіла нямецкая інтэрвенцыя.

Гэта сапраўды гістарычнае адкрыццё, якое дазваляе праліць святло на даволі вывучаную і ў той жа час малавядомую старонку з гісторыі Беларусі паслякастрычніцкіх часоў. Мемуары Канчара, якія знаходзяцца ў расійскім архіве, раней нідзе не публікаваліся, і таму сёння — гэта вельмі важны каменьчык у мазаіцы развіцця гісторыі беларускай дзяржаўнасці.

Загадчык аддзела публікацый дакументаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь Віталь Скалабан падкрэсліў: "Успаміны Канчара — безумоўна, унікальная гістарычная крыніца, якая патрабуе выдання. Я назваў бы гэты дакумент справай вяртання нашага земляка ў гісторыю Беларусі. Такая спроба вяртання была ў канцы 1960-х, калі Канчар, ужо пенсіянер, жыў у Ленінградзе. Сам ён родам з вёскі Сяўкі Лоеўскага раёна. Мне даводзілася сустракацца з Яўсеем Канчарам, калі я быў яшчэ студэнтам… Ён добра разумеў усю значнасць тых падзей і быў удзячны лёсу, што менавіта яму давялося ўдзельнічаць у іх. Я. Канчар меў прыватны архіў, выступаў як гісторык, публіцыст".

Дырэктар Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Селяменеў расказаў, што ў выніку супрацоўніцтва з расійскім архівістам сёння Беларусь мае копію гэтага ўнікальнага дакумента.

Уладзімір ПАДАЛЯК

На здымку: Яўсей Канчар.

Фота з архіва Віталя Скалабана

Ад рэдакцыі: у наступным выпуску «Зямля пад белымі крыламі» — урывак з успамінаў Яўсея Канчара.

## Новыя гарызонты

У ЗША выйшла энцыклапедыя Зіны Гімплевіч "Беларуска-яўрэйскія пісьменнікі XX стагоддзя: паходжанне, гісторыя, дыскурс і біяграфіі". Выданне двухмоўнае — па-беларуску і па-англійску. Аўтар даследавання знаёміць чытача з ураджэнцамі Беларусі, якія зрабілі ўнёсак у беларускую, яўрэйскую і расійскую культуры.

Пісьменнік Змітрок Бядуля, паэт і перакладчык на беларускую мову твораў Генрыха Гейнэ і Уладзіміра Маякоўскага Юлій Таўбін, наш сучаснік, які, на жаль, пайшоў ужо з жыцця, паэт Веніямін Блажэнны… Але энцыклапедыя не абмяжоўваецца матэрыяламі выключна пра літаратараў. Тут сабраны звесткі таксама пра рэдактараў, укладальнікаў слоўнікаў.

Даследаванне Зіны Гімплевіч з'яўляецца не першым пра ўзаемадачыненні паміж беларускімі і замежнымі пісьменнікамі. Раней выдаваліся кнігі пра літаратурныя сувязі паміж Беларуссю і Украінай — "Карані дружбы: Беларуска-ўкраінскія літаратурныя сувязі пачатку XX ст". Вячаслава Рагойшы і Таццяны Кабржыцкай, Беларуссю і Расіяй — "Народ издревле нам родной" Сямёна Букчына і іншыя.

Павел РАДЫНА

## Пошукі і знаходкі

Даўно яшчэ чуў ад старых сваіх землякоў, што ў пачатку XX стагоддзя на Слонімшчыне жыў цікавы паэт і археолаг Генрых Мілачэўскі. Знайсці хоць якія-небудзь звесткі пра яго ў Беларусі і ў Польшчы мне шмат гадоў не ўдавалася. Няма звестак пра яго і ў "Польскім біяграфічным слоўніку".



# Сваякі памятаюць

Тым не менш, у апошні час сёе-тое з біяграфіі Генрыха Мілачэўскага атрымалася высветліць. Найбольш у гэтым дапамагла 83-гадовая сланімчанка Ганна Пішчыкевіч. Ганна Фёдараўна родам з Мілачэўскіх. Пра сваіх дзядоў і прадзедаў яна мне расказала вось якую гісторыю.

Браты Мілачэўскія ў XIX ст. жылі ў вёсцы Блізная, недалёка ад шашы па дарозе са Слоніма на Ружаны. Адзін з братоў — Міхал — браў удзел у паўстанні 1863 года. А пасля паразы Міхал Мілачэўскі ўцёк у Парыж. Там ён ажаніўся з францужанкай і ад гэтага шлюбу меў дачку і сына. Пражыўшы ў Францыі 13 гадоў, з сям'ёй вярнуўся на Слонімшчыну. Але браты не дужа ветліва яго сустрэлі і адмовілі Міхалу ў спадчыне, якая засталася ад бацькоў. За прывезеныя з Францыі грошы Міхал Мілачэўскі ў 1878 г. купіў невялікі маёнтак на хутары Камілёва і млын у вёсцы Клепачы Слонімскага павета. А калі ён састарэў, то ўсю сваю спадчыну перадаў сыну Паўлу.

На той час Павел жыў добра. Меў чацвёра дзяцей — Генрых, Ганна, Марыя і Паўліна. Кожнаму з дзяцей Паўла пасля смерці ў спадчыну засталося па 5 гектараў зямлі і па $^1/_4$ часткі млына ў вёсцы Клепачы. Праўда, Генрыха праца на зямлі мала цікавіла, яго больш цягнула да кніг, да вывучэння гісторыі Бацькаўшчыны.

Генрых нарадзіўся прыблізна ў 1897 годзе на хутары Камялёва, недалёка ад чыгуначнай станцыі Азярніца. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Слоніме. Потым, магчыма, вучыўся ў Вільні. Але дзе канкрэтна, даведацца пакуль не ўдалося.

Генрых Мілачэўскі пісаў на польскай і беларускай мовах. У 1929 годзе ў Гродне ў друкарні К. Крамкоўскага ён выдаў зборнік выбраных вершаў на польскай мове "Plyn, piosenko". Сюды ўвайшлі творы, напісаныя аўтарам на працягу 1908 — 1922 гадоў. Гэта вершы, прысвечаныя бацькоўскай зямлі, сябрам, землякам...

Генрых Мілачэўскі для Ганны Пішчыкевіч быў дзядзькам (родны брат яе мамы). У Ганны Фёдараўны да сённяшняга часу захоўваецца вышэй названы зборнік вершаў з аўтографам для яе мамы: "Каханай маёй сястры Полі — на памятку. Г. Мілачэўскі. 17. XI. 1930".

Сама Ганна Пішчыкевіч не памятае дзядзькі. Але па словах яе маці, дамоў са Слоніма, Гродна і Вільні Генрых прыязджаў з кнігамі, часопісамі і газетамі, альбо з калекцыямі розных старых рэчаў. Дарэчы, у фондах Гродзенскага Дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея знаходзіцца крамянёвы інвентар з ваколіц маёнтка Антонава былога Слонімскага павета (ГІАМ 3642). Ён быў перададзены ў музей Генрыхам Мілачэўскім перад Другой сусветнай вайной і налічвае 28 адзінак. Той факт, што калекцыя складаецца толькі з крамянёвых прылад працы, сведчыць пра тое, што іх збіральнік валодаў пэўнымі археалагічнымі ведамі.

Перад пачаткам Першай сусветнай вайны Генрых закахаўся ў прыгожую яўрэйку са Слоніма. Ёй прысвяціў шмат сваіх паэтычных строфаў. Але вайна і тагачасныя расійскія парадкі выгналі сям'ю Мілачэўскіх углыб Расіі. Пасля вяртання спаткаць сваё першае каханне Генрых не змог. Ён пайшоў у прымы да багатай жанчыны, якая жыла на хутары Антонава. У іх нарадзілася дачка Галіна. У канцы 1930-х гадоў Генрых Мілачэўскі моцна захварэў на цукровы дыябет. Яму аднялі нагу, а 3 лютага 1941 года паэта і археолага не стала. Пахавалі яго на могілках вёскі Моўчадзь, цяпер гэта Баранавіцкі раён.

Сяргей ЧЫГРЫН

На здымках: Генрых Мілачэўскі з маці і з сястрой Паўлінай, 1930 год.

# Далучэнне да спадчыны

Сёння краязнаўчыя музеі складаюць, мабыць, самую шматлікую групу сярод музеяў нашай краіны. У абласных гарадах і амаль што ў кожным раённым цэнтры ёсць свой краязнаўчы музей. Баранавічы таксама не з'яўляюцца выключэннем.



У 1929 годзе ў зусім яшчэ маладым горадзе (Баранавічы заснаваны ў 1871 годзе) намаганнямі мясцовай інтэлігенцыі, краязнаўцаў, навучэнцаў мясцовых гімназій пры падтрымцы гарадскіх улад быў адчынены музей. Так, у 2009-м Баранавіцкаму краязнаўчаму музею споўнілася 80 год. Цэлае чалавечае жыццё… Розныя падзеі, радасныя, сумныя, перажыў за гэты час музей. І пры гэтым ён не страціў сваёй вызначальнай ролі ў далучэнні сучаснікаў да гісторыі сваёй Радзімы, да спадчыны беларускага народа.

Гісторыя пакінула нам вельмі мала крыніц, дзе можна было б знайсці інфармацыю пра ўтварэнне і працу музея ў першыя гады яго існавання. Мы ведаем, што ў перадваенныя гады ў ім дзейнічалі тры аддзелы: прыроды, гістарычны, этнаграфічны. Самым багатым з іх з'яўляўся менавіта апошні. У першай яго былі прадстаўлены такія цікавыя прадметы, як дарожны несэсэр XVIII ст., калекцыя манет, банкноты часоў паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, герцагства Варшаўскага, зброя, парцаляна, драўляная скульптура з замка Сапегаў у Новай Мышы, што недалёка ад Баранавічаў, іншыя рэчы. У музейным зборы захоўвалася багатая калекцыя кніг, сярод якіх былі і старадрукі. Асаблівую каштоўнасць у ёй прадстаўляла першае выданне твораў Адама Міцкевіча 1822 года. Значна папоўніліся фонды ў 1939 — 1940 гг. пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. Але амаль нічога з таго да нас не дайшло. Усё знішчыла вайна.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны музей прыйшлося ствараць фактычна з нуля: нанова займацца збіраннем і камплектаваннем яго фондаў. Цяпер у іх сабраны матэрыялы, якія адлюстроўваюць самыя розныя старонкі гісторыі Баранавіч і Баранавіцкага краю. Музей разам з прыгожай выставачнай залай з'яўляецца адным з культурных цэнтраў горада.

Вядома, "тварам" музея з'яўляецца яго экспазіцыя. Але, на жаль, яе памеры і магчымасці даволі абмежаваныя і не дазваляюць экспазіцыі азнаёміць наведвальнікаў са значнай часткай фондавых калекцый. І, тым не менш, у сямі экспазіцыйных залах Баранавіцкага краязнаўчага музея прадстаўлена больш як 2 тыс. найбольш цікавых музейных прадметаў асноўнага фонду. За кожным з іх стаяць падзеі мінулых стагоддзяў, жыццёвыя лёсы нашых суайчыннікаў.



У зборы кожнага музея ёсць унікальныя экспанаты, якія маюць асаблівую гістарычную, мастацкую каштоўнасць. З імі зацёды хочацца азнаёміць як мага больш людзей. І таму такія прадметы адбіраюцца суправаджаюцца адным з першых у час работы над музейнай экспазіцыяй ці якой-небудзь тэматычнай выставай. А калі гэта яшчэ і гонар нацыянальнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва! Размова ідзе пра знакамітыя слуцкія паясы. У 1972 г. па просьбе тагачаснага дырэктара музея В. Палікарпава і на падставе распараджэння Упаўнаважанага Савета па справах рэлігіі па Брэсцкай вобласці з касцёлаў вёсак Новая Мыш і Паланечка Баранавіцкага раёна музею былі перададзены два арнаты, пашытыя са слуцкіх паясоў.

Апошнім часам можна назіраць цікавасць да матэрыялаў, якія дазваляюць аднавіць воблік горада на розных этапах яго гісторыі. Дзякуючы ім можна ўявіць, якімі былі Баранавічы ў той ці іншы гістарычны перыяд, якія падзеі тут адбываліся, якімі былі яго жыхары. Напрыклад, заўсёды выклікае цікавасць экспазіцыйны раздзел, прысвечаны гісторыі ўзнікнення Баранавіч. Тут можна ўбачыць першую баранавіцкую газету "Барановичский листок объявлений", першы тэлефонны даведнік. Асаблівую ўвагу звяртаюць на сябе паштоўкі, фотаздымкі, на якіх адлюстраваны гарадскія кварталы, вуліцы, асобныя будынкі, — усё тое, што знікла бяследна ці захавалася ў непазнавальным выглядзе. Вось, напрыклад, паштоўка "Баранавічы. Марыінская вуліца". Так выглядала адна з цэнтральных вуліц цяперашніх Баранавіч — вуліца Савецкая. А ў двухпавярховым будынку з балконамі, што на гэтай паштоўцы, з 1960 г. і да цяперашняга часу размяшчаецца Баранавіцкі краязнаўчы музей. Асабліва прыемна, што пераважная колькасць гэтых паштовак была выпушчана мясцовымі выдаўцамі М. Літвіком і М. Рабіновічам.

Шмат яшчэ цікавага захоўваецца ў зборы музея. Тут можа знайсці дапамогу кожны, хто цікавіцца гісторыяй сваёй малой радзімы, гісторыяй Беларусі ўвогуле, хто імкнецца дакрануцца да каранёў свайго народа.

Ірына САЙКО

На здымках: будынак Баранавіцкага краязнаўчага музея; вітрына з арнатам, пашытым са слуцкага пояса.

Фота аўтара

Кіяўлянін Віктар Кіркевіч добра вядомы ў свеце калекцыянераў на постсавецкай прасторы. Філакартыст з вялікім вопытам, праз многія дзесяцігоддзі ён збірае паштовыя карткі, прысвечаныя Украіне, Кіеву. Хаця і не толькі паштоўкі… Калекцыя Віктара Генадзьевіча складаецца з 4000 картак, 1000 кніг, 500 часопісаў, 500 газет, 500 арыгінальных фотаздымкаў. Усе — па гісторыі сталіцы Украіны. Калекцыйныя захапленні апантанага збіральніка выхавалі ў асобе Віктара Кіркевіча таленавітага краязнаўцу, даследчыка гісторыі горада, сваёй краіны. Філакартыст уганараваны званнямі заслужанага работніка культуры, заслужанага работніка турызму Украіны, узнагароджаны Ганаровай граматай Кіеўскага Галавы, ордэнам Святога Уладзіміра III ступені. І яшчэ ён — аўтар 17 кніг: "Сем прагулак па сталіцы Украіны", "Сабор Святога Уладзіміра ў Кіеве", "Час Раманавых. Кіеў у імперыі", "Хрысціянскія святыні Кіева", "Мікалай Васільевіч Грыцык" ды іншых.

# Любіць картку!..



Апошняя з работ В. Кіркевіча — "Запіскі збіральніка… Паштовая картка" (Кіеў, 2008 год). У анатацыі да выдання гаворыцца наступнае: "Па гэтай тэматыцы кніга выдаецца ўпершыню не толькі ў нашай краіне, але і ў свеце. Аўтар, падсумоўваючы вынік 40-гадовага збіральніцтва паштовых картак, расказвае пра іх, аб іх значэнні ў інтэлектуальным развіцці грамадства, укладзе ў еўрапейскую культуру, а таксама прыводзіць іх кошт. Гэта цікавы і жывы расповед пра збіральнікаў, у жыцці якіх паштоўкі адыгралі галоўную ролю, якая ўплывала на фарміраванне асобы. Іх апісальныя партрэты суправаджаюцца разважаннямі пра ролю калекцыянераў у выхаванні патрыятызму, любові і павагі да сваіх родных мясцін…"

"Запіскі збіральніка…" багатыя на фактаграфічны матэрыял, чытаюцца лёгка, уражваюць многімі асабістымі судакрананнямі В. Кіркевіча літаральна з усімі героямі кнігі. У сваім расповедзе філакартыст аглядае і плён збіральніцтва на ніве беларусікі.

Даючы характарыстыкі калекцыянерам Латвіі, аўтар піша пра добра вядомага ў Беларусі Вячку Целеша, характарызуе яго як аднаго з найбольш дасведчаных збіральнікаў старых паштовак: "Адзін з актыўных удзельнікаў і арганізатараў выставак, у прыватнасці, "Даўгава — рака дружбы", Целеш быў аўтарам першых і многіх іншых даследаванняў па Беларусі, як беларус і паштоўкі збіраў пра яе".

"Дваццаць гадоў таму я прадаваў па перапісцы паштоўкі В. Пузіне з Гомеля, — піша В. Кіркевіч. — Гомельскі карэспандэнт, пра якога я даўно не чуў, падбіраў і выявы свайго горада". Згадвае аўтар "Запісак збіральніка…" і мінскага калекцыянера Сяргея Туманава. Ён акцэнтуе сваю ўвагу на зборы паштовак з рэпрадукцыямі твораў рускага жывапісу.

Асобая ўвага мэтра украінскай філакартыі ў размове пра беларускіх калекцыянераў звернута на мінчаніна Уладзіміра Ліхадзедава, укладальніка і аўтара многіх альбомаў, выдадзеных у Мінску выдавецтвамі "Рыфтур", "Тэхналогія", РВУ "Літаратура і Мастацтва". "Уладзімір Аляксеевіч утрымлівае першынства ў гэтай краіне са славутым гістарычным мінулым і светлай будучыняй, — піша В. Кіркевіч. — Краязнаўцы ўсіх краін разумеюць, што паштоўкі з выявамі выступаюць вельмі важнай часткай духоўнага развіцця любой краіны. Яго калекцыя з'яўляецца глабальнай, паколькі Ліхадзедаў збірае ўсё, ажно да падрабязнасцей пра друкарні. У першую чаргу яго хвалюе родны Полацк…" Альбом "Сінанога" Уладзіміра Ліхадзедава кіеўскі пісьменнік-краязнаўца называе адным з лепшых выданняў падобнага кшталту за апошні час.

Кніга "Запіскі збіральніка… Паштовая картка" В. Кіркевіча нагадвае пра важны і патрэбны клопат апісання калекцый і збіральнікаў беларусікі. І не толькі ў галіне філакартыі, але і фалерыстаў, філатэлістаў, нумізматаў і нават філуменістаў. На жаль, выданняў падобнага кшталту ў Беларусі няма.

Кастусь ХАДЫКА

На здымку: Віктар Кіркевіч.

Працягваем тэму

**У літаратурных дыскусіях 1920-х — першай паловы 1930-х гг. абсалютызаваўся суб’ектыўны пачатак і асабістыя непаразуменні пачыналі мець ролю крытэрыяў ацэнкі твораў. У сярэдзіне 1920-х у цэнтры такіх дыскусій заканамерна стаяла літаратурна-мастацкае згуртаванне “Узвышша”.**

# «Парнаскае балота» на ўзвышшы

Літаратурна-мастацкае згуртаванне “Узвышша”, як вядома, было ўтворана 26 мая 1926 г. у выніку першага расколу “Маладняка”. Першапачаткова ў яго склад увайшлі Адам Бабарэка, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча, Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Пятро Глебка, Максім Лужанін, Сяргей Дарожны, Васіль Шашалевіч, Змітрок Бядуля. Крыху пазней далучыліся Тодар Кляшторны, Антон Адамовіч, Уладзімір Жылка, Андрэй Мрый. Пераканаўшыся ў бясплённасці масавага літаратурнага руху на прыкладзе “Маладняка”, узвышаўцы рабілі свядомую ўстаноўку на малаколькаснасць сяброў аб’яднання.

У свядомасці ўжо некалькіх пакаленняў філолагаў літаратурна-мастацкае згуртаванне “Узвышша” асацыіруецца найперш з вялікім мастацкім талентам і высокай мастацкай якасцю. Менавіта гэтыя прыкметы, а не пытанні эстэтычнай і паэталагічнай дыферэнцыяцыі, успрымаюцца як узвышаўская аснова. Нягледзячы на некаторую спрошчанасць такога падыходу, пэўная доля рацыі ў гэтым вытлумачэнні ёсць. А. Бабарэка ў следчых паказаннях 1930 г. такім чынам апісваў гісторыю ўтварэння “Узвышша”: “ <...> мне здавалася, што пролетарскую літаратуру трэба тварыць не такім шляхам, якім ідзе “Маладняк”. Для стварэньня высока-мастацкіх твораў, пролетарскіх зьместам, мне здавалася, досыць згуртаваньня, як тады выражаліся, “таленавітых адзінак”, якія цалкам аддаюцца працы ў пісаньні пролетарскіх твораў высокай мастацкай якасьці. Пытаньне аб мастацкай якасьці стала выпукляцца з тае прычыны, што гэта старанна заняхайвалася ў творчай працы “Маладняка”. І калі яшчэ ў “Маладняку” пачала вызначацца група поэтаў і пісьменьнікаў, якія палагалі ўсю сутнасьць літаратурнай працы на стварэньне высока-мастацкіх твораў сугучных сучаснасьці па зьместу і новых па форме, я стаў на старану гэтай групы <...> Гэта былі Ул. Дубоўка, Яз. Пушча і К. Чорны. З маладых таварышаў да іх прымыкалі П. Глебка, М. Лужанін, С. Дарожны. У далейшым да гэтай групы далучыўся Крапіва, які ў “Маладняку” займаў некалькі асобнае месца.

З гэтай групай я і вышаў з “Маладняка” ў маі месяцы 1926 г. дзеля таго, каб практыкай працы літаратурна-мастацкага згуртаваньня “таленавітых адзінак” давесьці правільнасьць свайго разуменьня шляхоў утварэньня пролетарскай літаратуры”.

З першых дзён існавання “Узвышша” апынулася ў напружанай палемічнай атмасферы. Ужо сама назва — “Узвышша” — успрымалася некаторымі пісьменнікамі як абраза ў дачыненні да іх творчасці. З. Жылуновіч, які прысвяціў аналізу першага нумара часопіса “Узвышша” артыкул “Ці сапраўды “Узвышша” ёсць узвышша?” у газеце “Савецкая Беларусь” за 13 мая 1927, даваў наступны каментарый: “Тым ня меней — адколеныя маладнякоўцы назвалі сябе ўзвышаўцамі. Узвышша — гэта, бач, — “камандныя высоты”, пад якімі — разумелася — і старая беларуская літаратура з адраджэнцамі і нават “Маладняк” — нізінамі”.

Відавочна, што самі ўзвышаўцы не закладалі такога падтэксту, выбіраючы назву новаўтворанага аб’яднання. Яна была звязана з вершам У. Дубоўкі “Не дзівіся”, у якім ён заклікаў: “Прыпусціся ў даліну з узвышша, / Каб узняцца ізноў, і – вышай!”. Выкарыстаны А. Бабарэкам у артыкуле “З далін на ўзвышшы”, які лічыцца своеасаблівым перадманіфестам “Узвышша”, гэты паэтычны вобраз стаў сімвалам высокай мастацкасці і быў абраны ў якасці назвы згуртавання. Аднак у нейкім сэнсе выказванні Цішкі Гартнага былі справядлівымі. Напрыклад, крыху пазней, у № 6 “Узвышша” за 1928 год у праграмным артыкуле “Узвышша” перад новым годам БССР” сцвярджалася: “Само ўтварэньне новага літаратурна-мастацкага згуртаваньня азначала сабою пачатак новага этапу ў разьвіцьці беларускай пасьлякастрычнікавай літаратуры. Яно азначала пераход беларускай пролетарскай літаратуры на вышэйшую ступень свайго разьвіцьця”. Атрымліваецца, што ўзвышаўцы свядома атаясамлівалі менавіта сваю творчую праграму з найбольш перспектыўным шляхам развіцця ўсёй нацыянальнай літаратуры.

“Узвышша” вельмі часта ў друку 1920-х гг. называлі “парнаскім балотам”. Другое слова ў гэтым азначэнні не арыгінальнае — выразы “буржуазнае балота”, “балота дробнамяшчанскага побыту” і г.д. былі самай папулярнай лаянкай па тым часе. Куды больш гаваркое першае слова — хоць і балота, але ўсё-ткі “парнаскае”. Атрымліваецца, што і нядобразычліўцы ўзвышаўцаў не столькі выказвалі да іх пагарду, колькі зайздросцілі іх вышэйшасці, таленту, літаратурнаму поспеху.



На здымку: стваральнікі згуртавання “Узвышша” справа налева К. Чорны, У. Дубоўка, К. Крапіва (сядзяць); А. Бабарэка, Я. Пушча (стаяць).

Фота з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

# Двайныя стандарты гучных слоў

Нечаканне маладнякоўцаў мець літаратурных канкурэнтаў стала прычынай супрацьстаяння паміж “Маладняком” і “Узвышшам”. І гэта пры тым, што першыя дэкларавалі захаванне “чулых таварыскіх адносін да вышаўшых таварышаў” (“Савецкая Беларусь”, 10 ліпеня 1926), а другія прынцыпова пазбягалі дыскусій і спрэчак: “Ніякай дыскусіі з маладнякоўцамі распачынаць не зьбіраемся, бо лічым, што кожнае літаратурнае згуртаваньне павінна сьведчыць аб сваёй жыцьцёвасьці і каштоўнасьці ў справе культурнага будаўніцтва ня гучнымі словамі і шыльдамі, а мастацкімі творамі” (“Савецкая Беларусь”, 15 снежня 1926).



САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ

Станьмо на варту!

Савецкая Рада і заграніца.

У ПОЛЬШЧЫ.

Маршал Фош у Польшчы.

Паводле сутнасці сваіх літаратурных прынцыпаў “Маладняк” не мог уступаць з “Узвышшам” у эстэтычную дыскусію: абмяркоўваліся не пытанні літаратурнай творчасці, а пытанні адпаведнасці аўтарскай ідэі ідэалагічным прыярытэтам тагачаснага грамадства. Такім чынам, палеміка паміж прадстаўнікамі абодвух аб’яднанняў вялася на розных узроўнях і магчымасць паразумення адсутнічала загадзя, што прыводзіла да дыскусій паводле распаўсюджанага ў 1920-х гг. прынцыпу “групавой барацьбы”, калі прыналежнасць да пэўнага аб’яднання станавілася крытэрыем ацэнкі твору. Самі ўзвышаўцы ў “Камунікаце беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання “Узвышша”, надрукаваным у “Савецкай Беларусі” 15 снежня 1926 г., характарызавалі такі падыход наступным чынам: “Выходзіць так, што пакуль Адам Бабарэка быў у “Маладняку”, дык яго даклад быў добрым. А калі стаў адным з заснавальнікаў “Узвышша”, дык і даклад нічога няварты”.

Па такім жа прынцыпе будаваліся і адносіны З. Жылуновіча з узвышаўцамі. Аналізуючы ўзвышаўскую дэкларацыю ў артыкуле “Ці сапраўды “Узвышша” ёсьць узвышша?”, крытык зазначае: “... складальнікі дэклярацыі дадумаліся да таго, што рашылі прыпісаць А. Гаруну адбіцьцё “настрояў нацыянальна ўсьвядомленага работніцтва і яго рэвалюцыйнай інтэлігенцыі <...>” — пэўна, дзеля адлічча яго ад Цішкі Гартнага, які, па іхняму, выражаў настроі “нацыянальна і сацыяльна ўсьвядомленага рамесьніцтва”. <...> Алесь Гарун — сталяр, а Цішка Гартны — гарбар. <...> Чаму-ж у ўзвышаўцаў сталяры — рабочыя, а гарбары — рамесьнікі”. Тут прыгадваецца яшчэ адна драбнічка, якая “згубілася” на старонках “Савецкай Беларусі” за 12 кастрычніка 1927 г. у артыкуле Гартнага “Шкоднае ў беларускай літаратуры (Што было і чаго не павінна быць)”: “На дыспуце аб час. “Узвышша” № 1 Язэп Пушча сказаў: Ц. Гартны ня любіць Багдановіча за тое, што той не пахваліў яго вершаў у 1912 г.”. Інакш кажучы, Цішка Гартны і ўзвышаўцаў не любіў за тое, што яны не дааценілі яго такую каштоўную па тым часе “рабочую біяграфію”.

Як правіла, у імкненні дыскрэдытаваць узвышаўскіх пісьменнікаў Тодар Глыбоцкі (Аляксандр Дайлідовіч), пра якога вялася гаворка ў папярэдняй публікацыі, і Цішка Гартны выкарыстоўвалі ідэалагічныя катэгорыі, спрабуючы давесці “палітычную няграматнасць”, “варожасць сацыялістычнаму ладу” і г.д. Зразумела, гэта было адным з самых дзейсных сродкаў стварэння пісьменніку негатыўнай рэпутацыі і адмоўным чынам уплывала на псіхалагічныя ўмовы творчай працы. Гэта стала прычынай таго, што ўзвышаўцы вымушаны былі даваць дадатковыя тлумачэнні прычын выхаду з “Маладняка” і сутнасці сваіх творчых прынцыпаў. 10 ліпеня 1926 г. у “Савецкай Беларусі” быў змешчаны “Ліст у рэдакцыю”: “Тав. рэдактар! просім надрукаваць ніжэйпаданае:

З прычыны таго, што ў зьвязку з выхадам часткі сяброў “Маладняка” з яго складу вынікаюць некаторыя непаразуменьні, лічым патрэбным заявіць, што, нязьменна застаючыся на плацформе пралетарскай ідэалогіі, мы вышлі з “Маладняка” 27 травеня г.г., не згаджаючыся з мэтамі працы арганізацыі і яе характарыстыкай сучаснага становішча беларускай пралетарскай літаратуры”. Падпісаліся пад гэтым лістом А. Бабарэка, П. Глебка, У. Дубоўка, К. Крапіва, М. Лужанін, Я. Пушча, С. Серада, П. Трус, К. Чорны, В. Шашалевіч. Праўда, ніжэй у той жа калонцы “Лісты ў рэдакцыю”, змешчаны і допіс П. Труса, у якім ён паведамляў, што “пасьля некаторых разважаньняў лічу свой выхад (з “Маладняка” — К.Ж.) памылкаю і дзеля гэтага зноў уступаю ў шэрагі аб’яднаньня “Маладняк”.

Вельмі важна адзначыць наступны момант: сам падыход да арганізацыі “Узвышша” прынцыпова адрозніваўся ад “Маладняка”. Калі ў апошнім рабіўся акцэнт менавіта на масавасці, калектыўнасці, то першыя падкрэслівалі найперш адметнасць творчай індывідуальнасці. Па вялікім рахунку, арганізацыйная форма аб’яднання была патрэбная ўзвышаўцам настолькі, наколькі праблематычна было існаваць у тагачаснай літаратурнай атмасферы пісьменнікам-адзіночкам. Для ўзвышаўцаў важным было не стварэнне новага аб’яднання як такога, але стварэнне спрыяльных умоў для творчай працы.

Пацвярджэннем гэтаму можа служыць і стаўленне ўзвышаўцаў да сяброў свайго згуртавання. Напрыклад, у 1929 г. сакратару ЦК КП(б)Б В. Кнорыну прэзідыум літаратурна-мастацкага згуртавання “Узвышша” накіраваў дакладную запіску, у якой быў прапанаваны план правядзення дваццацігадовага юбілею творчай працы Змітрака Бядулі (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4п., воп. 1, л. 2498). Пры гэтым копіі былі разасланыя Старшыні ЦВК А. Чарвякову, Старшыні Нацкамісіі ЦВК А. Хацкевічу, Старшыні СНК М. Галадзеду, Старшыні Інбелкульта У. Ігнатоўскаму і ў Беларускае дзяржаўнае выдавецтва. У такой пастаноўцы пытання выяўляўся не толькі клопат пра канкрэтнага пісьменніка-калегу, але і клопат пра адпаведны статус пісьменніка ўвогуле ў тагачасным беларускім грамадстве.

Паказальным падаецца і той факт, што яшчэ падчас знаходжання ў “Маладняку”, запаўняючы анкеты ўдзельнікаў першага з’езда, на пытанне “Да якога літаратурнага кірунку вы сябе залічваеце?” толькі два пісьменнікі зрабілі кароткі запіс “самаст.” (самастойны – К.Ж.) (БДАМЛМ, ф. 225, воп. 1, спр. 6, л. 14): Кузьма Чорны — афіцыйны старшыня “Узвышша” — і У. Дубоўка — рэальны лідэр згуртавання. (Абсалютная большасць называла сваім літаратурным кірункам “маладнякізм” альбо “Маладняк”). Гэта не можа не сведчыць аб прынцыповасці творчай пазіцыі. Нездарма ўзвышаўцы падкрэслівалі, што не аб’яднанне вызначае кірунак творчасці пісьменніка, а прырода яго таленту. У тым жа “Камунікаце беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання “Узвышша” адзначалася, што “ўсе вядомыя нам беларускія пісьменьнікі выявіліся як пісьменьнікі выключна праз друк (газэты і часопісі), а не праз літаратурныя групы”.

Зразумела, раскол “Маладняка” быў заканамерны і непазбежны. Як вядома, сіла дзеяння роўная сіле супрацьдзеяння: чым больш у маладнякоўскай творчай практыцы назіраўся ўхіл да прымітывізацыі мастацкіх задач, тым больш вострa адчувалася патрэба ў вызначэнні эстэтычных кірункаў творчасці. Аднак была і канкрэтная прычына, якая справакавала ці, прынамсі, паскорыла выхад шэрага пісьменнікаў з “Маладняка”. Маецца на ўвазе надзвычай негатыўная ацэнка зборніка вершаў У. Дубоўкі, якая выказвалася вялікай колькасцю сяброў аб’яднання. Гэта дало падставы кіраўнікам “Маладняка”, у прыватнасці, М. Чароту, разглядаць менавіта У. Дубоўку як ініцыятара “расколу”. У дакладзе на сходзе Віцебскай філіі, які адбыўся 10 чэрвеня 1926 г., М. Чарот адзначаў: “...нядаўна група членаў аб’яднання на чале з Дубоўкам вышла з “Маладняка”. Галоўнымі матывамі выхаду імі вызначаліся ўціск з боку некаторых членаў ЦБ [Цэнтральнага Бюро “Маладняка” – К.Ж.], патрэба адмовіцца ад грамадзянскай працы, ухіліцца ад абцяжарывання сябе філіямі, патрэбы ўтварэння Саюзу сапраўды таленавітых адзінак і г.д. Зразумела, гэтыя прычыны не абаснаваны і ня ўлічваюць умоваў сучаснай працы. Выхад быў выкліканы рэцэнзіяю на Дубоўку ў “Маладняку”...” (БДАМЛМ, ф. 225, в. 1, спр. 17, л. 81).

Вядома, уплыў так званых асабістых, суб’ектыўных чыннікаў на развіццё літаратурнага працэсу нельга абсалютызаваць, але нельга і недаацэньваць. Стварэнне “Узвышша”, з аднаго боку, стала вынікам аб’ектыўнага развіцця літаратурнага руху першай трэці ХХ стагоддзя, з другога – ініцыятывай канкрэтнага пісьменніка. Іншая справа, што і апошняе, па вялікім рахунку, адлюстроўвае аб’ектыўныя заканамернасці пэўнай культурнай сітуацыі.

Фота аўтара

Матэрыялы паласы падрыхтавала Жанна КАПУСТА

# Тая, што не стамлялася жыць небам

20 лютага 2010 года споўнілася б 65 год з дня нараджэння беларускай паэтэсы Таісы Бондар — аўтара шэрага паэтычных зборнікаў ("Захапленне", "Акно ў восень", "…І голас набыла душа" і інш.), апавяданняў ("Выпадак", "Голас", "Кандыдат у шчаслівчыкі" і інш.), аповесцей ("Марыя па Хрысце", "Паветраны замак на дваіх", "Дзённік жанчыны"), раманаў ("Мечаная", "Спакуса"), лаўрэата прэміі "За адраджэнне" (2004).



Таіса Бондар нарадзілася ў лютым 1945 г., калі полымя Вялікай Айчыннай вайны яшчэ не было патушана. Пра той час Т. Бондар выказалася: "Я выйшла з зімы, // Якая ў зямлянках гібела, // Дыханнем адтайвала хлеб // З пражылкамі лёду…"; "Год нараджэння… Год сусветнай веры // У мір для ўсіх — надоўга — на вякі…". Нездарма ў ранняй творчасці Т. Бондар ваенная тэматыка займае вядучае месца, а сама аўтар вершаў выступае праціўнікам любых чалавечых сутычак. Успаміны пра вайну адгукаюцца болем і душэўнай трагедыяй.

Ёсць месцы на зямлі,
Куды нас не цікуднасць,
А боль прыводзіць,
найсвяцейшы боль,
На стрэчы з памяццю
стагоддзя
І — з сабой…
Дыван травы
сняжынкамі затканы.
Між дзвюх сівых раўнін
Струной напятай —
Сасны жывое цела. Сны зямлі
Шчэ трызняць цудам,
а гадоў прыліў
Дарэмна будзіць
спаленыя хаты,
І плач дзяцей,
І роспач рук жаночых…

Так жа шчымліва пра пару маладосці Таіса Бондар пісала ў "Лістах наўздагон": "Але ж хіба была ў мяне маладосць? Добра, што ратавала праца. Змалку. Добра, што ў працы я знаходзіла радасць. Інакш — ці згулялася б, ці рукі на сябе наклала".

У дэбютным зборніку "Захапленне" шчырасць паэтычнай думкі перамяжоўваецца часам з трагічнасцю светаадчування лірычнай гераіні. Кранальнасцю адрозніваецца вершы паэтэсы на тэму Радзімы. У адным з патрыятычных твораў паэтэса просіць прабачэння ў роднай зямлі за тое, што "здрадзіла ёй", паехаўшы за мужам у далёкую Малдову (доўгі час працавала настаўніцай у г. Фалешты).

Усё часцей я сумую.
Не толькі ў працы,
Не знаходжу ад думак
Збавення і ў сне.
Не хацела я, край мой,
Цябе адцурацца,

Калі колісь за любым
Паехала ўслед…

Нягледзячы на трагедыйныя ноткі ў выказваннях лірычнай гераіні "Захаплення", гэты зборнік па гучанні, бадай, самы жыццярадасны і пафасны з усіх бондараўскіх кніг паэзіі. Ужо назва другога паэтычнага зборніка "Акно ў восень" указвае на змены настрою носьбіта паэтычнага перажывання. Былое захапленне жыццём, якое ўспрымалася як свята, саступае места восеньскім тузе і роздуму. З пазнаннем будзённага жыцця мяняецца танальнасць паэтычнага радка, прыкметнаю становіцца філасофская дамінанта.

Акно надзеі адчыняю ў восень:
Хай забягаюць
у пакой дажджы —
Ля печы сушаць
мокрае калоссе!

Навізной мастацкага мыслення адрозніваецца кніга паэзіі "…І голас набыла душа" (1980). Цэнтральнымі тэмамі выступаюць тэма кахання, паэта і паэзіі, матывы адзіноты, вышыні. Матыў неба (вышыні) — адзін з самых пашыраных у творчасці паэтэсы. Неба ў яе становіцца сінонімам непахіснай веры, надзеі чалавека на здзяйсненне сваіх задум ("Я смяяцца буду над часам: // Ён — бяссільны. // Неба — ўва мне"). Увядзенне вобраза неба ў аповесці "Паветраны замак на дваіх" абумоўлена неабходнасцю выказаць аўтарскую пазіцыю ў дачыненні да праблемы духоўнасці ("Чалавек заслугоўвае вечнасці і душа яго павінна ачысціцца ад усяго цёмнага і балючага ў ёй, каб наблізіцца да неба. Да неба не ў значэнні "раю", а ў значэнні вышыні, духоўнага ўздыму, духоўнага прасвятлення"), дзе зварот да неба — гэта пераадоленне сучаснага духоўна-маральнага крызісу грамадства.

Лірыка Таісы Бондар адлюстроўвае генетычную дваістасць душы гераіні, якая, з аднаго боку, ідэалізуе неба, вышыню, імкнецца туды ў думках, з другога, адчувае зямное прыцягненне:

Я зямная, я ўсё-ткі зямная!..
Я два лёгкіх крылы аддаю
За сцяжынку дажджлівага маю,
За трывожную ўсмешку тваю.

Дваістасць носьбіта лірычнага перажывання назіраецца таксама ў вершах Т. Бондар на тэму паэта і паэзіі. З аднаго боку, мастачка слова "выпісвае" скаргу пісьменнікам, інкрымінуючы ім мройнасць і празмерную ідэалізацыю свету:

Ах, гэтыя паэты! Чарадзеі
На службе
ў падманлівай надзеі.
Спяшаюцца.
Такая недарэчнасць! —
Рассоўваючы
па кішэнях вечнасць.

З другога, Т. Бондар складае своеасаблівы "кодэкс паэта". Патрабаванні адоранасці, таленавітасці выступаюць асноўнымі ў адносінах да стваральнікаў мастацкіх твораў: "Не трэба паслабленняў. Ані ў чым. // Для ўсіх адной-адзінай меркай — талент". Важным прынцыпам творчасці паэтэса лічыць праўдзівасць у адлюстраванні падзей:

Дазвол на праўду?
На адкрытасць?
Ды стане мужнасці пяру
З пагардаю адпрэчыць літасць
Да тых, хто быў "не ко двору".

Тэма кахання і матыў адзіноты ў лірыцы Т. Бондар неразрыўныя. Яскравым доказам гэтага з'яўляецца зборнік "Адна", які пабачыў свет у 1989 г. Адносіны паміж мужчынам і жанчынаю, разнастайнасць перажыванняў (любоў спазнаная, несустрэтая, аднабаковая, падманная, ахвярная) ва ўспрыманні жанчыны складаюць аснову названага зборніка, у назве якога схавана аўтарскае ўказанне на адзіноту лірычнай гераіні. Канстанта "адзінота" ў вершах Т. Бондар дазваляе нам ужыць метафарычную назву "пяснярка адзіноты".

Носьбіт паэтычнага перажывання Т. Бондар адрозніваецца трагічнасцю светаўспрымання, што замацавана на лексічным узроўні вершаў: у іх адчуваецца бяда, гора, адзінота, маўчанне, туга, пакута, схаваныя за метафарамі зімы, сцюжы, снег, лёд, холад, мароз.

Шэры, даўкі ад горкіх слоў,
Сон бяссонне
маё не здужаў:
Дзень, усплёск яго купалоў
Нада мной,
адбяліла сцюжа.

Трагічныя рэфлексіі гераіні не толькі вызначаюць сумны настрой большасці вершаў Таісы Бондар, але і тлумачаць ужыванне ў іх царкоўнай сімволікі (храм, царкоўны звон, свяча, купалы царквы). В. Макарэвіч, параўноўваючы вершы Т. Бондар з літургічнымі песнапеннямі, звяртаў увагу на сувязь лірыкі паэтэсы са Святой Біблія. Паэтычны зборнік "Адна" нагадвае споведзь гераіні сабе, каханаму, свету.

О, як мне трэба
знайсці малітву
І ўратаваць ёй
сваю душу,
І ўратаваць! —
тым, не забытым,
Што так балюча
ў сабе нашу.

У зборніках апошняга перыяду творчасці ("Час душы, мой час вячэрні…", 1995; "На крылах веры", 2006) асноўнае месца займаюць вершы-роздумы пра каштоўнасці, найгалоўнейшай з якіх для гераіні з'яўляецца духоўнае жыццё, Дух, Любоў. Тэма жыцця разгортваецца паэтэсай у рэчышчы пошуку адказаў на пытанні: "Хто я? Каго Сусвет ва мне ўвасобіў?". Гераіня Т. Бондар, не падзяляючы думку М. Багдановіча, які сцвярджаў, што "ўсе мы толькі падарожныя", сцвярджае наяўнасць дзейснага пачатку ў чалавеку. Яна — "госць і стваральнік у адной асобе". Апроч таго, лірычная гераіня — апалагет жыцця: "Любая думка прад Жыццём малая", апалагет бязмежнай Любові, увасобленнем якой для самой паэтэсы з'яўляецца Бог.

Наталля ГЕТМАН-КРЫВЕЦКАЯ

---

Эсэ

# Айчына — гэта мы!

Анатоль Сыс — не толькі "кароль паэтаў", але і наш агульны боль, незалежна ад таго, хто ты ёсць: інтэлектуал, знаўца літаратуры ці селянін з ваколіцаў палящукага Прыдняпроўя. У феномене Анатоля Сыса будуць яшчэ доўга разбірацца — як сучаснікі, для якіх яго постаць была явай, так і нашчадкі, для якіх ён будзе выключна легендай. Хочацца падзяліцца сваімі развагамі на гэты конт, бо залішне многа чутак і разваг сёння віруе вакол лёсу і творчасці гэтага паэта…



## Палессе — край чугайстраў

Вы запытаецеся, хто такі чугайстра?

Гэткім паэтычным, прыгожым словам палешукі называюць тое, што па-англійску завецца "есі", а па-руску — "снежный человек", то бок унікальную ва ўсіх адносінах пароду людзей. Думаю, своеасаблівае геапалітычнае становішча гэтага беларускага рэгіёна захавала выключную генафондна-ментальную аснову, названую Алесем Разанавым "дрыгвой", якая і нараджае такіх незвычайных людзей, як Анатоль Сыс. І сапраўды, паляшуцкія лад мыслення і жыцця апелююць да сакральнага ўспрымання рэчаіснасці. Таму нават у сталічным мегаполісе, які нівелюе ўсё і ўсіх, палешукі заўсёды вылучаюцца сваёй невыкаранільнай адметнасцю, якая праяўляецца перадусім у характары.

Прынцыповых палешукоў трэба разумець, калі хочаш з імі кантактаваць. Іх унёсак у скарбніцу нацыянальнай культуры і мастацтва велізарны — дастаткова прыгадаць Івана Мележа альбо Міхала Дубянецкага…

Вытокі чалавечай і творчай прыроды Анатоля Сыса менавіта там, у краі "незвычайных" беларусаў, краі "чугайстраў", толькі ў ім мог нарадзіцца такі магутны паэт… Дрыгва нам адкрые яшчэ не адну таямніцу і праявіць яшчэ не аднаго генія і прарока.

## Ягамосць

Калі зыходзіць з тэорыі Гегеля "пра таленtaў і геніяў", г.зн. аддаваць перавагу выключна заходнееўрапейскаму падыходу да ацэнкі асобы творцы і яго творчасці, дык постаць Анатоля Сыса не ўкладваецца ў прапанаваныя філосафам межы мастацтва.

У асэнсаванні такіх феноменаў, як Анатоль Сыс, я прапанаваў бы зыходзіць з пункта гледжання біблійнага, і найперш — старазапаветнага.

На мой погляд, Анатоль Сыс быў менавіта прарокам, у гэтым бачыў сваю галоўную ролю не толькі ў паэзіі, але і ў жыцці, бо паэзія для яго і была жыццём, а жыццё — паэзіяй.

Вывучаючы духоўны вопыт сусветнага і нацыянальнага мастацтва слова, прыходзіш да думкі, што ў беларусаў (як і ўвогуле ў славян) ролю прарокаў, захавальнікаў духоўнасці і настаўнікаў народа, напэўна, па задуме Боскай, з даўніх часоў узялі на сябе паэты і музыкі. Гэтыя абраныя людзі, дзякуючы іх жыццёваму і духоўнаму вопыту і абвостранай творчай інтуіцыі, выдатна ўсведамлялі сваё прызначэнне. Такім быў і Анатоль Сыс. Перачытваеш яго ныя кнігі і падборкі вершаў у перыёдыцы і думаеш пра спраўджанасць многіх яго ных прароцтваў, увасобленых і ў метафарычных вобразах паэтычнага тэксту, і ў глыбінях падтэксту.

…Паэт сказаў: "П'ем за Айчыну!"
І кожны выпіў за сябе…

## Яго агмень

Ці разумеў Анатоль Сыс сваё прызначэнне?

Калі мець на ўвазе асноўную задачу прарока паводле Бібліі — данесці Боскую Задуму да ўсіх і да кожнага, ці, кажучы словамі Янкі Купалы, духоўным сынам якога лічыў сябе Анатоль Сыс, "з цэлым народам гутарку весці, сэрцаў мільёнаў падслухаць біццё", — мяркую, што так.

Паэтаў, якія праз сваё мастацкае і жыццёвае, часам жорсткае, але справядлівае слова імкнуліся данесці існае, не забываючы на спадзевы бліжніх сваіх, ставячыся да кожнага, як да роўнага сабе, — у нашай літаратуры можна пералічыць па пальцах. Вось дзе відавочная адмеціна прарока!

Пасля Купалы і Караткевіча Сыс, напэўна, адна з найбольш яркіх постацей празорліва-прароцкага кшталту ў нашай паэзіі (сярод тых, хто на гэты час ужо сумоўяўся з Богам). Галоўны запавет свайго "духоўнага айца" "сын" засвоіў добра.

Адной з вызначальных асаблівасцей жыццёвага і паэтычнага крэда Анатоля Сыса быў непасрэдны зварот да самой сутнасці чалавечай душы, у якой ён, як добры псіхолаг, выяўляў самае патаемнае.

Ці быў Анатоль Сыс духоўным камертонам для нашай творчай эліты? На маю думку, безумоўна быў. І ў часы "Тутэйшых", і пазней свой крыж паэт нёс годна; у апошні перыяд свайго сталічнага жыцця ўласную прароцкую задачу ён адчуваў найбольш абвострана.

Калі ў пачатку 1990-х Анатоль Сыс актыўна імкнуўся навучаць моладзь, несці праз паэзію праўду, заклікаў да абуджэння грамадскасці і беларускага духу, то пазней ён звярнуўся да жорсткага эпатажу — тады, калі, здавалася, нікто нікога не чуў і "сама зямля сыходзіла з-пад ног". Думаю, такім чынам паэт-легенда, да меркавання якога шмат хто прыслухоўваўся, даваў зразумець: культура — па-за амбітнымі гульнямі палітыкаў, яе набыткі і сапраўдныя духоўныя каштоўнасці не падлягаюць падзелу, нікто не мае на іх выключнага права…

## Лён жыцця

Вопыт жыцця і творчасці унікальнага паэта, на жаль, не быў належна ацэнены пры яго жыцці. Толькі цяпер мы вучымся па-сапраўднаму разумець спадчыну Анатоля Сыса.

Многія звязваюць залішне ранні сыход Анатоля Ціханавіча і з абставінамі яго нарадження, апісанага самім паэтам у вершы "Неапаленая купіна", і з тым, што нарадзіўся ён напярэдадні Змітраўскіх Дзядоў.

Не бачу тут ніякай містыкі, але, аналізуючы абставіны жыцця і смерці Анатоля Сыса, думаў шмат пра што…

Можа, сапраўды, беларускі прарок павінен з'ехаць з роднай краіны, каб выжыць, альбо заўчасна памерці, не маючы разумення і падтрымкі?

Не ведаю.

Але ведаю, што дадзеныя Богам гэтаму чалавеку дар і энергія засталіся нерэалізаванымі.

Зараз можна доўга разважаць пра тое, што адбывалася на пачатку траўня 2005 года ў мінскай кватэры паэта, але відавочным застаецца адно: Айчына, якой ён апантана служыў у імя Бога, мусіць шанаваць свайго Паэта хаця б пасля яго най смерці, бо (яшчэ раз нагадаю паэтавы словы) Айчына — гэта мы!

Сяргей ПАТАРАНСКІ

Кожны, хто шукае паратунку ад штодзённых мітрэнгаў, ад непагодлівых і шэрых будняў, ад руцінных спраў, ад уласнай меланхоліі дый іншых жыццёвых непрыемнасцяў, можа знайсці яго без дапамогі тэрапеўта, заспакаяльных лекаў і экзатычнага падарожжа. Крыніца пазітыўнага настрою знаходзіцца не ў бесклапотным сне ці ў віртуальнай прасторы: яна зусім побач, у фантазійным, але насамрэч рэальным свеце, створаным дзятвой і падлеткамі пад кіраўніцтвам маладых настаўнікаў ды мудрых майстроў.












# Планета Фантазія

Вось ужо амаль месяц мінуў, як юныя таленты з усёй нашай краіны ператварылі выставачную прастору Нацыянальнага цэнтра мастацкай творчасці дзяцей і моладзі ў прыгожую планету, імя якой — Фантазія. А называецца гэтая Рэспубліканская выстаўка калектываў студый дэкаратыўна-прыкладной творчасці, ганараваных званнем "народны", устаноў пазашкольнага выхавання і навучання "З рога ўсяго многа": па-беларуску ёміста і трапна!

Для тых, каму давялося пабываць на адкрыцці выстаўкі "З рога ўсяго многа", яна запомніцца яшчэ і цудоўнымі акапэльнымі песнямі-вяснянкамі, карагодамі, кадрылямі фальклорнага гурта "Верас", каларытным граннем ансамбля старадаўняй музыкі "Cornucopia". А таксама выступленнем пісьменніцы, галоўнага рэдактара часопіса "Бярозка" Алены Масла, якая павіншавала юных творцаў, іх педагогаў ды бацькоў са святам і звярнула ўвагу на гэтае маладзёжнае выданне як на часопіс для творчых людзей і пра творчых людзей, здатны зрабіцца добрым сябрам для ўдзельнікаў выстаўкі, а, магчыма, і паспрыяць прэзентацыі іх мастацтва на ўсю краіну праз адмысловыя конкурсы, што рэдакцыя плануе ладзіць для сваіх чытачоў.

Глядзіш і ў які ўжо раз пераконваешся, што фантазія таленавітых беларусаў і сапраўды, нібы бяздонны казачны рог багацця. Экспазіцыя складаецца з індывідуальных і калектыўных работ у розных відах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Дзяўчаткі ды хлопцы, якім па 8, 11, 14, 17 гадоў, ды іх выкладчыкі прадстаўлялі Старадарожскі цэнтр дзіцячай творчасці "Святліца"; аматарскую студыю "Эксперымент" з Бабруйска; гурток "Чараўніцы" Гомельскага дзяржаўнага абласнога палаца творчасці дзяцей і моладзі; Пухавіцкі раённы цэнтр пазашкольнай работы; узорную студыю "Лялькі" з Бярозы; "Мару" з Дзяржынска, "Маладзік" з Маладзечна і шмат іншых аналагічных асяродкаў — з Мінска, Жлобіна, Барысава, Буда-Кашалёва... Каля паўсотні гурткоў і студый паказалі ўвасобленыя фантазіі сваіх юных майстроў саломапластыкі, ткацтва, керамікі, вязання, вышыўкі, мяккай цацкі, бісерапляцення, адмыслоўцаў спалучэння розных традыцыйных тэхнік, вынаходнікаў арыгінальных спосабаў апрацоўкі прыродных матэрыялаў.

Колькі выдумкі, умельства і стараннасці ўкладзена ва ўвасабленне выяўленчых вобразаў, дэкаратыўных аб'ектаў ці проста прыгожых, віртуозна зробленых функцыянальных рэчаў! Купальскія вяночкі ды велікодныя пісанкі; карункавая, нібы далікатная выцінанка, папараць-кветка, выпаленая на тканіне; пано "Родныя краявіды" з аплікацыі вышываных мініяцюр; тройца зухаватых і пацешных лялек "Бярозаўскія лыжкары" — са звычайнай ільняной кудзелі, як і клапатлівая сарока, і сямейства зуброў; фарсістая лісіца... з саксафонам у лапах і ў хустачцы; пейзажы з бяросты; габелены, паясы, беларускія нацыянальныя строі... Там — улюбёнасць у народную спадчыну, імкненне падтрымаць і захаваць традыцыю; там — адчуванне роднай глебы і спроба эксперыментаваць, улучаючы ў традыцыйную канву запазычаны матыў. Але і там, і там, у кожным творы, — прысутнасць таленту, творчай фантазіі, любові. Таго, што называюць Божай іскрынкай.

"Назву выстаўкі "З рога ўсяго многа" нам параілі спецыялісты з Магілёўскага цэнтра пазашкольнай работы. Экспазіцыя ладзіцца з мэтай папулярызацыі дзіцячай творчасці, прапаганды дасягненняў і творчых вынікаў работы навучэнцаў і педагогаў, прэзентацыі розных метадычных сістэм мастацкага выхавання і мастацкіх тэхналогій. Так, наша імпрэза мае не толькі эстэтычны, але і выхаваўчы сэнс. Выхаванне новых пакаленняў на народных традыцыях, захаванне беларускіх традыцый і ў творчасці, і ў свядомасці нашых нашчадкаў вельмі важна для ўсёй краіны, — мяркуе намеснік дырэктара Нацыянальнага цэнтра мастацкай творчасці дзяцей і моладзі Міністэрства адукацыі Беларусі Кацярына Кузьменка. — Таму на базе выстаўкі адбудзецца рэспубліканскі навукова-практычны семінар "Культурная спадчына як духоўная каштоўнасць у выхаванні і развіцці дзяцей і моладзі". Перад кіраўнікамі студый і гурткоў дэкаратыўна-прыкладной творчасці ўстаноў пазашкольнага выхавання і навучання выступяць вядомыя навукоўцы, педагогі. Плануем таксама падчас семінара наладзіць майстар-класы па традыцыйных відах беларускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва".

Руплівцаў нашай нацыянальнай культуры заўсёды радуе, калі да традыцыйнай беларускай творчасці спрычыняецца моладзь, якая прыходзіць на змену старэйшым майстрам. Гэты супольны праект Міністэрства адукацыі Беларусі ды Нацыянальнага цэнтра мастацкай творчасці дзяцей і моладзі, безумоўна, паспрыяе пошуку і падтрымцы юных талентаў у галіне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, а гэта значыць — далейшаму развіццю самабытнай народнай творчасці. Для звычайных жа гледачоў выстаўка "З рога ўсяго многа", якая працягнецца да 15 сакавіка, будзе крыніцай святочнага настрою. А, можа, і творчага натхнення?

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: і сапраўды, "З рога ўсяго многа"!

Фота Віктара Кавалёва

## У наступным нумары «ЛіМ»

Гліна, вада і агонь... Тры адвечныя і нязменныя складнікі традыцыйнага беларускага промыслу і традыцыйнага нацыянальнага мастацтва. Гліна, вада і агонь — тры стаўпы для керамікі, яе жыццёвая неабходнасць. Ды ёсць яшчэ і творчы складнік. Наколькі ён уплывовы? Вядома, да пачатку XXI стагоддзя "абагульненае аблічча" традыцыйнай беларускай керамікі мянялася, фантазіі мастакоў і развіццё новых тэхналогій пакідалі на ім гэтак званы крэатыўны адбітак. Дык ці магчыма ў гэтай галіне творчасці сказаць нешта прынцыпова новае, ці здатны сучасны творца-кераміст здзівіць спанатранага знаўцу мастацтва нейкім адкрыццём? Шукайце адказ на гэтае пытанне пад рубрыкай "Сядзіба муз", у нататках пра творчасць мастакоў-керамістаў Калтыгіных: знакамітага бацькі, лаўрэата спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за 2009 год Валерыя Калтыгіна, і яго паспяховага сына Максіма.

З глыбінкі

## «Soli Deo Gloria»

Такія словы, якія азначаюць "Аднаму Богу Слава", занатоўваў на нотах на завяршэнне кожнага свайго твора славуты кампазітар Іяган Себасцьян Бах. Дабрачынны вечар у імя Боскай улады музыкі адбыўся ў Лунінецкай дзіцячай школе мастацтваў.

Камерны ансамбль "Канцэрціна" з 2004 года носіць высокае званне "ўзорны". Цяпер яго склад цалкам змяніўся. У калектыў прыйшлі навучэнцы малодшых класаў, якіх літаральна не бачна з-за пюпітраў! Але юныя музыканты пад кіраўніцтвам таленавітага выкладчыка Эдуарда Белавуса разам з вопытным канцэртмайстрам Валянцінай Савінкінай уразілі разнастайнасцю рэпертуару і майстэрствам выканання твораў. Інакш не магло і быць: у ансамблі выступаюць вучні, якія ўжо даказалі свае мастацкія здольнасці паспяховымі вынікамі ў раённым фестывалі.

У малодшай групе пераможцай стала вучаніца мастацкага кіраўніка "Канцэрціна" другакласніца Альбіна Гушча. Прызёры — выхаванкі Вольгі Белавус: другакласніцы Аня Белавус (II месца) і Валерыя Бузынчык (III), у сярэдняй групе — вучаніца чацвёртага класа Аляксандра Мшар (III месца). Граматамі адзначаны яшчэ дзве канкурсанткі — Аляксандра Даніловіч і Юлія Калянковіч. Захоплены музыкай і іншыя ўдзельніцы ансамбля — чатвёртакласніцы Насця Ракові і Яна Мелюх, трэцякласніцы Святлана Грабовіч, Паліна Цяльпук і Яна Емяльянава.

Водгукі "брава!" і "малайцы!" суправаджалі выкананне "Менуэта" Леапольда Моцарта (у апрацоўцы Шувалава). Завяршальная "Здравіца" Сушавай выклікала авацыі аўдыторыі, якую сабраў невялікі камерны пакой ДШМ. Як у чарговы раз не пашкадаваць пра адсутнасць сапраўднай канцэртнай залы, вартай здольнасцей педагогаў і выхаванцаў школы...

Ансамблю і салістам шчыра падзякаваў іерэй Сергій Крышталь — настаяцель Лунінецкай царквы, якая будуецца ў гонар іконы Божай Маці. Дабрачынны вечар адбываўся на карысць храма. На завяршэнне канцэрта гледачы з задавальненнем апускалі грошы ў кардонную скарбонку, радуючыся магчымасці ацаніць працу юных музыкантаў богаўгоднай справай у цяперашні час перадвелікоднага посту...

Таццяна КАНАПАЦКАЯ

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3072
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 4.03.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 1013
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12